ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ ДВУХТЫДНЁВІК

ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ VIII

№ 8

30-га КРАСАВІКА 1934 г.

## ЗМЕСТ

Стар.

**Перадавы**—За большэвіцкую дысцыпліну і планавыя перавозкі на транспарце . . . . . . 2

**Чорны**—Задачы распрацоўкі плана другой пяцігодкі народнай гаспадаркі БССР . . . . .

**Кладавікоў**—Ліквідаваць адставанне харчовай прамысловасці БССР . . . . . . . . . 14

**Стырнэ**—Аб падрыхтоўцы кадраў для сельскай гаспадаркі . . . . . . . . . . . . . . 27

**Бронштэйн**—Мастацкая літаратура к першаму з'езду савецкіх пісьменнікаў . . . . . . 33

**Сапір**—Ленінізм у барацьбе з буржуазнымі плынямі ў біялогіі. . . . . . . . . . . . . 51

**КАНСУЛЬТАЦЫІ**

**Ператворым чыгуначны транспарт ва ўзорную галіну народнай гаспадаркі** . . . . . 75

**Кліменчыч і Ігнатаў**—Барацьба з адходам цялят . 83

**Кніжная паліца** . . . . . . . . . . . . 90

**ПАСТАНОВЫ ЦК КП(б)Б** . . . . . . . . . 95

Адрас рэдакцыі:

Менск, Чырвонаармейская вул. ЦК КП(б)Б. пакой № 105.
Тэлефон рэдактара: па камутатару—80, адк. сакратара—12; гарадскі: 21044.





Перадавы

# За большэвіцкую дысцыпліну і планавыя перавозкі на транспарце

Чыгуначны транспарт з'яўляецца важнейшым эканамічным нервам нашай краіны. Ад яго бесперапыннай работы залежыць выкананне народна-гаспадарчага плана, умацаванне абараназдольнасці нашай краіны. Гэта з асаблівою сілай падкрэсліў у сваім дакладзе на XVII партз'ездзе тав. Сталін:

«Мы дабіліся таго, што асноўныя пытанні прамысловасці вырашаны правільна, і прамысловасць стаіць цяпер цвёрда на нагах. Мы дабіліся таго, што асноўныя пытанні сельскай гаспадаркі таксама вырашаны правільна, і сельская гаспадарка—мы можам сказаць гэта прама—таксама стаіць цяпер цвёрда на нагах. Але мы можам пазбавіцца гэтых дасягненняў, калі наш таваразварот пачне кульгаць, і транспарт акажацца ў нас гірай на нагах».

«Транспарт з'яўляецца тым вузкім месцам, аб якое можа спатыкнуцца, ды, бадай, ужо пачынае спатыкацца ўся наша эканоміка і, перш за ўсё, наш таваразварот».

«Таму задача... рашучага палепшання транспарта з'яўляецца той чарговай і актуальнейшай задачай, без вырашэння якой мы не можам рухацца ўперад».

Тым часам транспарт па-ранейшаму прадаўжае заставацца самым вузкім месцам народнай гаспадаркі краіны. Ён дрэнна спраўляецца з перавозкай важнейшых прамысловых грузаў. Перабудова чыгуначнага транспарта моцна зацягваецца. Яшчэ не ліквідаваны тыя шматлікія арганізацыйныя непаладкі і канцэлярска-бюракратычныя метады кіраўніцтва, якія неаднокраць указваліся ў рашэннях партыі і ўрада і якія перашкаджаюць паяздам рухацца хутчэй, перашкаджаюць найлепш выкарыстаць паравозны і вагонны парк.

«Асноўным недахопам кіраўнікоў дарогі і раёнаў як на лініі гаспадарчай, так і палітаддзельскай з'яўляецца няведанне сапраўднага становішча спраў на станцыі, дыстанцыі, дэпо. Гэта цалкам адносіцца да НКПС, да кіраўніцтва большасці дарог Саюза»—гаворыцца ў пастанове ЦК ВКП(б) і СНК СССР «Аб рабоце Данецкай дарогі».

На транспарце да апошняга часу мелі месца шматлікія грубыя нарушэнні дзяржаўнай дысцыпліны. Выразілася гэта ў тым, што дру-

гарадныя грузы перавозіліся па-за планаў ва ўшчэрб перавозкам агульнадзяржаўнага значэння.

«Мясцовыя совецкія і партыйныя арганізацыі большай часткай не толькі не змагаюцца з парушэннямі дзяржаўных планаў чыгуначных перавозак, але самі штурхаюць кіраўнікоў дарог, раёнаў, станцый на перавозку мясцовых грузаў ва ўшчэрб агульнадзяржаўным, аказваючы націск усімі спосабамі, у тым ліку рознага роду «услугамі», з'яўляючыміся па сутнасці ўзяткамі» (з пастановы ЦК і СНК).

У Менску доўгі час на станцыі арудавала зграя ўзятачнікаў, жулікаў, якія сістэматычна прасоўвалі пазапланавы груз ва ўшчэрб агульнадзяржаўнаму. Гаспадарнікі раду нашых прадпрыемстваў (фабрыка «Окцябр», завод імя Варашылава, Белшвейтрэста і інш.) не толькі не змагаліся з гэтымі агіднасцямі, а фактычна іх заахвочвалі. Аналагічныя з'явы мелі месца і на станцыях Віцебск, Гомель, Орша і інш.

СНК СССР і ЦК ВКП(б) у пастанове ад 23 сакавіка «Аб планаванні перавозак і палепшанні работы мясцовых органаў НКПС» далі чыгуначнікам большэвіцкую праграму палепшання справы перавозак.

План перавозак падзялілі на 2 катэгорыі. Першая катэгорыя грузаў агульнадзяржаўнага значэння і плануецца НКПС у цэнтралізаваным парадку. Грузы другой катэгорыі плануюцца начальнікамі дарог. Выключная важнасць гэтага рашэння заключаецца і ў тым, што яно высоўвае галоўнейшае звяно чыгуначнага транспарта— станцыю, рашуча павышаючы яе ролю і значэнне.

Унесці ў работу станцыі большэвіцкую арганізаванасць, выразнае планаванне, устанавіць жалезную дысцыпліну—у гэтым баявая задача начальнікаў, партыйных і прафесіянальных арганізацый станцый і мясцовых (тэрытарыяльных) партыйных камітэтаў (горрайкомаў).

Прайшло звыш месяца са дня апублікавання пастановы СНК і ЦК аб планаванні перавозак, аднак шматлікія факты са Жлобінскага, Віцебскага, Оршанскага і Гомельскага чыгун. раёнаў гавораць, што на нашых станцыях няма яшчэ неабходнага пералому ў рабоце. Красавіковы план перавозак па важнейшых нашых раёнах быў сарваны. Асабліва дрэнна справа з выкананнем красавіковага плана перавозак па Жлобінскаму эксплаатацыйнаму раёну: план выканан на 87 проц.

Толькі па двух эксплаатацыйных аддзяленнях, Жлобінскаму і Оршанскаму, за першыя дзве дэкады красавіка не былі выкарыстаны звыш 1200 вагонаў, прадастаўленых у планавым парадку пад перавозкі.

Такое становішча,—як адзначае ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове,— ёсць рэзультат фармальна-бюракратычных і рвацкіх адносін да планавання перавозак з боку кліентуры, рэзультат дрэннай работы гаспадарчых арганізацый па выкананню сваіх вытворчых планаў.

Менская войлачна-вяровачная фабрыка з прадастаўленых ёй 50 вагонаў ад 26 вагонаў адмовілася, матывуючы адсутнасцю гатовай прадукцыі. На ст. Фаніпаль (МББ чыг.) менскай электрастанцыі было прадастаўлена 150 вагонаў пад пагрузку торфу, але яна адмовілася ад гэтых вагонаў.

Кіраўніцтва Белкааплодагародніны (тав. **Зелічонак**) і Белплодагародніны (тав. **Анікейчыкаў**) зрабілі на красавік месяц яўна нерэальныя, дутыя заяўкі на вагоны пад бульбу. Ужо 3-га красавіка Белплодагародніна звярнулася да начальніка оршанскага аддзялення з просьбай зменшыць іх заяўкі на 37 вагонаў з ліку 58 вагонаў, адпушчаных дарогай. Адмовіліся ад вагонаў рагачоўскі райзаг Белплодагародніны, шклоўскае аддзяленне і інш.

Вялікая колькасць нявыкарыстаных вагонаў, асабліва па Жлобінскаму раёну, падае на сістэму Наркамлеса. ЦК КП(б)Б абвясціў суровую вымову наменіку дырэктара Эльвода т. **Боўтруку** за дачу яўна перапавялічаных заявак пад перавозку торфу, справа аб ім перадана пракурору для прыцягнення да адказнасці ў судовым парадку.

Прыцягнуты да суровай адказнасці работнікі Белкааплодагародніны і Белплодагародніны. Дырэктар лямцавай фабрыкі тав. **Сідэрскі** асуджан на год прымусовых работ за дачу перапавялічаных заявак і невыкарыстанне паданых вагонаў.

Усё гэта гаворыць аб тым, што большасць совецкіх гаспадарчых арганізацый не зрабілі для сябе ніякіх практычных вывадаў з пастаноў ЦК і СНК аб планаванні перавозак, не перабудавалі сваёй работы адпаведна новым умовам.

Рашэнне ЦК КП(б)Б аб зрыве красавіковага плана перавозак павінна стаць сур'ёзным папярэджаннем усім кіраўнікам гаспадарчых арганізацый і прадпрыемстваў, якія нясуць поўную адказнасць перад партыяй і ўрадам за безумоўнае выкананне пастаноў ЦК і СНК аб планаванні перавозак.

Але не толькі па віне кліентуры быў сарваны красавіковы план пагрузак на нашых чыгуначных станцыях. Сам транспарт прадаўжае дрэнна працаваць.

> «Транспарту ўсё яшчэ нехапае арганізуючай большэвіцкай сілы. Калі для выхавання і згуртавання чыгуначнікаў патрабуецца многа больш намаганняў, чым у прамысловасці, то комуністы чыгуначнікі гэтых падзесяцяроных намаганняў пакуль не праявілі» **(Кагановіч).**

У сваіх рашэннях аб транспарце ЦК ВКП(б) і СНК СССР неаднократна давалі зусім канкрэтную праграму перабудовы сваёй работы. Гэтых рашэнняў транспарт яшчэ не выканаў: канцэлярска-бюракратычныя мэтады работы яшчэ не выкарчаваны. Дысцыпліна, у тым ліку і сярод комуністаў транспарта, прадаўжае заставацца на вельмі нізкім узроўні, супраціўленне перабудове не зломлена.

Дарожны майстар ст. Стайкі **Врублеўскі**, член партыі, адкрыта выступіў супроць перабудовы работы транспарта. «Ці можа,—гаворыць тав. Врублеўскі,—дарожны майстар, які ў сваёй справе інжынер, падпарадкоўвацца нейкаму сапляку—начальніку станцыі». У такім-жа духу выказаліся і паасобныя комуністы—машыністы ў Віцебскім паравозным дэпо.

Бюракратычная закаранеласць, сямейственасць, кумаўство, баязнь самакрытыкі, нежаданне лаяцца з людзьмі за дзяржаўную справу—дагэтуль не зжыты на транспарце. Напр., на 4-ым акалодку дыстанцыі пуці ст. Віцебск дарожны майстар **Садкоўскі** пабіў рабкора **Шыпана** за тое, што той змяшчаў карыкатуры ў насценгазеце аб дрэннай рабоце акалодка.

* * *

Дрэнна ў нас справа са зваротам вагонаў. Лік хворых вагонаў у нашых эксплаатацыйных аддзяленнях перавышае нормы. Галоўнае сёння, побач з палепшаннем пастаноўкі эксплаатацыйнай работы,— барацьба за здаровы вагон.

Гэтага, на жаль, не ўсвядомілі многія гаспадарчыя, партыйныя і прафесіянальныя арганізацыі транспарта. План аздараўлення вагоннага парка сістэматычна ў нас зрываецца. Адначасова расце і колькасць адцэпак вагонаў у дарозе і загаранне букс.

У рэзультаце ўсяго гэтага важнейшыя дзяржаўныя грузы прасоўваюцца марудна, план перавозак не выконваецца, адпраўленне паяздоў у тэрмін зрываецца. На станцыі Віцебск—адной з самых буйных чыгуначных станцый БССР, якая займае 60 проц. усіх перавозак МББ, амаль ні адна пара паяздоў не адыходзіць своечасова. Толькі за адны суткі 26-IV тры пары паяздоў былі адменены, а астатнія адышлі несвоечасова. Гэта гаворыць аб тым, наколькі планаванне перавозак і адпраўленне паяздоў дрэнна пастаўлена на нашых чыгуначных станцыях.

Жалезная дысцыпліна ўсіх работнікаў транспарта зверху да нізу, чоткі план, распрацаваны па пяцідзёнках, сутках, зменах—галоўныя ўмовы бесперапыннай работы транспарта. І там, дзе вядзецца не паказная, а дзелавая барацьба за план і ўмацаванне дысцыпліны, там сталі лепш працаваць (завод імя Мяснікова—Менск, паравознае дэпо Орша—Віцебск красавіковы план поўнасцю выканалі).

Але ўсё-ж з працоўнай дысцыплінаю на нашых чыгуначных станцыях і ў дэпо яўна нядобра. Факты гавораць аб надзвычай нізкім узроўні дысцыпліны на транспарце не толькі сярод рабочых, але і каманднага складу.

Надаючы агромнае значэнне ўмацаванню дысцыпліны ва ўсіх звеннях нашай гаспадаркі, Ленін у свой час пісаў:

> «... усякая буйная машынная індустрыя, г. зн. іменна матар'яльная вытворчая крыніца і фундамент соцыялізма—патрабуюць безумоўнага і найстражэйшага адзінства волі, накіроўваючай сумесную работу соцень, тысяч і дзесяткаў тысяч людзей»

і далей:

> «**безумоўнае падпарадкванне** адзінай волі для поспеху працэсаў работы, арганізаванай па тыпу буйнай машыннай індустрыі, безумоўна неабходна. Для чыгунак яна неабходна ўдвая і ўтрая» (**Ленін**, т. XXII, стар. 462).

Вось чаму важнейшая задача ўсіх мясцовых арганізацый—паставіць у аснову сваёй работы ўмацаванне дзяржаўнай дысцыпліны, безагаворачнае выкананне дзяржаўнага плана перавозак, бязлітасна караючы, не гледзячы на асобы, усіх парушальнікаў дзяржаўнай дысцыпліны, усіх ашуканцаў партыі і дзяржавы.

Барацьба за дзяржаўную дысцыпліну—гэта барацьба за максімальнае ўмацаванне планавых пачаткаў у эканоміцы нашай краіны, барацьба за новае, яшчэ большае ўмацаванне палітычнай і гаспадарчай магутнасці пролетарскай дыктатуры. Яна мяркуе не толькі ўмацаванне адзінаначалля, але і ўмацаванне цвёрдай дысцыпліны ў кожным звяне чыгуначнага транспарта, дзе дысцыпліна павінна быць яшчэ больш жорсткай, яшчэ мацнейшай, чым у любой іншай галіне народнай гаспадаркі.

Аб слабой працоўнай дысцыпліне на транспарце сведчаць таксама шматлікія аварыі і крушэнні, нязжытыя дагэтуль на нашых станцыях. Даволі ўказаць, што аварыі на ст. Віцебск за дзве дэкады нанеслі страт больш як на 170 тысяч руб. Камандзіры транспарта не выкарысталі прадастаўленых ім праў па дысцыплінарнаму статуту, яны часта ігнаруюць статут, а партыйныя і прафесіянальныя арганізацыі слаба апіраюцца на ўдарнікаў, не мабілізуюць грамадскую думку пролетарскіх мас супроць дэзарганізатараў чыгуначнага транспарта.

Гэта асабліва стала ясна пасля забойства Архіпавым лепшага ўдарніка—парторга ст. Віцебск т. **Чэпікава.**

Чэпікаў неаднокраць выяўляў пакражы, дэзарганізатарскую работу сцэпшчыка Архіпава. Аказваецца, што на ст. Віцебск была развіта пакража спірта з цыстэрн. Спірт хавалі ў будцы стрэлачніка. Чэпікаў неаднокраць выкрываў гэтыя зладзейскія махінацыі Архіпава і яму падобных дэзарганізатараў. Партарганізацыя станцыі не рэагавала. 4-IV Чэпікаў трагічна быў забіты Архіпавым, які штурхнуў яго пад манеўровы паравоз. Але партком і мясцком станцыі не надалі ніякага значэння трагічнай пагібелі Чэпікава, не даглядзелі ў гэтым класавай помсты, тэрарыстычнага акта класавага ворага і яго агентуры, якія ўсяляк спрабуюць сарваць работу транспарта. Толькі ўмяшанне палітаддзела раёна і судовых органаў выявіла злачынныя, шкодніцкія махінацыі Архіпава. Выязною сесіяй лінейнага суда Архіпаў прыгавораны к расстрэлу. Але справа не толькі ў адным Архіпаве. У апошні час было выяўлена не мала класава-варожых вылазак на чыгуначных станцыях (справа Хітава—кіраўніка лёгкай кавалерыі ў віцебскім паравозным дэпо, замах на рабкора Тормана—ст. Стайкі і інш.).

Задача не толькі ў тым, каб строга караць разгільдзяяў, парушальнікаў дысцыпліны, очкаўціацелей, узятачнікаў і абманшчыкаў дзяржавы і партыі, але ў тым, каб своечасова выяўляць і выкрываць чуждых людзей, разгільдзяяў, дэзарганізатараў транспарта, гнаць іх з чыгунак, ствараць вакол іх атмасферу ўсеагульнага адчужэння і ганьбы з боку дзесяткаў тысяч рабочых чыг. транспарта і тым самым папярэдзіць аварыі, крушэнні і катастрофы на транспарце.

Толькі няведаннем людзей, адсутнасцю большэвіцкай пільнасці можна тлумачыць той факт, што забойца Чэпікава Архіпаў—гультай, прагульшчык, дэзарганізатар транспарта—доўгі час лічыўся ўдарнікам і атрымліваў ударную картку.

У нас ёсць выдатныя ўзоры сапраўды ўдарнай большэвіцкай барацьбы за аздараўленне транспарта, за яго бесперабойную работу, але ўся бяда ў тым, што гэтыя ўзоры не робяцца набыткам мас.

ЦК ВКП(б) і СНК у сваіх рашэннях аб транспарце ўказвалі, што соцспаборніцтва і ўдарніцтва на чыгунках арганізавана горш, чым у іншых галінах народнай гаспадаркі. Гэта ўказанне застаецца ў сіле і зараз. Партыйныя, асабліва прафесіянальныя арганізацыі слаба кіруюць соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам, адсутнічае сістэматычнае заахвочванне ўдарнікаў і барацьба з ілжэ-ўдарніцтвам. Не выпадкова, што пры такім кіраўніцтве ўдарніцтвам забойца Чэпікава Архіпаў аказаўся ў ліку ўдарнікаў.

Задача аўладання тэхнікай на транспарце патрабуе разгортвання штодзённай работы па павышэнню кваліфікацыі чыгуначных рабочых, па прасоўванню выпрабаваных рабочых на больш высокія пасады. Тым часам тэхвучоба ў радзе нашых станцый, дэпо пастаўлена слаба.

Соцтэхэкзамены, як адна з важнейшых форм спаборніцтва ў барацьбе за ауладанне тэхнікай, недастаткова яшчэ разгорнуты на нашых станцыях, у дэпо, у майстэрнях і т. д.

Работнікаў транспарта трэба вучыць на прыкладах работы лепшых людзей, шырока папулярызуючы і ўкараняючы вопыт іх работы ў масы рабочых чыгуначнікаў. «Трэба згуртаваць масы, апірацца на лепшых людзей—ударнікаў транспарта—і перамога будзе забяспечана»,—падкрэсліваў т. Кагановіч у сваім дакладзе на XVII з'ездзе партыі. Работнікі чыгуначнага транспарта павінны зразумець, што «у чыгуначнай справе больш, чым у якой іншай, патрэбны аператыўнае кіраўніцтва і праверка выканання прынятых рашэнняў. Трэба, каб чыгуначнікі зразумелі, што справа ідзе аб нармальнай цыркуляцыі крыві ў арганізме народнай гаспадаркі, бо транспарт—гэта кровеносныя сасуды нашай краіны» (з даклада тав. **Кагановіча** на XVII з'ездзе партыі).

Мясцовыя совецкія партыйныя і прафесіянальныя арганізацыі павінны на справе, па-большэвіцку ўключыцца ў канкрэтную дапамогу чыгуначнаму транспарту.

Тав. Калінін у сваёй прамове на XVII з'ездзе партыі прывёў характэрны прыклад таго, як раённы камітэт партыі, ніколі не падмяняючы, аказаў канкрэтную практычную дапамогу чыгуначнаму раёну. Пры дапамозе райкома была праведзена суцэльная праверка стану букс, устаноўлен нагляд за своечасовай іх змазкай і падбіўкай, праведзена масавая работа сярод змазчыкаў, і ў рэзультаце рэзка скараціліся выпадкі адцэпкі вагонаў з-за гарэння букс. Раённы камітэт звярнуў увагу на бытавое абслугоўванне рабочых чыгуначнікаў, разгарнуў індывідуальнае гародніцтва, арганізаваў рамонт рабочых памяшканняў, прымацаваў да паравознага дэпо лепшы соўгас раёна. Дэпо было выведзена з прарыву.

Гэта—прыклад для ўсіх мясцовых арганізацый, як канкрэтна дапамагаць транспарту.

Трэба сказаць, што паасобныя нашы райкомы да апошняга часу пачынаюць усё больш канкрэтна аказваць штодзенную дапамогу мясцовым чыгуначным арганізацыям. Даволі ўказаць на Лепельскі райком, які фактычна дапамагае палепшыць работу ст. Лепель, стварыць узорна-культурны вакзал. Вялікую дапамогу аказвае чыгуначным арганізацыям і Бабруйскі РК, Менскі, Віцебскі і інш. Але ўсё-ж ёсць яшчэ і такія РК як Чашніцкі, Крычаўскі і інш., якія лічаць, што транспарт—не іх справа.

Перад транспартам пастаўлены задачы агромнейшай дзяржаўнай і гаспадарчай важнасці. Ажыццяўленне гэтых задач, няўхільнае выкананне ўстаноўленага партыяй і ўрадам дзяржаўнага плана перавозак павінна быць кроўнай і роднай справай кожнага чыгуначніка, усіх нашых совецкіх, партыйных і прафесіянальных арганізацый. Канкрэтную дапамогу транспарту аказвае маскоўская партыйная арганізацыя, тульскія рабочыя, якія арганізавалі масавы вытворчы і культурны паход па аздараўленню транспарта. Пры дапамозе рабочых брыгад разам з чыгуначнымі майстрамі ідзе масавая праверка работы любога ўчастка транспарта і тут-жа аказваецца канкрэтная дапамога ў знішчэнні выяўленых недахопаў. З дапамогаю горсоветаў у Маскоўскай і Данецкай абласцях арганізаваны культурны паход за масавы рамонт лазень, школ, сталовых, за лепшае абслугоўванне станцый.

Гэты прыклад перадавых арганізацый павінен быць падхоплен усімі нашымі тэрытарыяльнымі партыйнымі і совецкімі арганізацыямі. Партыйныя і прафесіянальныя арганізацыі павінны выхаваць у кожным чыгуначніку пачуцце найвялікшай адказнасці за даручаны яму ўчастак работы, павінны абвясціць рашучую барацьбу праявам разгільдзяйства, разбэшчанасці, недысцыплінаванасці. Яны павінны дабіцца, каб

«усе чэсныя комуністы, чыгуначнікі сталі на чале руху за аднаўленне і ўмацаванне жалезнай дысцыпліны на транспарце, каб яны штодзённа, штогадзінна давалі ў сваёй рабоце высокія ўзоры большэвіцкай дысцыпліны» (з пастановы ЦК і СНК ад 23/III-34 г.).

---

Чорны

# Задачы распрацоўкі плана другой пяцігодкі народнай гаспадаркі БССР

Распрацоўка плана другой пяцігодкі БССР разгарнулася, як і ва ўсіх рэспубліках, краях і абласцях Саюза, зараз-жа пасля 17-ай партыйнай канферэнцыі, у пачатку 1932 года.

К гэтаму часу было даволі матар'ялаў для ацэнкі вынікаў паспяхова завяршаючагася ў 4 гады плана першай пяцігодкі, каб зрабіць іх выходнымі данымі для праектыроўкі.

Задачы другой пяцігодкі, чотка пастаўленыя рашэннямі 17-ай партканферэнцыі ВКП(б), вызначылі агульны напрамак і аб'ём развіцця народнай гаспадаркі. Да распрацоўкі плана другой пяцігодкі былі прыцягнуты лепшыя сілы наркаматаў, навукова-даследчых устаноў і прадпрыемстваў. Гэтай рабоце агромную ўвагу ўдзяліла ўся партыя, яе ЦК, СНК і пролетарская грамадскасць.

Здавалася-б што ў наяўнасці было ўсё неабходнае і дастатковае, каб забяспечыць сапраўды высокую якасць распрацоўкі важнейшых праблем і ўсяго плана 2-й пяцігодкі БССР. Аднак цяпер, калі нам прадстаіць у параўнальна кароткі тэрмін (паўтара-два месяцы) канчаткова аформіць на аснове рашэнняў —XVII з'езда план другой пяцігодкі па БССР, мы павінны канстатаваць, што агромныя магчымасці для падрыхтоўкі і распрацоўкі вычэрпваючых матар'ялаў не выкарыстаны, і галоўным чынам па віне Дзяржплана БССР. Наркаматы, навукова-даследчыя ўстановы і ў першую чаргу Акадэмія Навук не праявілі самастойнай ініцыятывы ў распрацоўцы кожны ў сваёй галіне пэўнай сумы праблем плана другой пяцігодкі і адпаведным чынам не здолелі іх аформіць. Гэта, вядома, не значыць, што не было ніякай работы над планам другой пяцігодкі. Работа праводзілася, складзена вялікая колькасць табліц, запраектаваны сумы капіталаўкладанняў, новыя аб'екты будаўніцтва, аб'ёма вытворчасці і т. д. і т. п. Але закончаных матар'ялаў, **аснашчоных неабходным** тэкстам і адпаведным тэхніка-эканамічным абгрунтаваннем, няма.

Тут сказаліся, побач са слабасцю апарата і кіраўніцтва Дзяржплана, няправільная арганізацыя і напрамак работы над планам наогул і над планам 2-й пяцігодкі ў асаблівасці.

Пабудаваная па функцыянальнаму прынцыпу работа апарата Дзяржплана асабліва адмоўна адбілася на планавых распрацоўках перспектыў развіцця народнай гаспадаркі ў другую пяцігодку. Функцыяналка гэта часам прыкрывалася сінтэтычным метадам планавання, які няправільна або фармальна разумелі пад выглядам зводных статыстычных табліц і балансаў. І выходзіла на справе, што элементы

плана разрознены былі па асобных вертыкалях, арганічна не звязаных паміж сабою, а злучаных ў адзін план механічна.

Паасобныя міжгалінныя элементы плана, як энергетыка, паліва, праца і кадры, транспарт, снабжэнне і т. д., праектаваліся ізалявана, як самастойныя раздзелы, прычым попыт кожнай галіны народнай гаспадаркі канкрэтна не ўлічваўся ні ў часе, ні з пункту погляду геаграфічнага размяшчэння. Адсюль маглі быць нечаканасці, неадпаведнасці і дыспрапорцыі ў ходзе выканання плана. Зразумела, што ў радзе галін народнай гаспадаркі оказаліся і сказваюцца плады шкодніцтва ў планаванні, якія знаходзяць спрыяючую глебу ва ўмовах функцыяналкі і абязлічкі ў рабоце.

Вось чаму афармленне плана 2-й пяцігодкі ў сучасны момант звязана з дадатковымі труднасцямі, што абавязвае больш чотка і арганізавана паставіць работу як у наркаматах, так і ў Дзяржплане. Наяўнасць справаздачных даных па плану 1933 г. і 1934 г. (другога года пяцігодкі) значна палягчае работу па афармленню плана 2-й пяцігодкі.

У сучасны момант Дзяржплан разам з наркаматамі і ведамствамі на аснове рашэння XVII з'езда ВКП(б) прыступаюць да канчатковага афармлення плана другой пяцігодкі БССР.

У матар'ялах Дзяржплана Саюза па плану другой пяцігодкі, прадстаўленаму XVII з'езду ВКП(б),—БССР выдзелена са значным аб'ёмам паказчыкаў па капіталаўкладаннях, вытворчасці і соцыяльна-культурнаму будаўніцтву. Указаныя матар'ялы па сутнасці з'яўляюцца ўжо лімітамі і нават прадзельнымі, бо ў канчатковым тэксце, які будзе выпрацаван Дзяржпланам Саюза, магчымы некаторыя ўдакладненні ў адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда ВКП(б) па плану другой пяцігодкі.

Тав. Куйбышэў у сваім дакладзе на XVII з'ездзе ВКП(б) зусім правільна адзначыў, што **«важнейшай задачай другой пяцігодкі БССР з'яўляецца рэзкае палепшанне паліўнага баланса рэспублікі** ў напрамку павышэння долі мясцовых відаў паліва, у прыватнасці торфу». Гэта важнейшая і, зразумела, не адзіная задача ў плане другой пяцігодкі БССР канкрэтызуе тыя агульныя задачы, якія пастаўлены рашэннем XVII партз'езда перад Саюзам і якія павінны атрымаць канкрэтнае праламленне ў планах паасобных рэспублік, краёў і абласцей.

На працягу першага пяцігоддзя былі праведзены вялікія геолагаразведачныя і вышукальныя работы, дазволіўшыя выявіць прыродныя багацці рэспублікі, на аснове чаго пабудован рад прамысловых прадпрыемстваў на мясцовай сыравіне.

Але гэта важнейшая работа належным чынам не завершана. Агромная доля матар'ялаў вышукальных і геолага-разведачных партый дагэтуль не апрацавана, апрацаваныя-ж матар'ялы як след не афармлены. Тым часам высокаякасная і навуковая распрацоўка перспектыўнага плана развіцця народнай гаспадаркі ў другім пяцігоддзі можа быць забяспечана на аснове дакладных і правераных даных натуральных і энергетычных рэсурсаў краіны. Тым больш, што рад аб'ектаў, пабудаваных у першым пяцігоддзі, часткова па нявопытнасці, а часткова рукамі шкоднікаў, поўнасцю не забяспечаны палівам і сыравіннаю базай. Таму адной з асноўнейшых задач па афармленню плана 2-й пяцігодкі, як па рэспубліцы ў цэлым, так і па галінах і асобных прадпрыемствах, належыць прызнаць работы па выяўленню і вызначэнню натуральных і энергетычных рэсурсаў краіны як у іх сумарным, так

і якасным выражэнні і геаграфічным размяшчэнні, што павінна паказаць ступень забяспечанасці сыравінай, палівам як дзеючых прадпрыемстваў, так і тых, якія яшчэ праектуюцца і будуюцца.

Агромныя праблемы гаспадарчага развіцця БССР, уключаныя ў план 2-га пяцігоддзя ў парадку распрацоўкі і нават праектавання—праблема Вялікага Днепра з усімі папутнымі задачамі ў галіне меліярацыі, павышэння ўраджайнасці, выкарыстання гідраэнергіі, паглыблення і павелічэння суднаходнасці рэк і т. д., па лініі торфахіміі (Прапойскі камбінат), па вытворчасці складаных мінеральных угнаенняў, на аснове газіфікацыі торфу і сожаўскіх фасфарытаў, адкрываюць шырокія гарызонты агромных магчымасцей, затоеных дагэтуль у закінутых балотах і апладняемых зараз соцыялістычнаю працай, энтузіязмам і пафасам рабочых і калгасных мас, будуючых соцыялізм.

Створаныя ў рэзультаце паспяховага выканання плана другой пяцігодкі агромныя прадпрыемствы лёгкай, металаапрацоўчай, лесаапрацоўчай, харчовай прамысловасці прадстаўляюць канкрэтныя ўчасткі для практычнага вырашэння задач ў галіне асваення.

Канкрэтны змест задач па асваенню выражаецца ў тым, што рад прадпрыемстваў павінен быць завершан як у частцы будаўніцтва, так і абсталявання, забяспечан дапаможнымі будоўлямі і галоўнае—паліўнай базай і энергетыкай. Таму зараз неабходна фарсаваць падрыхтоўку новых тарфяных балот і павялічыць аб'ём вытворчасці балот дзеючых, паскорыць будаўніцтва і пашырэнне электрастанцый у першую чаргу на асноўных вузлавых пунктах рэспублікі—Менск, Гомель, Віцебск (Осіпаўка).

Але для вырашэння гэтых задач трэба забяспечыць прадпрыемствы сыравінаю базай; да месц здабывання мясцовай сыравіны пракласці пад'яздныя шляхі і даць неабходны падвіжны састаў; сістэматычна рыхтаваць рабочую сілу і кадры для новых прадпрыемстваў, уключыўшы ў план увесь аб'ём мерапрыемстваў па культурна-бытавому жыллёваму забяспечанню рабочых. Усё гэта—важнейшыя фактары рэальнага вырашэння задачы асваення новай тэхнікі, новых відаў вытворчасці, палепшання якасці прадукцыі, павышэння прадукцыйнасці працы. Імення ў гэтым комплексным разрэзе, пад кутом задач асваення, трэба распрацоўваць праблемы другой пяцігодкі.

Акрамя таго, неабходна чотка вызначыць, тэхнічна, эканамічна абгрунтаваць спецыялізацыю асноўных галін мясцовай прамысловасці з пункту погляду патрэбнасцей народнай гаспадаркі БССР у сродках вытворчасці і прадметах спажывання, улічыць долю вывазу за межы БССР як па Саюзу, так і на экспарт. Гэтыя работы павінны быць праведзены на аснове ведаў агульнай эканомікі Саюза.

Гэтая частка работы павінна быць праведзена асабліва строга ў адносінах новапраектуемых прадпрыемстваў, каб мець чоткае ўяўленне аб іх месцы ў агульным раздзяленні працы па Саюзу, а таксама патрэбнасцей народнай гаспадаркі БССР.

У галіне сельскай гаспадаркі БССР план другой пяцігодкі павінен забяспечыць высокую ўраджайнасць соцыялістычных палёў пры параўнальна нязначным росце пасеўных плошчаў, павелічэнне прадукцыі жывёлагадоўлі, агромны рост попыту працоўных мас і прамысловасці на сельскагаспадарчую сыравіну, прадметы харчавання, рост кармавой базы для праектуемага пагалоўя жывёлы.

Задачы арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, ператварэння іх у бальшэвіцкія, а калгаснікаў у заможных, павышэнне якасці

работы соўгасаў у адпаведнасці з указаннямі т. Сталіна на XVII з'ездзе партыі патрабуюць разгорнутай распрацоўкі праблемы спецыялізацыі сельскай гаспадаркі па зонах і раёнах з устанаўленнем строгага рэжыму севазвароту па культурах, з улікам аб'ёму патрэбнасцей у паасобных відах культур для кожнага раёна і паасобных гаспадарак, у адпаведнасці са строга ўстаноўленым напрамкам жывёлагадоўлі па зонах, раёнах, гаспадарках соўгасаў і калгасаў.

У плане другой пяцігодкі намечаны для сельскай гаспадаркі БССР агромныя сумы, якія без уласных укладанняў калгасаў дасягнуць поўмільярда рублёў. Гэтыя сумы павінны быць так размешчаны ў будаўніцтве, каб вырашыць задачу ліквідацыі рэштак хутаршчыны, прышчэпаўшчыны, вызначыць вытворчыя цэнтры па лініі МТС, соўгасаў, калгасаў, устанавіць раённыя цэнтры ў адпаведнасці з інтарэсамі вытворчага размяшчэння ў сельскай гаспадарцы і прамысловасці.

Асабліва трэба ўлічыць прыгарадныя зоны асноўных індустрыяльных цэнтраў, каб забяспечыць патрэбнасці рабочых прамысловых прадпрыемстваў у прадуктах сельскай гаспадаркі.

Пры гэтым неабходна канкрэтызаваць аб'ёмы затрат на тэхнічнае ўзмацненне працэсаў апрацоўкі, укараненне электраэнергіі ў сельскую гаспадарку (электрамалацьба, жывёлагадоўля). У плане па раёнах і па гаспадарках трэба распрацаваць балансы працы, рабочай і цягавай сілы, баланс кармоў.

Улічваючы ролю сельскай гаспадаркі БССР, як пастаўшчыка сыравіны (лён для ільнянай прамысловасці, бульба для крахмала-патачнай і вінакурнай, скура для скураабутковай прамысловасці, малочныя і іншыя прадукты для пераапрацоўчай харчовай прамысловасці), балансы адпаведных сыравінных прадуктаў трэба распрацаваць у адпаведнасці з інтарэсамі і попытам адпаведных галін прамысловасці.

Каб палепшыць матар'яльна-бытавыя ўмовы працоўных, трэба перш за ўсё распрацаваць планы рэканструкцыі і будаўніцтва гарадоў. А трэба сказаць, што найбольш яркія прыклады няпланавага будаўніцтва і шкодніцтва паказвае гарадская комунальная гаспадарка. У значнай меры віною ў гэтым адсутнасць планаў будаўніцтва і рэканструкцыі гарадоў. Таму комунальна-жыллёвае будаўніцтва, мінімальныя патрабаванні санітарна-гігіенічнага дабрабыту абавязваюць нас у найкарацейшы тэрмін, г. зн. ужо к пачатку 1935 г. забяспечыць стварэнне такіх планаў. Зараз мы маем праект перспектыўнага развіцця аднаго толькі Гомеля, ды і то без пláніроўкі і рабочых чарцяжоў тых першачарговых работ, якія трэба правесці хоць-бы ў асноўнай частцы горада за бліжэйшыя 2—3 гады.

Агромны рост тавараабароту, намечаны планам другой пяцігодкі, а разам з тым і рост у два-тры разы спажывання працоўных, патрабуе ад тавараправодзячай сеці і кааперацыі распрацаваць план размяшчэння сеці, забяспечыць матар'яльна-тэхнічную базу—склады, халадзільнікі, перавозачныя сродкі, падрыхтаваць кваліфікаваныя кадры для культурнага совецкага гандлю, распрацаваць якасныя паказчыкі зніжэння выдаткаў абароту, павышэння і палепшання якасці абслугоўвання працоўных.

**У галіне грамадскага харчавання** неабходна распрацаваць мерапрыемствы, каб забяспечыць рабочыя цэнтры фабрыкамі-кухнямі, добра пабудаванымі сталовымі, а таксама распрацаваць план па ўкараненню грамадскага харчавання на вёсцы.

**Дарожная гаспадарка** БССР атрымала выключнае развіццё ў пер-

шым пяцігоддзі. БССР распалагае адносна вялікай насычанасцю і працягласцю шасейных дарог. Гэта абавязвае, побач з далейшым будаўніцтвам, распрацаваць у плане 2-й пяцігодкі мерапрыемствы па абслугоўванню як дарожнай гаспадаркі, так і аўтатранспарта. Па плану другой пяцігодкі ў БССР будзе завезена значная колькасць аўтамашын, трактароў. Увесь гэты аўта і трактарны парк патрабуе правільна і добра пабудаванай службы, майстэрань, гаражоў дарожных калонак для снабжэння бензінам. Улічваючы, што МТС, соўгасы і іншыя гаспадаркі, у распараджэнні якіх ёсць трактары і аўтатранспарт, будуць праектаваць свае гаражы і бензіна-хавальнікі, неабходна па магчымасці выкарыстаць гэта будаўніцтва для агульных патрэб Асобна стаіць пытанне аб гаражным будаўніцтве ў гарадах.

Неабходна таксама распрацаваць мерапрыемствы па далейшаму пашырэнню і развіццю тэлеграфнай, тэлефоннай сувязі і радыёсувязі

Узросшая сець нашых школ, вышэйшых навучальных устаноў абавязвае нас у плане другой пяцігодкі распрацаваць мерапрыемствы для забяспечання тэтых школ высокакваліфікаванымі кадрамі. Агромны рост кантынгентаў як сярэдняй, так і вышэйшай школы ў другой пяцігодцы патрабуе адпаведных укладанняў у капітальнае будаўніцтва для забяспечання як вучэбнай плошчай, так і інтэрнатамі, улічваючы ўзрастаючыя патрабаванні па абслугоўванню вучняў.

Задачы па задавальненню культурнага попыту калгаснай вёскі выклікаюць патрэбу распрацаваць план будаўніцтва палітасветных устаноў, кінотэатраў і тэатраў як у раённых цэнтрах, так і на вёсцы.

Работы па даследванню, вывучэнню, вышуканню для распрацоўкі і праектыроўкі праблемы будаўніцтва Вялікага Дняпра, Прапойскага камбіната і інш. служаць агульнай падставай для распрацоўкі планаў навукова-даследчых работ як Акадэміі, так і раду навукова-даследчых устаноў, якімі распалагае БССР, павінны забяспечыць высокую якасць праектыроўкі і работы па афармленню плана 2-й пяцігодкі і дапамагчы сваім удзелам у яго ажыццяўленні.

Поспех у афармленні плана 2-й пяцігодкі будзе забяспечан шырокім удзелам пролетарскай грамадскасці, навукова-даследчых устаноў і ІТР.

---

Кладавікоў

# Ліквідаваць адставанне харчовай прамысловасці БССР[1])

Рашэнні XVII партз'езда і адозва ЦК ВКП(б) ад 22 снежня 1933 г. аб рабоце харчовай прамысловасці—гэта праграма штодзеннай работы харчовых прадпрыемстваў, якая дае ўказанні і практычныя мерапрыемствы, гэта стыль работы савецкага харчовага прадпрыемства.

Адозва ЦК ВКП(б) ад 22/XII мае агромнае гаспадарча-палітычнае значэнне. Гэты дакумент адкрывае новы этап у рабоце харчовай прамысловасці; ён павінен стварыць пералом у выхаванні ўсіх работнікаў харчовай прамысловасці ў духу выключнай адказнасці перад працоўнымі за высокую якасць прадукцыі. Гэты дакумент пачаў новы перыяд у рабоце харчовай прамысловасці, стварае паўнейшую рэволюцыю ў справах і людзях на ўсіх харчовых прадпрыемствах і павінен узняць работу харчовай прамысловасці на новую, яшчэ большую вышыню.

Для харчовай прамысловасці Беларусі адозва ЦК мае асобае значэнне ў сілу зусім нездавальняючай работы харчовай прамысловасці, агромнага адставання яе ад перадавых атрадаў харчовай прамысловасці—маскоўскай і ленінградскай—у сілу таго, што ва многім яшчэ ў нас даўлее саматужніцтва, дух працарцелей і саматужных майстэрань.

* * *

Многія прадпрыемствы к XV з'езду КП(б)Б, XVII з'езду ВКП(б) і Ўсебеларускай вытворча-тэхнічнай канферэнцыі бралі на сябе рад абавязацельстваў. Наша задача—правесці праверку гэтых абязацельстваў і ў далейшым арганізаваць сістэматычны кантроль выканання.

Мы маем ясную дырэктыву партыі, што мы павінны не толькі ліквідаваць адставанне харчовай прамысловасці, не толькі навярстаць страчаны час, але і разгортваць работу вытворчасці такімі тэмпамі, каб да канца другой пяцігодкі выканаць лозунг правадыра—даць прадукцыі ў 2—3 разы больш і лепшай якасці.

[1]) Пераапрацаваная стэнаграма даклада на Ўсебеларускай канферэнцыі харчовай прамысловасці Наркамснаба БССР—20 сакавіка 1934 г.

Каб выканаць гэту задачу, трэба разгарнуць барацьбу за кожны процант у кожным цэху, у кожным прадпрыемстве.

А што ў нас атрымліваецца? За 1931 г. выканалі план на 75 проц., за 1932 год—на 57 проц., за 1933 год—на 89 проц., за студзень 1934 г.—на 78 проц., за люты—на 80 проц. І, тым не менш, многія кіраўнікі чамусці адчуваюць сябе героямі,—у іх не баліць галава за дрэнную работу.

Вось з гэтай сістэмай безадказнасці, беспакаранасці, расхлябанасці, з такімі настроямі, што «як ні выконвай план—усё з рук сойдзе»,—трэба рашуча пакончыць. Мы павінны сказаць гаспадарнікам, што мы будзем патрабаваць выканання кожнага процанта плана і рэагаваць на кожны процант невыканання.

Кожны процант плана 1934 года—гэта больш як на 1,5 міл. рублёў прадукцыі для рабочага спажыўца.

Возьмем прычыны невыканання плана за студзень і люты гэтага года. Некаторыя папрабуюць сказаць, што тут паліва віновата, не было вагонаў пад паліва, не было сыравіны, не было вагонаў для гатовай прадукцыі, не было тары.

Трэба сказаць, што затрудненні з палівам мелі месца на паасобных прадпрыемствах і стварылі дадатковыя цяжкасці для менскіх і часткова гомельскіх прадпрыемстваў. Але прадпрыемствы гарадоў Менска і Гомеля даюць толькі 40 проц. плана, астатнія-ж 60 проц. залежаць ад іншых прадпрыемстваў, якія палівам забяспечаны, як, напр., вінакураныя, крахмальныя заводы; у некаторых з іх паліва хопіць на сезон 1934—35 гг. Чаму-ж яны не выцягнуць план? Таму што справа не толькі ў паліве.

У нас часта выходзіць так, як гэта бывае на «Комунарцы»: калі ёсць паліва, то не хапае паперы, цвікоў і тары; а калі і гэта ёсць, то аказваецца або тара сырая, або цвікі доўгія, або папера тоўстая—нельга заварачваць. 15 сакавіка ў карамельным цэху прастаялі 2 агрэгаты 4 гадз. 10 мін. з-за ўнутраных непаладак на прадпрыемстве.

Калі-б мы кіравалі па-бальшэвіцку, умелі-б манеўраваць рэсурсамі, якія атрымліваем, гаспадарылі-б умела, то безумоўна значна павысілі-б выкананне плана, а па многіх прадпрыемствах маглі-б выканаць і перавыканаць план.

План першага квартала выканала ў нас толькі адна галіна прамысловасці—безалкагольная. Яна гоніць безалкагольныя напіткі аднаго стандарта. Выпрацоўваецца адзін сорт—толькі клюквены квас, але няма хлебнага квасу, сельтэрскай, сітро. У рэзультаце пажыраюць фонды цукру і перавыконваюць план. Танныя пераможцы!

Задача наша—падрабязна азнаёміцца з кожнай галіною прамысловасці і прыняць тэрмінова ўсе меры, каб забяспечыць выкананне плана харчовай прамысловасцю.

* * *

Нам прад'яўляюцца зараз агромныя патрабаванні. За першую пяцігодку і за 1933 год партыя і ўрад уклалі ў харчовую прамысловасць Беларусі 48 млн. руб.

Настаў час, калі мы павінны поўнасцю асвоіць капіталаўкладанні, асвоіць прадпрыемствы, выпрацоўваць добраякасную прадукцыю для рабочага класа.



Мы павінны ва што-б там ні стала ў 1934 годзе выканаць план па ўсіх паказчыках. Далейшае адставанне харчовай прамысловасці Беларусі недапушчальна. Трэба забяспечыць такі разварот работы, каб у 1937 г. даць прадукцыі ў 3 разы больш супроць 1932 г. і лепшай якасці.

За гады першай пяцігодкі мы стварылі сапраўды магутную базу харчовай індустрыі: каля 50 буйнейшых і навейшых прадпрыемстваў, або нанова рэканструяваных, абсталяваных па апошняму слову тэхнікі. Даволі ўказаць такія аб'екты, як оршанскі мясакамбінат, віцебскі маслабойны завод, маргарынавы завод, менская каўбасная фабрыка, фабрыка «Комунарка», «Спартак», макаронная фабрыка і т. д. Усё гэта такія прадпрыемствы, ад якіх мы павінны ў першую чаргу патрабаваць узорнай работы.

Некаторыя прадпрыемствы нашай харчовай прамысловасці маюць саюзнае значэнне. Тры дражджавыя заводы даюць 9 000 тон. дрожджаў, з якіх 85 проц. вывозіцца за межы Беларусі ў многія раёны Саюза; акрамя таго, у нас упершыню арганізавана вытворчасць кармавых дрожджаў.

Завод «Малочнай кіслаты» адзіны ў Саюзе. Ён працуе на мелясе і дае 60 проц. усёй вытвараемай у Саюзе кіслаты, якая замяняе імпартную лімонную кіслату.

Завод «Чырвоны хімік» у Гомелі—адзіны ў Саюзе, дае тэхнічную крэйду для ўсёй парфюмернай прамысловасці і выпрацоўвае тэрмаізаляцыю.

Гэтыя буйнейшыя заводы агромнага значэння патрабуюць да сябе асобай увагі ўсіх арганізацый.

Мы зараз мяняем асартымент, але прадпрыемствы кормяць нас толькі ўзорамі. Час ужо даць спажыўцу добрую прадукцыю і паказаць узоры не толькі на выстаўцы. У кожным магазіне павінна прадавацца тое, што сёння паказана на выстаўцы. Трэба палепшыць таксама і знешняе афармленне прадукцыі. Нецярпім далейшы выпуск магілеўскай фабрыкай карамелі ў белай завёртцы, выпуск безалкагольных напіткаў. дрожджаў—без этыкетаў.

Перагляд усёй сістэмы кіраўніцтва харчовай прамысловасцю істотна зменіць вытворчую магутнасць прадпрыемства. Трэба па-бальшэвіцку дабіцца, каб на кожным прадпрыемстве быў тэхпромфінплан, трэба вывучыць варштат і арганізаваць збор рацыяналізатарскіх прапаноў, каб патрабаваць максімума рацыянальнай эксплаатацыі варштата, трэба нанова перагледзець нормы выпрацоўкі, каб яны былі не сярэдне-арыфметычныя, а тэхнічна абгрунтоўвалі магутнасць кожнага варштата, трэба ведаць нагрузку варштата, правільна расставіць людзей, устанавіць правільныя нормы выпрацоўкі, па-новаму правільна арганізаваць тэхналагічны працэс, забяспечыць вядучыя ўчасткі кваліфікаванай рабочай сілай, навучыцца абыходзіцца з сыравінай.

У 1934 г. паўтараюцца абураючыя факты, якія мелі месца на радзе прадпрыемстваў у 1933 г. У карамельным цэху фабрыкі «Комунарка», была папсавана вялікая колькасць прадукцыі. На адзінку прадукцыі дапускаюць вялікія перавыдаткі сыравіны. Ніхто не кантралюе нормы выдаткавання сыравіны, дапаможных матар'ялаў. Трэба ўсё гэта перагледзець і скараціць агульназаводскія выдаткі.




Мы павінны не толькі забяспечыць выпуск прадукцыі на 162 млн. руб., згодна плана, але і знізіць сабекошт, па-большэвіцку выконваючы заданні, пастаўленыя перад прамысловасцю ў другой пяцігодцы.

* * *

На многіх прадпрыемствах харчовай прамысловасці дагэтуль нічога канкрэтнага для рэалізацыі адозвы ЦК не зроблена.

Магілеўскі сушыльны завод на запрос Белплодагародніны—што зроблена для рэалізацыі адозвы ЦК—прыслаў сапраўды класічны адказ: «Такога ліста не атрымалі аб высокаякаснай прадукцыі». Адозва ЦК была адрасавана да ўсіх партыйных арганізацый харчовых прадпрыемстваў і апублікавана ва ўсіх газетах, але гэтыя галавацяпы чакалі пацверджання дырэктывы ЦК ВКП(б) ад свайго трэста ці райкома.

Многія з тых, якія лічаць, што шмат зроблена, не пасунулі справу далей агульных рэзалюцый. Наогул паўтарылася якраз тое, што так ярка намаляваў тав. Сталін у сваім дакладзе XVII з'езду—і агульны сход збіралі, ганаровы прэзідыум абіралі, аб міжнароднай рэволюцыі не забылі, а справы няма.

Фабрыка «Комунарка» рапартавала 3-яй менскай гарадской партыйнай канферэнцыі:

«У сувязі з прапрацоўкай тэзісаў к XVII з'езду ВКП(б), у сувязі з пачаткам работы трэцяй партыйнай канферэнцыі, мы на нашых цэхавых сходах абгаварылі гэта пытанне. Мы рашылі ўзяць на сябе наступныя канкрэтныя абавязацельствы:

1. Дабіцца к з'ездам партыі зніжэння браку да 0,5 проц., для чаго самым строгім чынам сачыць, каб на справе была праведзена бальная сістэма аплаты працы;

2. Арганізуем пастаянны інстытут грамадскіх інспектароў па якасці і санітарыі, высунуўшы на гэтую ганаровую работу лепшых работнікаў;

3. Абвесцім масавае спаборніцтва на чысты цэх, на чыстае ўтрыманне апаратуры, машын і захаванне асабістай гігіены;

4. У гонар гарадской канферэнцыі нашай партыі арганізавалі рэйд-праверку санітарнага становішча кватэр рабочых і работніц нашай фабрыкі з тым, каб к XV з'езду КП(б)Б наша фабрыка стала працаваць так, як ад нас патрабуе Цэнтральны Камітэт Комуністычнай партыі большэвікоў;

5. Ка дню адкрыцця XV з'езда КП(б)Б ва ўсіх цэхах арганізаваць паказальныя куткі санітарыі і гігіены;

6. Патрабуем ад нашых партыйных і прафесіянальных арганізацый лепш наладзіць тэхвучобу к XVII з'езду нашай партыі.

У праграму тэхвучобы ўключыць прахаджэнне сантэхмінімума з такім разлікам, каб да 1 сакавіка кожны рабочы здаў тэхэкзамен на «добра». Давесці колькасць уцягнутых у тэхвучобу да 500 рабочых;

7. Патрабуем ад дырэктара фабрыкі арганізаваць курсы сантэхвучобы для адмтэхперсанала фабрыкі. Экзамен павінен быць здан не пазней 1 лютага;

8. Выклікаем Гомельскую кандытэрскую фабрыку «Спартак» на спаборніцтва ў поўнай рэалізацыі адозвы ЦК ВКП(б). Просім

рэдакцыю газеты «Рабочий» быць арбітрам і сістэматычна правяраць ход рэалізацыі адозвы ЦК ВКП(б)».

Гэты рапарт апублікован у газеце «Рабочий» ад 11/I—34 г.

На праверку аказалася, што ні адзін з пунктаў не выканан, і рапарт застаўся простай дэкларацыяй.

Крахмальны завод «Чырвоны бераг» абавязаўся (гл. «Рабочий» за 27/II) у час падрыхтоўкі да канферэнцыі выканаць лютаўскі промфінплан па экспарту на 102 проц. і агульны—на 103 проц. А фактычна выканаў план за люты на 91 проц.

Ёсць прадпрыемствы, дзе сёе-тое зроблена, але ўвогуле справа яшчэ дрэнная.

Напрыклад, Нараўлянская фабрыка план 1933 г. выканала на 103,5 проц. За 2 месяцы 1934 г.—на 90 проц., за 1 дэкаду сакавіка—на 89 проц. Недавыкананне тлумачыцца адсутнасцю асноўных відаў сыравіны (патака, папера).

Па прадукцыйнасці працы план выканан за 2 месяцы на 95 проц., фонд зарплаты—на 90 проц.

Пабелены ўсе памяшканні цэхаў, устаноўлен штомесячны медагляд, пастаўлены паасобныя шафы для спецвопраткі, умывальнікі ў кожным цэху, выданы ручнікі. Па ўсіх цэхах, у сталоўцы і інтэрнатах 11 санпастоў сочаць за санітарыяй цэха і асабістай гігіенай рабочых. У дастатковай колькасці—халаты, касынкі, калпакі (набыта 250 новых халатаў, 155 калпакоў). Пабудован душ. Пасля кожнай змены 15 мінут адводзіцца для ўборкі цэхаў і рабочага месца.

Правяраецца якасць сыравіны і поўфабрыкатаў. Для ачысткі ад пабочнай прымесі—цукар, патака і іншыя віды сыравіны працэджваюцца. На 3 чал. павялічана колькасць прыбыральшчыц. На ўборку цэхаў затрачана 600 руб., а на спецвопратку 6.000 руб.

Абвешчан конкурс на лепшы цэх чыстаты, для прэміявання асігнавана 500 руб. Каб падцягнуць у чыстаце ірысны цэх, мармеладны ўзяў яго на буксір.

Праведзена вытворча-тэхнічная нарада і агульна-фабрычная канферэнцыя па пытаннях якасці прадукцыі і санітарыі. У рэзультаце значна палепшылася якасць, санітарны стан, брак знізіўся з 3 проц. да 1 проц. 10 чал. здалі сантэхэкзамен.

Па некаторых прадпрыемствах, праведзена наступнае:

а) ачыстка тэрыторыі фабрык ад смецця і бруду;

б) пабелка і ачыстка цэхаў;

в) азеляненне цэхаў: у карамельным на «Комунарцы», на менскай каўбаснай фабрыцы, на маргарынавым заводзе, у каўбасным цэху на Оршанскім камбінаце;

г) абсталяваны бактэрыялагічныя лабараторыі на мясакамбінатах у Менску, Віцебску; хімічныя—у Полацку і Гомелі;

д) арганізаваны цэхі чыстаты: у Менску на «Комунарцы» і мясакамбінаце, у Гомелі на ф-цы «Спартак»;

е) прыведзен у парадак інвентар, абсталяванне;

ж) значна павялічылася колькасць спец. санвопраткі.

Для таго, каб даць прадукцыю добрай якасці, трэба звярнуць асобую ўвагу на санітарны стан, на абсталяванне апаратурай, на ўмовы, у якіх вытвараецца прадукт, на сыравіну, на дапаможныя матэр'ялы.

Праводзячы работу па праверцы выканання адозвы ЦК, трэба сканцэнтраваць увагу на тэхналагічным працэсе, каб забяспечыць добраякаснасць прадукцыі, павысіць якасныя паказчыкі.

Ці ёсць якія-небудзь рэзультаты ў павышэнні якасці прадукцыі? Безумоўна, ёсць.

Агалашу **асноўныя якасныя паказчыкі за студзень і люты 1934 г. па мясной прамысловасці** (у процантах):

| | 1933 г. | 1934 г. |
|---|---|---|
| Выхад мяса (буйнай раг. жывёлы) | 40,41 | 40,65 |
| „ „ (свіней) | 53,02 | 53,55 |
| „ сала (буйн. раг. жывёлы) | 1,58 | 2,05 |
| „ „ (свіней) | 3,56 | 3,6 |
| Вытв. брак. скур (буйных) | 1,03 | 0,47 |
| „ (дробных) | 1,53 | 0,29 |
| „ (свіных) | 3,53 | 1,16 |
| Выпрацоўка кішак 1 сор. (круга) | 71,5 | 81—86,8 |
| „ „ „ (чэрава) | 63,0 | 85,0 |
| „ „ „ (сінюгі) | 43,0 | 74—93,5 |
| Выхад сала топца (кароўяга) | 59,0 | 60,0 |
| „ „ (баранняга) | 63,6 | 75,7 |
| „ „ (свінога) | 70,7 | 74,5 |
| Збор-крыві (проц. вык. плана) | 101,3 | 105,4 |

Гэта гаворыць аб тым, што калі ўзяцца за справу па-сур'ёзнаму, можна значна палепшыць якасныя паказчыкі і выканаць план.

Каб палепшыць якасць прадукцыі, у першым квартале намецілі наступныя змены ў асартыменце і якасці вырабаў. На магілеўскім броварным заводзе ў 1933 г. выпускаўся адзін сорт піва і 5 сартоў безалкагольных напіткаў,—у першым квартале 1934 г. выпускаецца 4 сарты піва і 6 сартоў безалкагольных напіткаў. На кандытэрскай фабрыцы «Комунарка» у 1933 г. выпускалася 12 сартоў вырабаў, у 1 квартале 34 г.—24 сарты.

Некаторыя сарты вырабаў, як «Дырыжабль», «Памадная» і буйны размер карамелі зусім зняты з вытворчасці. «Спартак» у 1933 г. выпускаў 7 сартоў, у 1 квартале 1934 г.—19 назваў, 26 сартоў. Мясная прамысловасць у 1933 г. выпускала 3 сарты каўбасных вырабаў, у 1 квартале 34 г.—12 сартоў, прычым дасягнута лепшае выкарыстанне жывой вагі жывёлы на мясакамбінатах. Малочная кіслата выпускалася ў 1933 г. моцнасцю 22—30 °, у першым квартале 1934 г.—36,4°. Маслядзельная прамысловасць давала сярэднюю бальнасць масла ў 1933 г.—80,9, а ў першым квартале—82,36, пры стандарце 83,5.

Паасобныя зрухі ў палепшанні якасці прадукцыі пераважна ў канцы квартала ўсё яшчэ не забяспечылі агульнага павышэння ўзроўню якасці. Асабліва дрэнна ў мясной прамысловасці. Ужо пасля адозвы ЦК ЗКП(б) ад 22 снежня было некалькі выпадкаў, калі камбінаты выпускалі зусім нядобраякаснае мяса—заражанае, папсаванае. Менскі камбінат атрымаў з оршанскага мясакамбіната 95 бочак зусім нягоднага для спажывання мяса. Фабрыка «Комунарка» выпускала цукеркі, у якіх знаходзілі шкло і цвікі. У прадукцыі дражджавога завода «Пролетарый» 29 снежня і 18 лютага былі знойдзены цвікі. У 1933 г. было выкрыта шкодніцтва ў мясной, птушкаводчай і рыбнай прамысловасці.

Шкоднікі ў харчовай прамысловасці стараліся стварыць затрудненні ў снабжэнні рабочых прадуктамі харчавання і выклікаць тэтым нездаволенасць працоўных мас. Пра сваю тактыку і праграму сведчаць шкоднікі ў сваіх паказаннях.

**Па мясной прамысловасці.** У 4 квартале 33 г. выкрыта і ліквідавана контррэволюцыйная шкодніцкая арганізацыя ў харчовай (мясной і птушкаперапрацоўваючай) прамысловасці і ў прыгарадных гаспадарках БССР. Сваёй дзейнасцю гэта арганізацыя ахапіла цэнтральны апарат сельгаскіраўніцтва Белкаапсаюза, буйныя прыгарадныя гаспадаркі, мясакамбінаты ў 4 асноўных гарадах БССР—Менск, Орша, Гомель, Бабруйск і птушкакамбінат «Антонава».

Падрыўная работа на мясакамбінатах павінна была зводзіцца:

а) да павелічэння браку мяса пры аглядзе туш пасля забою, а таксама выпуску недастаткова прастэрылізаваных туш свіней хворых чумой, каб павялічыць эпізаотыю чумы;

б) да выпуску нядобраякасных мясных прадуктаў з мэтай выклікаць захворванні сярод насельніцтва;

в) да забою ў адных і тых-жа забойных камерах здаровай і хворай жывёлы, каб заразіць добраякасныя мясапрадукты;

г) да распаўсюджання эпізаотыі сярод жывёлы, асабліва сярод свіней на адкормачных пунктах;

д) да антысанітарнага стану камбінатаў наогул;

е) да закладкі на халадзільнік неадсартаванага мяса, каб зменшыць тэрмін захавання, бо тлустае мяса і незабрудненае можа захоўвацца да 11 мес., а худое і забрудненае да 7 мес.

Аднак, рэшткі шкодніцкай работы яшчэ не ліквідаваны.

На менскім мясакамбінаце для хворай жывёлы няма ізалятара; у забойна-раздзелачным цэху праводзіцца адначасова забой буйнай рагатай жывёлы і раздзелка туш; адным і тым-жа інвентаром забіваецца хворая і здаровая жывёла, кручкі і разногі іржавыя, сталы не абіты бляхай, катлы нялужаныя і т. п.

**Па птушкавай прамысловасці.** Пры ўпакоўцы бітай птушкі ў скрынкі, куды змяшчаецца да 200 курэй, трапляла туды разам з бітай і жывая, якая да падзежу забрудняла бітую, а пасля падзежу, хутка разлагаючыся, заражала яе гніллю. Гэта шкодніцкая тактыка накіравана была на зрыў экспарту. На жлобінскім камбінаце птушка кідаецца ў скрынку, дзе яна ў судыргах набівае сінякі і робіцца нягоднай для экспарту.

**Па рыбнай прамысловасці.** Амярцвенне капіталаў і штучнае расцягванне тэрмінаў заканчэння капітальнага будаўніцтва; нядобраякаснае выкананне паасобых гідраўстановак; будаўніцтва рыбгасаў без эканамічнага абгрунтавання; зрыў вытворча-эксплаатацыйных планаў у рыбгасах.

Гэтыя прыклады шкодніцкай работы па мясной і птушкавай прамысловасці павінны быць улічаны нашымі гаспадарнікамі.

Прыклады шкодніцтва гавораць аб тым, што санітарыя і гігіена на харчовых прадпрыемствах з'яўляюцца пытаннямі класавай барацьбы. Трэба ўзняць гэтыя пытанні на прынцыповую вышыню і мабілізаваць пільнасць усіх работнікаў харчовай прамысловасці.

* * *

Да адозвы ЦК партыі вельмі многія прадпрыемствы не ведалі сапраўднага твару сваіх работнікаў, не ведалі ў прыватнасці, ці могуць яны быць выкарыстаны па стану іх здароўя ў харчовай прамысловасці. Работнікі Белплодагародніны, Белсанвінпрома, Белмаслапрома наогул не праходзілі ніякага медагляду. Усе рабочыя (285 чал.) гароднінасушыльнага завода к моманту апублікавання адозвы ЦК былі без медагляду. На працягу месячніка прашлі медагляд 285 чал. і паўторна—188 чал. Аказалася, што хварэюць на каросту—3, сухоты жэлез—1, сухоты лёгкіх—1, трахому—2, экзему—1, сухі плеўрыт—1, бранхіт—1, дробныя хваробы—13, з вошамі—56.

Таксама без медагляду працавалі на Тэрэхаўскім заводзе ўсе 132 чал., на Чэрвеньскім усе 18 чал., а разам было без медагляду па ўсіх прадпрыемствах 508 чал.

Па Белсанвінпрому праведзен медагляд 294 чал., знята хворых 19 чал.

Трэба дабіцца, каб медыцынскі агляд быў рэгулярным. Гэта павінна быць азбукай для кожнага рабочага, кожнага гаспадарніка.

Агромнае значэнне мае асабістая гігіена.

На «Комунарцы», менскім мясакамбінаце адкрыты цырульні з манікюрам, і, трэба асоба падкрэсіць, што ў гэтай справе рашаючае значэнне мае асабісты прыклад і ўзаемны кантроль.

Зрухі дасягнуты і ў агульнай санітарыі: пашыраецца сець пралень, пабудавана лазня на оршанскім мясакамбінаце, пашырана пральня на «Комунарцы».

Значна палепшылася забяспечанне рабочых сан. і спецвопраткай. На кожнага рабочага мясакамбінатаў прыпадае ў сярэднім па паўтара-два камплекты спецвопраткі. На кандытэрскай фабрыцы куплены 250 новых халатаў і 50 калпакоў і т. д.

Аб чым гэта гаворыць? Аб тым, што пры жаданні і гібкасці гаспадарнікаў можна было дастаць гэтыя рэчы.

Усё абсталяванне, апаратура і інвентар харчовых прадпрыемстваў павінны быць заўсёды ва ўзорным стане; своечасова палуджаны катлы, негігіенічная апаратура і абсталяванне заменены новым, адказваючым строгім санітарным патрабаванням.

Выключнай увагі заслугоўвае работа заводскіх лабараторый. У адозве ЦК для іх дана чоткая праграма:

«Асобую ўвагу звярнуць на работу фабрычна-заводскіх хіміка-бактэрыялагічных лабараторый, куды перакінуць ведаючых справу, правераных комуністаў і комсамольцаў».

«Не дапускаць для перапрацоўкі некандыцыйную і не адказваючую тэхнічным патрабаванням сыравіну і поўфабрыкаты, у прыватнасці не дапускаць да вытворчасці ні адзін від сыравіны і поўфабрыкатаў без устаноўленага для іх хіміка-бактэрыялагічнага кантроля».

«Не выпускаць з прадпрыемстваў гатовай прадукцыі без дасканалага аналізу яе ў хіміка-бактэрыялагічных лабараторыях».

«Разгарнуць сярод рабочых сістэматычную прапаганду асноў гігіены і санітарыі харчовай прамысловасці шляхам арганізацыі лекцый, гурткоў, распаўсюджвання наглядных падручнікаў, арганізацыі соцспаборніцтва на ўзорна-паказальныя цэхі і т. д.»

Разгортваецца сярод рабочых прапагандысцкая работа, арганізаваны лекцыі, гурткі, соцспаборніцтва на ўзорны, паказальны цэх. Аднак зрухі гэтыя зусім мізэрныя.

Нашы лабараторыі працуюць вельмі нездавальняюча, дрэнна абсталяваны, кадры слабыя, метады работы нікуды няварты,—часта фатаграфуюць тое, што ёсць, а часам позняцца з аналізам на 2—3 дні, калі прадукцыя ўжо трапіла да спажыўца.

Магілеўскі гароднінa-сушыльны завод працуе зусім усляпую, зрэдку наведваючы лабараторыю ЦРК, каб зрабіць аналіз. Без бактэрыялагічнай лабараторыі працуе оршанскі мясакамбінат.

Заводскія лабараторыі трэба акружыць увагай і зрабіць іх дзейснай сарцавінаю нашых прадпрыемстваў.

Згодна палажэнню, санінспектары не падначальваюцца дырэктару прадпрыемства, але фактычна з'яўляюцца яго важнейшымі памочнікамі ў арганізацыі на фабрыцы строгага і ўзорнага санітарнагігіенічнага рэжыму. Аднак на некаторых фабрыках санінспектар з'яўляецца злейшым ворагам гаспадарніка (Менскі мясакамбінат, фабрыка «Комунарка»). Да гаспадарнікаў, якія ставяць рагаткі ў рабоце санінспектара, мы прымем самыя суровыя меры, як і да санінспектара, які не дапамагае справе. Пра аднаго санінспектара сказалі, што ён працуе як акалодачны; прыдзе на завод, ні з кім не пагаворыць, а праз дзень прысылае акт і штраф. Санінспектары павінны змагацца за ўзорны санітарны стан цэхаў, прадпрыемстваў, мабілізуючы на гэта ўсю грамадскасць.

Наша задача—у бліжэйшы час пашырыць сець санінспектароў, а не абмяжоўваць работу на прадпрыемствах толькі колькасцю штатных адзінак. Наша работа, як наркамата, у гэтым пытанні з'яўляецца нездавальняючай. Зусім нездавальняюча працуе і наша дзяржінспекцыя па якасці, ахапляючы сваім уплывам вельмі вузкае кола прадпрыемстваў і абмяжоўваючыся толькі складаннем актаў.

«Устанавіць, каб кожны майстар, брыгадзір і астатні кіруючы тэхнічны персанал прадпрыемстваў абавязкова здаў экзамен на санітарна-гігіенічны мінімум»—так гаворыць рашэнне ЦК.

Тым часам санітарная вучоба ў выключна дрэнным стане.

Некаторыя прадпрыемствы робяць толькі першыя крокі.

На крахмальным заводзе № 3—Брагіна ўсе рабочыя прашлі тэхмінімум, праверaны веды, выдадзены адпаведныя пасведчанні.

Бабруйская мармеладная фабрыка—25 рабочых вядучых прафесій здалі сантэхэкзамен, арганізаваны курсы для адміністрацыйна-тэхнічнага персанала.

Але ўсё гэта адзінкі. Калі ўлічыць, што асноўных рабочых у нас 10.000 чал., то трэба сказаць, што пытанні санітарнай і тэхнічнай вучобы зусім не разгорнуты. Многія прадпрыемствы бралі на сябе абавязацельствы на здачу сантэхэкзаменаў, але не выканалі іх.

* * *

Не гледзячы на дрэнныя рэзультаты работы харчовай прамысловасці ў 1933 г., у першым квартале 1934 г. мы працуем яшчэ горш. І калі пачынаеш шукаць прычыны, то аказваецца, што ў першую чаргу вінаваты ў гэтым мы самі.

Вінават Наркамснаб, які дагэтуль яшчэ не перабудаваўся, не спусціўся да прадпрыемстваў, канкрэтна не кіруе імі; вінаваты трэсты, якія кіруюць загадамі і гастралёрскімі паездкамі. Не пасылаем мы людзей на прадпрыемствы, каб на месцы выпраўляць недахопы: наш гаспадарчы апарат не аўладаў яшчэ тэхнікай работы ў харчовай прамысловасці.

У наркамаце прапрацавалі першы варыянт перабудовы, але нідзе аб ім не дакладвалі, ніхто яго не зацвярджаў. Сутнасць гэтага варыянта зводзіцца да наступнага: ліквідуем трэсты рэспубліканскага значэння, ствараем галінныя прамысловыя кіраўніцтвы наркамата, якія ад пачатку да канца адказваюць за прадпрыемствы, што ўваходзяць у гэта кіраўніцтва, без усякіх прамежных зменняў: ліквідуем усе функцыянальныя сектары і канцэнтруем усе пытанні ў адным кіраўніцтве; намячаецца перастаноўка людзей, асабліва ў бок перакідкі работнікаў трэста на прадпрыемствы; наметілі спіс прадпрыемстваў, якія трэба перадаць, у мясцовую прамысловасць.

Але гэта толькі праект, і мы ўсё яшчэ працуем па-старому, дрэнна кіруем. Мы адарваны ад прадпрыемства, і не маем мажлівасці аказваць штодзенную канкрэтную дапамогу адстаючаму ўчастку. Вядзем справу старым канцэлярска-бюракратычным метадам, замяняючы жывое кіраўніцтва і інструктаж пісанінай.

Трэсты, пачуўшы аб тым, што ёсць варыянт аб іх ліквідацыі, рашылі складвацца. Замест таго, каб цэнтр увагі ўдзяліць перабудове прадпрыемстваў, дапамагчы ім людзьмі, яны апусцілі рукі, дэмабілізаваліся. Гэта трэба сказаць і пра Белкмо—тав. Трыўсіка, Белмасламарг—тав. Альтмана, Белбродтрэст—т. Рабіновіча.

У Белплодагародніне вельмі арыгінальная схема: усе ідуць па справах к дырэктару, а намеснік проста так баўтаецца, ні за што не адказвае. На прадпрыемствах трэба зламаць цэлы рад традыцый, што склаліся ў нас, рашуча змяніць арганізацыйнае кіраўніцтва прамысловасцю, дабіцца, каб усе кіраўнікі і рабочыя аўладалі тэхнікай сваёй справы, унікалі ў дэталі вытворчага працэса.

Тав. Трыўсік—кіраўнік трэста Белкмо—кіруе «наогул», бо не ведае працэса вытворчасці, не аўладаў тэхнікай сваёй справы.

Рэдка ў заводакіраўніцтве ці ў дырэктара сустрэнеш кніжку па сваёй галіне прамысловасці. Напрыклад, дырэктар Белбродтрэста т. Рабіновіч не ведае тэхналогіі працэса сваёй вытворчасці, дырэктар завода «Беларусь» т. Нейштат не ведае сваёй вытворчасці (і, здаецца, не хоча ведаць), яму цяжка кіраваць заводам. Таксама і т. Хорум—дырэктар завода «Малочнай кіслаты»—і многа іншых.

А калі ўлічыць, што ў нас агромнейшая засмечанасць апарата, асабліва ў Белдзяржспірце, Белплодагародніне, Белмаслапроме, Заготжывёле і інш., што там цэлыя букеты былых людзей, то з

такім апаратам, не ведаючы тэхнікі вытворчасці, не ўнікаючы ў дэталі справы можна ўгробіць усю вытворчасць. Мы павінны сёння гэтыя пытанні паставіць рэзка, бо ў рэзалюцыях XVII з'езда партыі моцна запісана, каб кіруючы склад у найкарацейшы тэрмін аўладаў дэталямі сваёй вытворчасці.

Другая рыса, якая характарызуе нашу вытворчасць,—гэта агульныя дэкларацыі, агульная гаварыльня, няведанне рэчаіснасці. Тав. Рабіновіч дакладвае, напр., што з-за непадачы паліва прадукцыю прыходзіцца паўторна пускаць у перапрацоўку. А, як аказваецца, 2 тоны малочнай кіслаты прышлося ўжо пусціць у каналізацыю. І гэта на прадпрыемстве, якое знаходзіцца ў Менску.

Прыязджае дырэктар макароннай фабрыкі Семенічаў, расцісвае, што ўсё добра. На праверку-ж выходзіць паўнейшы развал, сямейственасць, п'янства, агромнейшы крадзеж (у 1933 г. недахоп 9-ці вагонаў пшаніцы). Або выклікаем дырэктара мясакамбіната Варанкова—літаральна за язык прыходзіцца цягнуць і дырэктара і сакратара парткома, каб даведацца, што робіцца. Недахопы ў гэтым камбінаце замазваюць, хаваюць, не дапамагаюць нам ускрываць бясчынствы.

Пытанні аўладання тэхнікай датычаць, вядома, не толькі кіраўнікоў трэста. Цэлы рад заводаў (малочнай кіслаты, гароднінасушыльны, крахмальны і інш.) не асвоілі сваёй вытворчасці. Большасць работнікаў патрабуе павышэння кваліфікацыі.

Можна сустрэць, напр., такія факты, што на менскім мясакамбінаце баец забівае цяля з двух удараў. На фабрыцы «Комунарка», замест асваення асноўных агрэгатаў у сувязі з пашырэннем асартымента, прыкмячаецца рух назад—да саматужніцтва, і ўстаноўкі ручных прэсаў. Саматужніцтва ў сістэме работы і кіраўніцтве вытворчасці трэба вытравіць. У нас яшчэ вельмі недастаткова накоплена прамысловага вопыту, вельмі невысока тэхнічная культура.

Трэба рашуча перабудаваць недарэчную структуру тэхнічнага кіраўніцтва на прадпрыемствах, якая аддзяляе тэхнічны апарат ад рабочых. На фабрыцы галоўны інжынер павінен-бы быць тэхнічным кіраўніком, а на праверку аказваецца, што ён нічым не кіруе, нічога не робіць, ні за што не адказвае, а наогул займаецца ўсімі пытаннямі патрошку.

* * *

Рашаючае значэнне ў выкананні плана харчовай прамысловасцю залежыць ад партыйна-масавай работы на нашых харчовых прадпрыемствах.

Павышэнне якасці прадукцыі, пашырэнне асартымента, устанаўленне найстражэйшага санітарна-гігіенічнага рэжыму—усе гэтыя пытанні могуць быць вырашаны і замацаваны толькі ў тым выпадку, калі вакол іх будзе разгорнута шырокая партыйна-масавая работа.

Наша задача—правесці ўсе гэтыя мерапрыемствы з удзелам усіх рабочых, бо асноўная задача, пастаўленая ў адозве ЦК партыі, гэта—выхаваць членаў партыі, рабочых у такім духу, каб яны адчувалі перад працоўнымі выключную адказнасць за выпуск добраякаснай прадукцыі.

Аднак партыйна-масавая работа на нашых прадпрыемствах разгорнута вельмі слаба. Па-першае, таму, што на нашых харчовых

прадпрыемствах вельмі слабая партыйная праслойка. Па-другое, няверна расстаўлены партыйныя сілы на заводах.

Напрыклад, з 80 рабочых Свяцілавіцкага крахмальнага завода— толькі адзін кандыдат партыі і нядаўна прынялі яшчэ аднаго члена партыі загадчыкам прыгараднай гаспадаркі.

На фабрыцы «Комунарка» на 1.100 чал.—69 членаў і кандыдатаў партыі, з якіх у цэхах толькі 34 чал. На заводзе «Беларусь» з 213—24 чал. членаў і кандыдатаў партыі; «Пролетарый»—з 80--14; «Чырвоная зара»—з 203—28, на заводзе малочнай кіслаты са 114 чал.—9 чал.; на спіртаводачным заводзе—з 203 чал.—16 чал.; у Магілеве на ўсіх харчовых прадпрыемствах, дзе занята каля 1.000 чал., усяго 45 чал. членаў і кандыдатаў партыі, прычым комуністы расстаўлены такім чынам, што цэлы рад вядучых участкаў застаўся зусім без партыйнага кіраўніцтва.

Па-трэцяе, трэба ўлічыць, што на многіх прадпрыемствах партыйныя кіраўнікі слабы, і не забяспечваюць выканання партыйных дырэктыў, як напрыклад сакратар парткамітэта менскага мясакамбіната т. Царфін, сакратар парткамітэта фабрыкі «Комунарка» т. Гольдзін, сакратар сушзавода т. Гваздзёў.

Павінна быць разгорнута шырокая партыйна-масавая работа. Трэба выкарыстаць абсалютна ўсе рычагі, каб мабілізаваць увагу мас на вырашэнне пастаўленых партыяй перад харчовай прамысловасцю задач (арганізацыя санпастоў, інстытута добраахвотных санінспектароў, шэфства ІТР над паасобнымі агрэгатамі, асабліва над кацельнай, дзе ў нас найслабейшы ўчастак, вывешванне чорных і чырвоных дошак, барацьба за чыстае санітарнае рабочае месца, за выкананне плана, за паказ лепшага ўдарніка, работа лёгкай кавалерыі і т. п.).

Асабліва вялікае поле дзейнасці перад лёгкай кавалерыяй. Маючы выпадкі разбазарвання прадукцыі, крадзежу, безгаспадарнасці, нашы комсамольцы спяць, не развіваюць той агромнейшай ініцыятывы, якая ўласціва комсамолу, з яго задорам, жывасцю і самадзейнасцю.

Мы стварылі магутную харчовую прамысловасць, якая ва многа раз перавышае даваенную, але не маем тэхпромфінплана ні на адным харчовым прадпрыемстве Беларусі.

Пытанні рабочага снабжэння дагэтуль былі забытым участкам і зараз патрабуюць да сябе сур'ёзнай увагі.

Ад рабочых мы патрабуем строгай пролетарскай дысцыпліны, ударнай работы ў змену, лепшай якасці. Мы перабудоўваем сістэму зарплаты з улікам якасці прадукцыі, уводзім пасортную аплату працы, выдзяляем вядучыя прафесіі, ліквідуем калектыўную здзельшчыну і т. д. Але мы павінны ў такой-жа меры паляпшаць рабочае снабжэнне, навесці парадак ў сталовых, вышукваць дадатковыя крыніцы для палепшання рабочага снабжэння.

Трэба ў бліжэйшы час вырашыць пытанне, каб такія буйныя фабрыкі, як «Комунарка» у Менску, макаронная фабрыка ў Барысаве, завод «Чырвоны хімік» мелі свае ўласныя прыгарадныя гаспадаркі, і дабіліся палепшання ў снабжэнні рабочых.

Па-большэвіцку ўзяўшыся за работу, дружна падналёгшы на вузкія месцы, выканаем план 1934 г. па ўсіх паказчыках. Харчавікі Беларусі павінны быць у першых радах у барацьбе за рэалізацыю адозвы ЦК ВКП(б) і рашэнняў XVII з'езда.

* * *

Абвешчаны наркамснабам СССР т. Мікаянам, па ініцыятыве ўдарнікаў беларускіх харчовых прадпрыемстваў, усесаюзны агляд прадпрыемстваў харчовай прамысловасці з $^1/_5$ па $^1/_{10}$ павінен уцягнуць усю масу рабочых, ІТР і гаспадарнікаў у разгорнутую барацьбу за аўладанне новай культурай харчовай вытворчасці, як адзначана ў адозве ЦК ВКП(б).

Задачай агляду з'яўляецца праверка выканання кожным прадпрыемствам сістэмы Наркамснаба, камітэта загатовак СНК, прамыславаспажывецкай і інваліднай кааперацыі, прадпрыемствамі грамадскага харчавання—адозвы ЦК.

Агляд павінен забяспечыць усебаковую праверку выканання партыйных дырэктыў як па лініі гаспадарчай, так і па лініі масавай і профсаюзнай работы.

Агляд павінен паказаць жывых людзей, канкрэтныя справы, адмоўныя і дадатныя бакі ў рабоце кожнага прадпрыемства, каб на вопыце лепшых, перадавых падцягваць адстаючыя звенні харчовай прамысловасці і ў рэзультаце агляду вывесці харчовую прамысловасць Беларусі ў першыя рады барацьбітоў за выкананне гістарычных рашэнняў XVII партз'езда.

Г. Ф. Стырнэ

# Аб падрыхтоўцы кадраў для сельскай гаспадаркі

З ростам народна-гаспадарчых задач пры правядзенні ў жыццё рашэнняў XVII партз'езда і ўказанняў правадыра партыі т. Сталіна аб плане другой пяцігодкі—пяцігодкі завяршэння тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, пяцігодкі пабудовы бяскласавага грамадства ў нашай краіне,—значна ўзрастаюць і запатрабаванні да ўсіх інжынерна-тэхнічных кадраў, асабліва ў галіне павышэння іх кваліфікацыі.

У першую чаргу адносіцца гэта да спецыялістаў, якія працуюць на сельскай гаспадарцы—у мінулым больш адсталай і раздробленай і толькі што перажыўшай свой рэканструкцыйны перыяд.

Перад соцыялістычнай сельскай гаспадаркай у другую пяцігодку XVII партз'езд і тав. Сталін паставілі павышаныя запатрабаванні: рашуча павесці ўраджайнасць зернавых і тэхнічных культур, вырашыць задачы жывёлагадоўлі, колькасна і якасна ўзняць усе віды сельскагаспадарчай вытворчасці. А для гэтага неабходна рашучым чынам павышаць і ў далейшым прадукцыйнасць працы, поўнасцю асвоіць навейшую сельскагаспадарчую тэхніку, правільна выкарыстоўваць у спалучэнні з жывою цягавай сілай усю магутнасць трактарнага і аўтамабільнага парка, складаных і поўскладаных сельскагаспадарчых машын, выкарыстаць усе магчымасці, заложаныя ў соцыялістычнай форме вядзення сельскай гаспадаркі.

Побач з гэтым соцыялістычная сельская гаспадарка патрабуе высокакваліфікаваных спецыялістаў, узброеных шырокімі тэарэтычнымі і практычнымі ведамі па сваёй справе, ведамі марксісцка-сталінскага вучэння аб соцыялістычным будаўніцтве.

Умовы для гэтага ў нас ёсць. Партыя і совецкі ўрад стварылі ўсе ўмовы для нашых навучальных устаноў, каб яны маглі рыхтаваць і выпускаць высокакваліфікаваных спецыялістаў—арганізатараў буйнай соцыялістычнай сельскагаспадарчай вытворчасці.

Наш совецкі спецыяліст—аграном, зоатэхнік, агратэхнік, ветэрынарны ўрач і т. д.—па сваёй кваліфікацыі і тэарэтычнай падрыхтоўцы павінен і можа стаяць на галаву вышэй тых спецыялістаў, якіх рыхтавалі ў былой царскай Расіі, якіх рыхтуюць зараз у любой капіталістычнай краіне.

Каб наблізіць навучальныя ўстановы да вытворчасці і ўвязаць гэтым тэорыю з практыкай, што садзейнічае павышэнню якасці падрыхтоўкі спецыялістаў,—усе навучальныя ўстановы, у адпаведнасці з тым, для якой галіны народнай гаспадаркі яны рыхтуюць кадры, рашэннем партыі і ўрада перададзены ў веданне адпаведных гаспадарчых наркаматаў.

Рашэннем XV з'езда КП(б)Б даручана НКЗ і Ўпаўнаркамсоўгасаў «правесці далейшае ўмацаванне матар'яльнай і вытворчай базы с.-г. ВНУ і асабліва тэхнікумаў як у частцы ўмацавання навучальных сродкаў (лабараторыі, машыны, зямельныя плошчы і т. д.), так і ў частцы бытавых умоў вучэбнага персанала і навучаючыхся. Практыкаваць перападрыхтоўку спецыялістаў сярэдняй і вышэйшай кваліфікацыі шляхам арганізацыі курсаў працягласцю да аднаго года».

Рашэннем XV з'езда КП(б)Б пастаўлена перад с.-г. ВНУ і тэхнікумамі, і ў першую чаргу перад НКЗ і Ўпаўнаркамсоўгасаў задача—даць на працягу другой пяцігодкі для соцыялістычнай сельскай гаспадаркі БССР 5151 чал. высока падрыхтаваных і кваліфікаваных спецыялістаў, з іх ВНУ павінны даць 1469 і тэхнікумы 3682 чал.

Здавалася-б, што НКЗБ і Ўпаўнаркамсоўгасаў павінны былі па-большэвіцку пераключыцца на правядзенне ў жыццё рашэння партз'езда і неадкладна перабудаваць сваю работу па кіраўніцтву падпарадкаванымі ім навучальнымі ўстановамі.

Як-жа НКЗ і Ўпаўнаркамсоўгасаў выконваюць дырэктывы партыі і ўрада, рашэнні XV з'езда КП(б)Б, пастановы ЦК ВКП(б) і пастанову ЦВК СССР ад 19-IX—32 г. «Аб вышэйшай школе і тэхнікумах» па падрыхтоўцы для соцыялістычнай сельскай гаспадаркі—соўгасаў і калгасаў—высокакваліфікаваных і тэарэтычна падрыхтаваных с.-г. спецыялістаў?

**Беліцкі жывёлагадоўчы тэхнікум** сістэмы Ўпаўнаркамсоўгасаў, які рыхтуе кадры для жывёлагадоўчых соўгасаў, працаваў у гэтым навучальным годзе без усякага вучэбнага плана і праграмы па ўсіх дысцыплінах. Навучальны год падыходзіць к канцу, а работа як ішла, так і зараз ідзе самацёкам, стыхійна.

Сярод выкладчыкаў і студэнтаў працоўная дысцыпліна не ў пашане, заняткі ў тэхнікуме сістэматычна зрываюцца. За адзін толькі студзень студэнты прагулялі 2058 вучэбных гадзін (у сярэднім па 20 гадзін кожны). Ніякага ўліку ў тэхнікуме не вядзецца, немагчыма ўстанавіць даныя як аб ходзе заняткаў, рабоце выкладчыкаў, так і аб прагулах. Кіраўніцтва тэхнікума не ведае, як ішла вучоба за ўсе месяцы, і не толькі не прымала мер, каб наладзіць улік і кантроль работы выкладчыкаў, а нават само зацікаўлена было ў гэтым хаосе. Былы загадчык навучальнай часткі **Белавусаў** прыпісаў сабе тыя гадзіны, якія ён прапусціў (з 1-IX—33 г. па 1-I—34 г. на першым курсе прачытаў па зоатэхніцы 4 лекцыі, а запісаў для аплаты за 16 гадзін). Колькі і кім прыпісана было лішніх гадзін устанавіць немагчыма, бо выкладчыкам плацілі на падставе тых звестак, якія яны самі давалі. Дырэктар тэхнікума—член партыі **Данцоў**—не цікавіўся ходам вучобы, а быў простым наглядальнікам усіх бясчынстваў.

Апартуністычная бяздзейнасць дырэктара Данцова спрыяла таму, што ўся работа ў тэхнікуме развалена, што тэхнікум засмечан класава-варожымі і антысовецкімі элементамі, на вылазкі якіх дырэкцыя тэхнікума **рашуча не рэагавала**, а таму яны мелі магчымасць працягваць на лекцыях контррэволюцыйныя шкодніцкія ўстаноўкі, нібы «механічная апрацоўка разбурае структуру глебы», нібы «камбайны засмечваюць палі» і т. д. Адсюль арыентоўка на перавагу сахі перад складанымі с.-г. машынамі (выкладчык **Дзергачоў**). Гэтым шкодніцкім устаноўкам ні дырэктар тэхнікума, ні калектыў выкладчыкаў не далі належнага адпору.

Адсутнасць масава-палітычнай выхаваўчай работы сярод студэнтаў дала магчымасць групе антысовецкіх элементаў арганізаваць контррэволюцыйныя дзеянні—стральбу па партрэтах правадыроў партыі.

Ні кіраўніцтва тэхнікумам, ні Ўпаўнаркамсоўгасаў не цікавілася тым, каб палепшыць культурна-бытавыя ўмовы студэнтаў. Частыя перабоі ў снабжэнні студэнтаў хлебам і іншымі прадуктамі лічацца нармальнаю з'явай. У сталоўцы брудна, у інтэрнатах падлога па некалькі месяцаў не мыецца і не прыбіраецца, завяліся клапы і вошы.

Нашы навучальныя ўстановы павінны падрыхтаваць не толькі спецыялістаў сваёй справы, але і культурных людзей, якія на вытворчасці, у соўгасах і калгасах павінны стаць арганізатарамі культурнага вядзення гаспадаркі, культурнага жыцця. Але кіраўніцтва Беліцкага тэхнікума і не думае нават клапаціцца аб гэтым. Студэнты пазбаўлены элементарнага культурнага абслугоўвання. Пры тэхнікуме няма ні клуба, ні чырвонага кутка.

Паспяховасць студэнтаў зусім нізкая. За 1 семестр здала залікі на нездавальняюча 34 проц. Па спецыяльных дысцыплінах на добра здалі ўсяго толькі 27 проц.

З тэхнікума пачаўся масавы адсеў студэнтаў. Толькі за 1-е паўгоддзе адсеялася 28,4 проц.

Упаўнаркамсоўгасаў не прыняў ніякіх мер для аздараўлення работы Беліцкага тэхнікума і нават нічога не ведаў аб сапраўдным яго становішчы. Сенненскі РК КП(б)Б, на тэрыторыі якога знаходзіцца тэхнікум, таксама праявіў у адносінах да яго апартуністычную бяздзейнасць.

**Мсціслаўскі вучотна-эканамічны тэхнікум**, які падрыхтоўвае бухгалтароў і рахункаводаў для калгасаў і МТС, з пачатку бягучага навучальнага года па 15 снежня не меў вучэбнага плана і праграм. Вучоба ішла стыхійна. Студэнты не забяспечаны падручнікамі па прафіліруючай галіне. Да апошняга часу зусім не было выкладчыкаў па ўліку і справаздачнасці, і толькі цяпер НКЗ камандыраваў выкладчыка, які за кароткі час павінен забяспечыць усваенне гадавой праграмы па гэтых прадметах, таму ён выкладае штодзенна па 6 гадзін, што яўна супярэчыць пастанове ЦВК СССР ад 19-IX—32 г. аб праграмах і рэжыме ў вышэйшай школе і тэхнікумах, дзе сказана: «адмяніць існуючую практыку пабудовы вучэбных планаў, калі праходжанне паасобных дысцыплін вядзецца на кароткім прамежку часу, безупынна і без чаргавання з іншымі дысцыплінамі (канвеерная сістэма), што пазбаўляе слухачоў магчымасці паглыблена асвоіць прадмет».

І ў гэтым тэхнікуме таксама няма падручнікаў па арганізацыі працы і вытворчасці ў калгасах; па ленінізму—ні адной кніжкі. Якасць вучобы і паспяховасць студэнтаў, зразумела, зусім нізкія. Толькі 23 проц. студэнтаў здалі залікі на добра і вельмі добра, 77 проц.—на нездавальняюча і здавальняюча. Міжволі паўстае пытанне: якіх спецыялістаў НКЗ думае атрымаць з гэтага тэхнікума?

**Кохануўскі аграглебавы тэхнікум** яшчэ не атрымаў ад НКЗБ вучэбных праграм па ўсіх дысцыплінах. Няма падручнікаў па спецыяльных дысцыплінах, няма вытворчай **базы. Вельмі нізкая** якасць вучобы: 78,1 проц. студэнтаў залік здалі на нездавальняюча і здавальняюча і толькі 21,9 проц. на добра і вельмі добра.

**Чэрыкаўскі ветэрынарны тэхнікум** ўсё яшчэ не мае вучэбнай праграмы па спецыяльных дысцыплінах: анатоміі і паталогіі.

**Чачэрскі свінагадоўчы тэхнікум** не мае вучэбнага плана і праграм па арганізацыі соцыялістычнай жывёлагадоўлі, механізацыі сельскай гаспадаркі, гісторыі партыі, белмове і т. д. Падручнікамі па спецыяльных дысцыплінах тэхнікум не забяспечан.

Падобных фактаў агіднай пастаноўкі работы і кіраўніцтва падрыхтоўкай кадраў можна было-б прывесці вялікую колькасць, але даволі гэтых, каб упэўніцца ў тым, што рад совецкіх і партыйных арганізацый апартуністычна недаацэньваюць ролю і значэнне тэхнікумаў у падрыхтоўцы кваліфікаваных кадраў для сельскай гаспадаркі.

Чачэрскі РК КП(б)Б за два гады ніразу не заслухаў на бюро дакладу аб рабоце Чачэрскага ветэрынарнага тэхнікума, і толькі ў апошні час зацікавіўся ёю. Скаргі на тое, што РК партыі не цікавяцца работай тэхнікумаў свайго раёна і не дапамагаюць ім, паступаюць з Коханаўскага, Чачэрскага і раду іншых тэхнікумаў. Многія з іх знаходзяцца далёка ад Менска і чыгункі, таму на працягу года, а то і больш, ніхто з прадстаўнікоў зацікаўленых наркаматаў туды не заяжджае для праверкі работы тэхнікумаў.

Акрамя адзначаных недахопаў, рад тэхнікумаў не мае базы для далейшага свайго развіцця і ўмацавання. Напрыклад, Чачэрскі свінагадоўчы, Брагінскі жывёлагадоўчы, Мсціслаўскі вучотна-эканамічны не маюць неабходнай вытворчай базы, адпаведных вучэбных памяшканняў і інтэрнатаў для студэнтаў, з года ў год недаўкамплектоўваюцца слухачамі і выкладчыкамі, празмерна раздроблена наменклатура спецыяльнасцей. Усё гэта кладзе адмоўны адбітак на якасць падрыхтоўкі выпускаемых спецыялістаў.

Адсутнасць чоткага плана падрыхтоўкі с.-г. кадраў на 2-ую пяцігодку як у НКЗБ, так і Ўпаўнаркамсоўгасаў—таксама сур'ёзны недахоп у рабоце гэтых наркаматаў, які сведчыць аб поўнай стыхійнасці і самацёку, аб няўменні саміх наркаматаў планаваць і кіраваць наборам слухачоў як у цэлым, так і па асобных установах. Чым кіруецца НКЗ і Ўпаўнаркамсоўгасаў, чым кіруюцца навучальныя ўстановы пры наборы і кваліфікацыі выпускаемых спецыялістаў сельскай гаспадаркі? На гэтае пытанне ні самі наркаматы, ні работнікі сектара кадраў гэтых наркаматаў не могуць адказаць.

Калі перад НКЗ і Ўпаўнаркамсоўгасаў пастаўлена была задача—устанавіць стабільную сець і кантынгент сельскагаспадарчых тэхнікумаў, выходзячы з патрэбнасці сельскай гаспадаркі ў спецыялістах сярэдняй кваліфікацыі на другую пяцігодку як цалкам, так і па асобных спецыяльнасцях, то абодва наркаматы аказаліся бездапаможнымі. Цэлыя два месяцы наркаматы гадалі, якія с.-г. тэхнікумы ім патрэбны, якія кантынгенты ўстанавіць як цалкам, так і па асобных тэхнікумах. А ўрэшце нічога лепшага не маглі прыдумаць, як узяць лічбы «с потолка». Як відаць, НКЗ і Ўпаўнаркамсоўгасаў не думаюць усур'ёз заняцца падрыхтоўкай высокакваліфікаваных кадраў для соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, такіх кадраў, на якія прад'яўляе запатрабаванне яе бурны рост.

Планавае вядзенне соцыялістычнай гаспадаркі патрабуе планавай падрыхтоўкі для яе неабходных кадраў. Хаосу ў гэтай справе час пакласці канец. Кіраўнікам гэтых наркаматаў пара зразумець, што падрыхтоўка кадраў мае выключна вялікае палітычнае значэнне, і партыя не дапусціць славеснай дэкларацыйнасцю прыкрываць бяздзейнасць і апартуністычныя адносіны да выканання яе дырэктыў.

Пастановай ЦК ВКП(б) ад 25-II—34 г. намечан рад канкрэтных мерапрыемстваў па палепшанню работы с.-г. тэхнікумаў і ўпарадкаванню профілей спецыялістаў сярэдняй кваліфікацыі. Гэта пастанова адмяніла празмерную раздробленасць у с.-г. тэхнікумах наменклатуры спецыяльнасцей сярэдняй кваліфікацыі і замест існуючых 60 спецыяльнасцей устанавіла наступныя:

«малодшы аграном-палявод (са спецыялізацыяй на апошніх курсах па зярну, бавоўне, лёну, насеннаводству і інш.);

малодшы аграном-гароднавод;

малодшы аграном-пладавод (са спецыялізацыяй на апошнім курсе па вінаградарству);

малодшы аграном па барацьбе са шкоднікамі с.-г. раслін;

малодшы аграном хімізатар-глебавед;

малодшы заатэхнік (са спецыялізцыяй на апошнім курсе);

механік са спецыялізацыяй на апошнім курсе па трактарах, аўтамабілях, камбайнах, па рамонту с.-г. машын і прыцэпнага інвентара;

гідратэхнік-меліяратар;

тэхнік-будаўнік;

механік па першапачатковай перапрацоўцы с.-г. прадуктаў;

торфабудаўнік;

тэхнік-землеўпарадкавальнік;

малодшы лесавод;

пам. ветэрынарнага ўрача;

тэхнік-нарміроўшчык.»

Гэтай-жа пастановай ЦК ВКП(б) абавязваў НКЗ Саюза, яго сістэму і Наркамсоўгасаў «у 2-х месячны тэрмін пераглядзець вучэбныя праграмы і планы с.-г. тэхнікумаў у такім напрамку, каб выпускаемым спецыялістам сярэдняй кваліфікацыі быў забяспечан дастатковы ўзровень агульна-агранамічных ведаў». На аснове гэтай пастановы НКЗ і Ўпаўнаркамсоўгасаў павінны ўстанавіць сталую сетку с.-г. тэхнікумаў і кантынгент патрэбных спецыялістаў па асобных галінах сельскай гаспадаркі БССР.

Трэба прыняць усе меры, каб своечасова забяспечыць усе навучальныя ўстановы вучэбнымі планамі, праграмамі, падручнікамі і дапаможнікамі (лабараторыямі, машынамі і т. д.), а таксама на аснове рашэнняў XV з'езда КП(б)Б забяспечыць навучальныя ўстановы неабходнай вытворчай базай, укамплектаваць добраякасным складам выкладчыкаў і ўстанавіць сапраўды канкрэтнае аператыўнае кіраўніцтва падпарадкаванымі навучальнымі ўстановамі. «Перабудаваць навучальную работу ў вышэйшай школе і тэхнікумах такім чынам, каб метады навучання ва ўсёй сукупнасці садзейнічалі далейшаму павышэнню ведаў навучаючыхся і тым самым забяспечылі-б падрыхтоўку кадраў, узброеных высокімі ведамі сваёй спецыяльнасці і маючых шырокі грамадска-палітычны светапогляд» (з пастановы ЦВК СССР ад 19-IX—32 г. аб вышэйшай школе і тэхнікумах).

Што для гэтага патрэбна зрабіць? Для гэтага патрэбна, штодзенна канкрэтна, аператыўна кіраваць і кантраляваць работу падпарадкаваных навучальных устаноў, добра ведаючы аб іх сапраўд-

ным стане, аб недахопах у рабоце, аб прычынах і карэннях гэтых недахопаў.

Падрыхтоўка кадраў для соцыялістычнай сельскай гаспадаркі—справа ўсёй партыі. Таму задача РК і ГК партыі тых раёнаў, дзе ёсць с.-г. навучальныя ўстановы,—узяць іх работу пад свой кантроль і нагляд.

Чэсна і па-большэвіцку выконваючы рашэнні XVII з'езда і ўсе дырэктывы партыі і ўрада, забяспечым падрыхтоўку высокакваліфікаваных спецыялістаў—арганізатараў соцыялістычнай сельскагаспадарчай вытворчасці.

---

Броништэйн

# Мастацкая літаратура к першаму з'езду совецкіх пісьменнікаў

У ноч на 1-е студзеня 1934 г., на парозе другога года другой пяцігодкі, беларускія совецкія пісьменнікі г. Менска прыймалі ў сваім Доме Пісьменніка 70 калгаснікаў і калгасніц зоны дзейнасці 1-й большэвіцкай МТС. Калгаснікі прышлі на чале з начальнікам палітаддзела—сваім партыйным кіраўніком у барацьбе за большэвіцкі калгас і заможнае калгаснае жыццё. Ад імя тысяч калгаснікаў і калгасніц гэта шматлікая дэлегацыя зачытвала перад беларускімі совецкімі пісьменнікамі соцыялістычны рахунак на мастацкую літаратуру.

«Дайце нам пабольш твораў беларускай мастацкай літаратуры!»

«Пакажыце ў вашых творах вобраз калгасніка-ўдарніка і калгасніцы-ўдарніцы!»

«Дапамажыце нам сваім мастацкім словам канчаткова і беспаваротна перамагчы ў барацьбе за соцыялістычнае землеробства!»

Гэтага патрабавалі ўсе, падымаючыся на трыбуну: і барадаты дзед, і энтузіяст-комсамолец, і «цётка», першы раз у сваім жыцці загаварыўшая аб літаратуры. Цяга да мастацкай літаратуры выключна вялікая. Для літаратурных гурткоў не хапае кіраўнікоў. Літаратурная кансультацыя ледзь спраўляецца з патокамі твораў пачынаючых пісьменнікаў. Рабочыя ад варштата, рабочыя-ўдарнікі ўключаюць свой жыццёвы, класавы вопыт, свой энтузіязм ударніка ў літаратурную справу. У сучасны момант беларуская совецкая літаратура ўжо налічвае рад імён учарайшых рабочых і батракоў—сёнешніх пачынаючых маладых пісьменнікаў, паэтаў, празаікаў, драматургаў, кіносцэнарыстаў. У тысячах совецкіх палітэхнічных школ, ФЗС, тэхнікумаў і вузаў вывучаюць творы дакастрычніцкай і совецкай беларускай мастацкай літаратуры. У глушы Палесся, дзе да Кастрычніцкай рэволюцыі не ведалі прымянення газы, не бачылі ў вочы ні ўрача, ні агранома, ні настаўніка, вы можаце сустрэць сялянскіх рабятак, на памяць дэкламуючых вершы сучасных беларускіх паэтаў. Успамінаеш даўнія строфы аднаго з многіх загінуўшых і нам невядомых беларускіх прыгонна-сялянскіх пісьменнікаў—П. Бахрыма:

«Зайграй, зайграй, хлопча малы,
І ў скрыпачку і ў цымбалы!
А я зайграю на дуду,
Бо ў Крошыне жыць не буду,

Бо ў Крошыне пан сярдзіты,
Бацька кіямі забіты.
Маці тужыць, сястра плача,
Дзе-ж пойдзеш, небарача»

Якая агромная гістарычная дыстанцыя паміж гэтым **паэтычным стонам** першага беларускага прыгонна-сялянскага пісьменніка і соцыялістычным рахункам на мастацкую літаратуру, прад'яўленым калгаснікамі беларускім совецкім пісьменнікам.

* * *

Гэтую гістарычную дыстанцыю беларускія працоўныя пакрылі за 15 год існавання БССР, 15 год беларускай совецкай літаратуры—гэта 15 год жорсткіх класавых баёў на літаратурным фронце з ворагамі пролетарскай літаратуры і соцыялістычнай культуры.

Апіраючыся на беларускае кулацтва і гарадскую буржуазію, у шчыльным саюзе з капіталістычнымі інтэрвентамі, то арыентуючыся на вільгельмаўскую Германію, то абарачаючыся ў бок панскай Польшчы, беларускія контррэволюцыйныя нацыянал-дэмакраты з першых-жа дзён Кастрычніка актыўна выступілі супроць пролетарскай дыктатуры, выкарыстоўваючы з гэтай мэтай і ўчастак нашага культурнага будаўніцтва. Тут найслабей былі ў першыя паслякастрычніцкія гады совецкія кадры. Тут з некаторым поспехам лягчэй ім удалося, пры адсутнасці большэвіцкай пільнасці раду нашых совецкіх арганізацый, тварыць пад фальшыва-нацыянальным сцягам беларускай «самабытнай» культуры сваю контррэволюцыйную справу.

Старыя патрапаныя ідэі беларускага нацыянал-дэмакратызма: ідэя бясклассавасці беларускай нацыі, ідэя «самабытнай» нацыянальнай абмежаванасці і «барацьбы двух культур» (беларускай і рускай), ідэя «культурнай», г. зн. кулацкай гаспадаркі, тэорыя арыентацыі на захад, г. зн. на капіталістычную інтэрвенцыю—усё гэта было пушчана ў ход пад выглядам будаўніцтва беларускай «нацыянальнай» культуры. Вялікую ўвагу пры гэтым беларускія буржуазныя нацыяналісты ўдзялялі мастацкай літаратуры, апіраючыся тут на згуртаваныя і даволі аўтарытэтныя кадры буржуазнай нацыяналістычнай інтэлігенцыі. На працягу значнага часу прабывалі ў гэтым буржуазна-нацыяналістычным, антысовецкім лагеры таксама і такія выдатныя беларускія пісьменнікі, як Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля і др.

Са сканчэннем грамадзянскай вайны і акупацыі па ўсёй БССР пракатваецца хваля выключнага пісьменніцкага ўздыму. Комуністы і комсамольцы ўзначальваюць яго пад ідэйным кіраўніцтвам комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі: паэмай «Босыя на вогнішчы» (1922 г.) комуніст-паэт Міхась Чарот адкрывае новую эру ў гісторыі беларускай мастацкай літаратуры—эру беларускай соцыялістычнай мастацкай літаратуры.

Не толькі кампазіцыйны, але і некаторы агульна-стылёвы ўплыў паэмы Блока «Двенадцать» на паэму Чарота «Босыя на вогнішчы» не вычэрпвае аднак ідэйнай сутнасці гэтай арыгінальнай і таленавітай паэмы. Асноўнае ў паэме, гэта—разрыў з нацыяналістычнай і кулацкай традыцыяй беларускай нацыянал-дэмакратычнай літаратуры, разрыў з яе саладжава-кулацкім стылізатарствам, разрыў з яе інтэрвенцыяністкай арыентацыяй на Захад. Стрыжнёвы вобраз беларускай нацыянал-стылізатарскай літаратуры—вобраз «добрага ста-

рога княскага часу»—з патэтычнаю сілай узрываецца чаротаўскім вобразам «Босыя». Дарэмна сусальны нацдэмаўскі «князь» чакае свайго «паслушнага» беларускага народу.

«А дзе паслушны мой народ,
Ён за мяне ў бойцы ляжа?
І чуе шум крывавых вод—
Цяпер ён сам сабою княжыць».

Беларускія працоўныя сталі гаспадарамі свайго жыцця.

Гэта свядомасць сваёй класавай сілы насычае чаротаўскую паэтычную строфу магутнай, хоць у значнай меры і наіўна-рытарычнаю сілай (тыпу касмістаў пролеткульта). Трэба аднак сказаць, што ў адзнаку ад рускіх пролеткультаўскіх пісьменнікаў таго часу, на Чарота у меншай меры ўплывае напышчаны схематычны індустрыялізм: вёска і вясковая бедната насычаюць яго строфу фольклорам і лірычнай непасрэднасцю. Паэма «Босыя на вогнішчы», якая безумоўна мае рысы своеасаблівай рамантыка-сімвалічнай паэзіі, аднак зусім чужда буржуазна-нацыяналістычнай сімвалістычнай фантастыкі і «патубаковага» рамантызма. Сімволіка-рамантычныя «відзенні» паэта ўвесь час чаргуюцца з рэалістычнымі жанрамі (бытавымі) малюнкамі, з памфлетна-рэалістычнай струёй. Рамантызм Чарота ў яго паэме «Босыя на вогнішчы» і ў іншых яго ранніх паэмах—гэта рэволюцыйная рамантыка, як своеасаблівы «псеўдонім рэволюцыйнага соцыялістычнага рэалізма», бо Чарот ў гэтых паэмах адлюстроўвае ў асноўным верна рад істотных бакоў рэволюцыйнай рэчаіснасці БССР перыяду грамадзянскай вайны.

Свядомая ўстаноўка паэта на празаіраванне ў вершах, на «гаварны верш», на дынамічны свабодны размер (вольны верш) таксама азначала фармальны разрыў з кананізаванаю рытмічнаю сеткай сімвалічнай і нацдэмакратычнай беларускай паэзіі.

Але поўанархічны (часткова «скіфскі») расплыўчата-схематычны вобраз-сімвал «Босых» быў толькі пачаткам, толькі намечаным контурам. Прадстаяла вылучыць на авансцэну беларускай мастацкай літаратуры вобраз пролетарыя, у яго канкрэтнасці. Прадстаяла барацьба за якасна новую літаратуру, за літаратуру совецкую, літаратуру свабодную ад нацыянальнай абмежаванасці, свабодную ад кулацкай стылізацыі, ад нацыянал-рамантызма. Гэта барацьба запаўняе сабою ўвесь перыяд беларускай мастацкай літаратуры.

Барацьба ідзе літаральна вакол кожнай культурнай пазіцыі і амаль вакол кожнага мастацкага твору. Класавыя баі па пытанню аб шляхах беларускай жывапісі, беларускага тэатра, беларускай музыкі дапаўняюць лютую класавую барацьбу ў галіне літаратуры. Класавыя ворагі—буржуазныя нацыяналісты, кулацкія ідэолагі, інтэрвенцыяніскія агенты чапляюцца за малейшыя магчымасці, каб захапіць у свае рукі ідэалагічныя пазіцыі побач з палітычнымі і эканамічнымі.

Кулацка-хутарской зямельнай палітыцы нацыянал-дэмакратаў адпавядае іх агульна-мастацкая палітыка, ідэалізацыя кулака ў мастацтве. Буржуазна-рэстаўратарскай і інтэрвенцыяніцкай палітыцы адрыву БССР ад СССР адпавядае нацыяналістычная літаратурная палітыка, процістаўленне беларускай культуры рускай совецкай культуры, арыентацыя на захад і ідэалізацыя нацыяналістычнай літаратурнай спадчыны.

Нацыянал-дэмакратычная эстэтыка кананізуе ўсё, што ёсць адсталага, мракабеснага ў беларускай мастацкай культуры. Кулацкія бела-

рускія паэты тыпу Дубоўкі, Пушчы і др. увасабляюць гэтыя ідэі ў вобразах.

Нацыянал-дэмакратычныя лінгвісты прапаведваюць, што вучыцца мове трэба ў старых бабулек, у найбольш глухіх і цёмных закутках Беларусі, яны арыентуюць беларускую мову на вясковы ідыятызм і паланізацыю па заданню інтэрвентаў. Нацыянал - дэмакратычныя пісьменнікі ваплашчаюць гэтыя лінгвіністычныя прынцыпы ў сваіх творах, засмечваючы беларускую мастацкую мову архаізмамі, кулацкімі царкоўнымі вобразамі і метафарамі, вузкімі правінцыялізмамі і ў першую чаргу паланізмамі. Нацыянал-дэмакратычныя работнікі сцэнічнага мастацтва навадняюць тэатр нацыяналістычнымі пасквілямі, накіраванымі супроць совецкай улады, і кулацка-нацыяналістычнай ідэалізацыяй «Маці Беларусі.»

Адначасова вялікадзяржаўны шавінізм, прадстаўляўшы на тым этапе галоўную небяспеку, арганізуе рад вылазак супроць ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Сабатуюцца і зрываюцца пастановы партыі і ўрада аб беларусізацыі. Распаўсюджваюцца антысовецкія памфлеты, у якіх вялікадзяржаўнікі здзекваюцца над «мужыцкай культурай», г. зн. над беларускай совецкай культурай. У радзе бібліятэк сістэматычна «вычышчаецца» беларуская мастацкая літаратура пад прадлогам барацьбы супроць нацдэмаў.

Рабочыя і сяляне БССР, лепшыя прадстаўнікі совецкай інтэлігенцыі і маладыя адданыя партыі пісьменніцкія кадры арганізуюць па закліку і пад кіраўніцтвам партыі і совецкай улады наступленне па ўсяму фронту совецкага мастацтва.

Разгар гэтага паходу супроць беларускага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмакратызма прыпадае на 1929-30 год—год вялікага пералому ў совецкай вёсцы. Соцыяльная апора беларускага нацыянал-дэмакратызма—беларускае кулацтва—сатрасаецца пад смертаноснымі ўдарамі магутнага калгаснага руху. Кулацтва ліквідуецца як клас у раёнах суцэльнай калектывізацыі і разам з тым наносіцца сакрушальны ўдар па беларускаму нацыянал-дэмакратызму. Органы совецкай улады ліквідуюць нелегальную антысовецкую інтэрвенцыяніцкую арганізацыю беларускіх нацыянал-дэмакратаў, члены якой сям-там пранікалі нават у кіруючы совецкі і партыйны апарат, а асабліва моцна заселі ў літаратуры.

Лепшыя прадстаўнікі совецкай беларускай літаратуры прыймаюць актыўны ўдзел у гэтай барацьбе. Рэволюцыйная паэма, лірычныя вершы, сатыра і памфлет, гістарычны раман і п'еса—усе гэтыя жанры мастацкай літаратуры становяцца зброяй у барацьбе супроць контррэволюцыйнага нацдэмакратызма. Такава рэволюцыйная паэма рана памёршага ў 1929 г. таленавітага паэта П. Труса—«Дзесяты падмурак», прысвечаная 10-годдзю існавання БССР. У гэтай паэме паэт, які некаторы час знаходзіўся пад уплывам нацдэмаўскіх ідэй, заяўляе:

«Край палёў,
О, край—
Калі-ж ты станеш
Краем фабрык дымных
І машын».

Гэтыя радкі гучаць як выклік кулацкаму нацыянал-стылізатарству і сусальнаму «ойканню» па адрасу «Маці Беларусі», якія ў значнай меры абцяжвалі самога аўтара «Дзесятага падмурка». Гэты пералом у творчасці вельмі таленавітага паэта асабліва характэрны, бо ён пака-

заў, што лепшыя маладыя паэтычныя кадры не паддаюцца нацыянал-дэмакратычнай прапагандзе.

Яшчэ больш ярка выступае гэта ў паэме аднаго з выдатных паэтаў БССР—А. Александровіча «Цені на сонцы»—адной з лепшых паэм беларускай совецкай паэзіі. А. Александровіч дае рад яркіх памфлетных вобразаў дзеячоў беларускага нацыянал-дэмакратызма. Гэты малады таленавіты паэт-комуніст, даўшы беларускай совецкай паэзіі рад выдатных лірычных вершаў, песень і паэм, спалучаючых народна-песенны лад, лірычную фальклорную прастату са значным аратарскім пафасам, сваёй памфлетнай паэмай «Цені на сонцы» адкрыў перад сабою і перад усёй беларускай совецкай паэзіяй новыя жанравыя магчымасці.

У барацьбе супроць нацыянал-дэмакратызма гэта памфлетная струя знайшла сваё выражэнне крыху пазней у рамане Бядулі «Язэп Крушынскі», дзе ўскрываецца ўся палітычная мізэрнасць нацыянал-дэмакратычнай спекуляцыі «Маці Беларуссю». Не малую ролю ў барацьбе супроць нацыянал-дэмакратызма адыгралі таксама вершаваныя фельетоны і сатырычныя фабулы Крапівы, п'еса Гурскага «Качагары», гістарычны раман Мурашкі «Сын» і інш. У сваім рамане «Сын» Мурашка ставіць сабе мэту ўскрыць дробна-буржуазныя нацыяналістычныя карэнні Беларускай социялістычнай грамады і яўрэйскага нацыянал-меншавіцкага Бунда перыяду 1905 г. Пастаноўка гэтых праблем вельмі актуальна ў нашых умовах, калі не мала яшчэ захавалася ідэалізатараў гэтых нацыяналістычных арганізацый.

Гэтыя творы сустрэлі шалёнае супраціўленне ў радах нацыяналістычнай і антысовецкай інтэлігенцыі. Але лёс контррэволюцыі вырашан беспаваротна. Пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б масы рабочых і сялян БССР бязлітасна разбіваюць вылазкі класавага ворага. У гэтай барацьбе загартоўваецца, насычаецца пафасам інтэрнацыяналізма і творчага ўздыму беларуская совецкая літаратура. Яе маладыя комуністычныя кадры становяцца на чале Беларускай асацыяцыі пролетарскіх пісьменнікаў (БелАПП), а потым—Саюза совецкіх пісьменнікаў—пісьменнікаў, якія падтрымліваюць платформу совецкай улады і хочуць актыўна працаваць у справе социялістычнага будаўніцтва.

На падставе ажыццяўлення прынцыпаў гістарычнай пастановы ЦК ВКП(б) аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый разбіваецца групаўшчына і вульгарызатарскае адміністраванне ў літаратуры.

Рапаўская каставая палітыка апошніх год, прывёўшая да адрыву пролетарскай літаратуры ад асноўных мас совецкіх пісьменнікаў і асуджаная ў радзе партыйных дакументаў, тармазіла рост пісьменніка, атручвала творчую атмасферу мікробамі зазнайства і беспрынцыпнасці. Гістарычная пастанова ЦК паклала канец гэтай палітыцы.

Аздараўляецца таксама творчая атмасфера беларускай совецкай літаратуры, не мала пацярпеўшай ад белапаўскіх адміністратараў і вульгарызатараў. Выкоўваецца новы тып літаратурнага работніка, унікаючага ў «тэхніку справы».

Выкоўваецца новы тып пісьменніка, пісьменніка-байца за социялізм. Гэты пісьменнік не толькі піша аб рэволюцыі, але і робіць яе штодзенна, у брыгадах ударнікаў, у агіткалоніях, у практычнай рабоце ў калгасах і на прадпрыемствах. Гэты пісьменнік лічыць для сябе найвялікшай чэсцю супрацоўнічаць непасрэдна ў большэвіцкім друку і пісаць па заказу пролетарыята.

Практыка гэтага новага тыпу пісьменнікаў разбіла на-галаву буржуазна-эстэцкую крылатую пагаворку: «Калі грыміць зброя,—маўчаць музы». Зброя грыміць ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы, а беларуская совецкая муза не маўчыць. Яна—пад вінтоўкай. Яна—ля варштата. Яна—на калгасных палях. Яна—на рыштаваннях новабудоўлі.

Комуністычныя кадры пісьменнкаў ідуць у авангардзе совецкай літаратуры на барацьбу супроць капітулянцкай «тэорыі дыстанцыі», за ўключэнне мастацкай літаратуры ў штодзенную практыку рабочага класа—у практыку соцыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя кадры сваёю практычнай творчай работай даказваюць, што мастацкая літаратура не асуджана на тое, каб «цягнуцца ў абозе гісторыі», не асуджана на вечнае адставанне. Можна прывесці рад яркіх прыкладаў падобнай аператыўнасці нашай літаратуры. Тую-ж памфлетную паэму «Цені на сонцы» паэт Александровіч напісаў **у самы разгар барацьбы супроць нацдэмакратызма,** зусім не клапоцячыся аб «дыстанцыі» і не адкладваючы «у доўгі яшчык». Барацьба за хлеб у 1932 г. таксама атрымала свой творчы водгук **тэрмінова** ў радзе паэм гэтага-ж паэта («Хлебная зіма» і інш). Таксама комуніст-празаік Платон Галавач даў свой раман «Спалох на загонах», ускрываючы класавую барацьбу вакол і ўнутры калгаса ў бурныя дні ліквідацыі кулацтва як класа, не чакаючы «астывання» тэмы. Энтузіязм, які ахапіў краіну ў сувязі з адкрыццём Беламорска-Балтыйскага канала, тэрмінова быў уключан у тэматычны план комуністычнага пісьменніцкага актыва. Апавяданне комуніста-празаіка М. Лынькова «Баян» дае яркі псіхалагічны малюнак перапробкі чалавечага матар'ялу (крымінальнікаў) у незабываемай абстаноўцы соцбудаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала.

Лепшая перадавая частка беспартыйных совецкіх пісьменнікаў следуе ў гэтым сэнсе прыкладу комуністаў-пісьменнікаў. Знікае былая пісьменніцкая баязнь злобадзеннасці, баязнь «блізкай дыстанцыі». Паэты Броўка, Глебка, Кляшторны, Дарожны і шмат іншых нярэдка друкуюць у нашым штодзенным друку свае вершы і нарысы. Паэт Броўка напісаў «па заказу» ленінскага комсамола БССР ка дню яго 15-годдзя кнігу аб падпольным комсамоле—«Так пачыналася маладасць». Малады таленавіты Аркадзі Куляшоў даў рад своеасаблівых эпічных паэм-нарысаў аб сваёй рабоце ў калгасе—«Медзі дождж». Лепшыя творы беларускай совецкай драматургіі апошніх год—«Бацькаўшчына» Кузьмы Чорнага і «Канец дружбы» Крапівы таксама цесна звязаны тэматычна з бліжэйшымі непасрэднымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва—крыніцаю натхнення не толькі для маладых беларускіх совецкіх пісьменнікаў, але і для старога дарэволюцыйнага пакалення беларускіх пісьменнікаў. Пісьменнікі гэтай групы—Янка Купала, Якуб Колас, З. Бядуля, і інш,—якія доўгі час і пасля Кастрычніцкай рэволюцыі знаходзіліся ў палоне антысовецкай нацыяналістычнай ідэалогіі, у ходзе соцыялістычнага будаўніцтва перабудаваліся і сталі на шлях стварэння мастацкіх твораў, патрэбных пролетарыяту і працоўнаму сялянству ў яго барацьбе за пабудову бясклясавага соцыялістычнага грамадства.

Лепшыя творы гэтых пісьменнікаў за паслякастрычніцкі перыяд, гэта імення тыя творы, якія намячаюць іх ідэйна-творчы паварот у бок совецкай улады і соцыялістычнага будаўніцтва. Гэты паварот суправаджаецца росквітам таленту амаль скрозь і ўсюды, калі, зразумела, гутарка ідзе аб сапраўднай арганічнай перабудове, а не аб спробах знешняй «прыстройкі». Поспехі творчай перабудовы

гэтых кадраў совецкіх пісьменнікаў абумоўлены ў першую чаргу выключна чулым, прынцыповым кіраўніцтвам партыі ў духу пастаноў ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый. Перабудова гэтых пісьменнікаў ідзе не знешне-адміністрацыйна, а арганічна выцякае з наяўнай творчай фізіяноміі таго ці іншага пісьменніка.

Паэма народнага паэта БССР Янкі Купала «Над ракой Арэсай» у лепшых сваіх частках прадаўжае, развівае і падымае на якасна новую вышыню лепшыя рэволюцыйна-дэмакратычныя элементы дарэволюцыйнай паэзіі Купалы—яго гераічны драматызаваны эпас, фальклорную прастату і народную, у лепшым, ненароднііцка-стылізаваным, сэнсе, лірычную песеннасць і баладнасць. Гэта паэма васпявае ў радзе месц выключна ярка (у плане амаль што быліннай героікі) героіку працы ў сельскагаспадарчай комуне на высушаных балотах Палесся. Старая нацыяналістычная стылізацыя глушы і адсталасці, якая стаяла ў цэнтры нацыянал-дэмакратычнай самабытнай культуры, уступае тут месца эпасу соцыялістычнага будаўніцтва і новым пейзажам, пейзажам нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Каштоўнасць гэтай паэмы не можа, зразумела, паслужыць перашкодай таму, каб бачыць у ёй даўгаватасці, схематычныя пераказы, а іншы раз і павярхоўную трактоўку вобразаў. Баладная песеннасць і былінны сказ нярэдка пагражаюць Купале некаторай фальклорнай схемай там, дзе неабходна паказаць новых людзей, з новымі лексічнымі данымі, у абстаноўцы новых вобразаў, метафар і эпітэтаў. Што Янка Купала не асуджан на вечнае падначаленне гэтаму канону, сведчыць тая яркая, арыгінальная не фальклорна-інтымная, палка-экспрэсіўная вобразнасць і кандэнсаваная выразнасць такога яго вершу, як «А ў Вісле плавае тапелец».

Гэта-ж самае адосіцца і да твораў народнага паэта Якуба Коласа. Яго апошнія творы «Адшчапенец» і «Дрыгва» сведчаць аб пладатворных поспехах пісьменніка ў галіне новай соцыялістычнай тэматыкі. Прастата выкладання, гумарыстычная фальклорная насычанасць, нескладаная, але цікавая дынамічная фабула, пры ўсёй сантыментальна-прымітыўнай, часам народніцкай трактоўцы вобразаў і ідэй, надаюць гэтым творам абаянне совецкага сялянскага лубка. Прыкладам адыходу ад старых нацыяналістычных пазіцый з'яўляецца раман Бядулі «Язэп Крушынскі»—яго другая кніга. У гэтым рамане Бядуля паказвае вобраз хітрага, цэпкага кулака (тыпу Сваакера з апавядання Федзіна «Трансвааль»), які прабуе стварыць сваю мясцовую кулацкую рэспубліку пад крылцам кулацка-хутарской палітыкі нацдэмаў. Аўтар у радзе месц таленавіта паказвае тыя палітычныя ніці, якія цягнуцца ад гэтай кулацкай экспансіі да ідэолагаў інтэрвенцыі—беларускай нацыянал-дэмакратычнай контррэволюцыйнай інтэлігенцыі. Вострым памфлетным паказам інтэрвенцыяніцкай беларускай нацдэмаўскай інтэлігенцыі, парадыраваннем раду элементаў нацыянал-дэмакратычнага літаратурнага стыля, агаленнем драпежніцкага антысовецкага зместу так званай культурнай сельскай гаспадаркі (замаскаваныя кулацкія гаспадаркі) Бядуля не толькі публіцыстычна, але творча падвяргае самакрытыцы свой уласны мінулы ідэйна-творчы шлях.

Гэты шлях творчай самакрытыкі характарызуе лепшыя кадры пісьменнікаў. Прывяду некалькі прыкладаў. Празаік Зарэцкі, у мінулым абцяжараны значным грузам нацыянал-дэмакратызма, памножанага на мяшчанскае ўпадніцтва (эротыка, буржуазнае псіхакапанне, дэкадэнцкі рамантызм) напісаў раман «Вязьмо», у якім робіць рад удалых спроб

развянчаць свайго былога героя нацыянал-рамантычнага «шукальніка характва». Зарэцкі дае ў гэтым сваім рамане контуры цікавых вобразаў, комсамольца-арганізатара калгаса, левака комуніста, які «крычыць гучней усіх», каб утоіць свае права-апартуністычныя справы, рад жаночых рамантычных вобразаў і інш. Замест нацыянал-рамантычнага характва «голага звера», закаханай настаўніцы і дэкадэнцкіх паненак з правінцыі, Зарэцкі высоўвае ў рамане «Вязьмо» новае характво—характво барацьбы за соцыялістычную перабудову вёскі. Гэты пералом суправаджаецца ў Зарэцкага **радам нацыянал-рамантычных рэцыдываў** буржуазнага псіхалатізма і эротыкі, аднак асноўная лінія гэтага рамана—гэта адыход ад былога нацыянал-дэмакратычнага творчага метада. Яшчэ больш ярка выяўляецца творчая самакрытыка Кузьмы Чорнага ў яго рамане «Бацькаўшчына». У мінулым творчасць Кузьмы Чорнага ў значнай меры ішла пад знакам народніцкай «улады зямлі» (раман «Зямля»). Кузьма Чорны, як і многія беларускія пісьменнікі, тапіў у мінулым свой сюжэт у бясконцай колькасці імпрэсіяніцкіх дэталей, стылізаваных пейзажаў, расплыўчатага вясковага дыялага і т. д. Раманам «Бацькаўшчына» Кузьма Чорны ўступае ў творчую палеміку супроць кулацка-народніцкага прынцыпу «улады зямлі», высоўваючы замест яго ідэю гістарычнай і класавай сутнасці панящцяў «зямля», «бацькаўшчына». Замест народніцка-кулацкага стылізатарства ў рамане «Бацькаўшчына» абнажаюцца класавыя пружыны «цягі к зямлі». У гэтай кнізе Кузьма Чорны свядома рве са сваім стылёвым мінулым, дынамуючы свой радок, нагружаючы яго цікавымі фабульнымі канфліктамі, пазбаўляючы яго ад лішнята арнаменталізма, ад лішняй колькасці статычных пейзажаў, шматслоўя і дэтальна абрысаваных бытавых сцэн у стылі народніцкага бытапісання. Яшчэ больш ярка гэты творчы паварот намячаецца ў апошняй кнізе Чорнага «30 год» (яшчэ не надрукавана). У гэтай кнізе аўтар абнажае карэнні буйнага драпежніцкага кулацкага капітала ў перыяд імперыялістычнай і грамадзянскай вайны. Тут Чорны яшчэ ў большай меры парывае з імпрэсіянізмам, арнаментальнаю прозай і з бытапісаннем. Сурова, скупа, стройна-цэнтралізавана і дзейсна разгортвае аўтар галерэю вобразаў кулакоў, фабрыкантаў, рабочых, сялян, інтэлігенцыі. Аўтар менш звяртае ўвагу на арнаментальную аддзелку радка, кандэнсуючы яго, вызваляючы ад лішніх прыкрас, больш увагі ўдзяляючы соцыяльна-псіхалагічнаму паказу сваіх персанажаў і іх канфліктаў.

* * *

Як рэзка перасунуўся вобразны і тэматычны стрыжань беларускай літаратуры?

Стылізацыя і ідэалізацыя абмежаванага вясковага жыцця пачынае адыходзіць на задні план. Знікаюць і трансфармуюцца ўлюбёныя нацдэмакратамі і «у доску» заштампаваныя нацыянальныя вобразы «Маці-Беларусі», «сасонкі», «гусляра на кургане» і рамантычнага паляшука. Верш Александровіча «Сасна» дае яркі ўзор своеасаблівай трансфармацыі вобраза «Сасонка» у плане барацьбы стыляў. Здавалася-б, што в першых радкоў—перад намі тая-ж традыцыйная сантыментальна-напеўная народніцкая рытміка, тая-ж заштампаваная народніцкім сюсюканнем «Сасонка». Але не! Тут справа ідзе аб «днях суровых», тут пафас соцыялістычнага будаўніцтва! «Нацыянальная» сасонка апынулася на совецкім фабрычным двары! Фальклорна-напеўнае абрамленне «сасонніцы» у даным выпадку—не заклік у будучае, а ўспаміны аб мінулым.

Арыгінальную спробу трансфармацыі і парадыравання традыцыйнага нацыянал-дэмакратычнага вобраза «маці» зрабіў Гурскі ў сваёй п'есе «Маці». Памфлетны паказ палітычнага і ідэйнага ўбоства нацыянал-дэмакратычнага «сына», не гледзячы на недастаткова акрэслены паказ сапраўднага твару «Маці», усё гэта нават у контуры прадстаўляе значны інтарэс і сведчыць аб дружным наступленні беларускіх совецкіх пісьменнікаў, без рознасці жанра, на нацдэмаўскую галерэю вобразаў.

У гэтым сэнсе характэрна таксама трансфармацыя нацдэмаўскага вобраза «глушы Палесся» у паэме Я. Купалы «Над ракой Арэсай».

І тут, так сама як і ў вершы Александровіча «Сасна»,—у наяўнасці своеасаблівы «хітры» манеўр аўтара, які запаўняе традыцыйны рамантычны пейзаж, старую, сялянска-фальклорную вобразную сетку «зачараванага» Палесся новым зместам—пафасам соцыялістычнага будаўніцтва ў Палессі.

Сімптаматычны лёс вобраза інтэлігенцыі ў беларускай совецкай літаратуры. Дарэволюцыйная беларуская нацыянал-дэмакратычная літаратура, як вядома, не мала смакавала, у духу тыповага ліберальнага народніцтва і нацыянал-дэмакратызма вобраз інтэлігентнай «крытычнамыслячай асобы»—«солі нацыі». Нацыяналістычная і вясковая абмежаванасць успрыймання рэчаіснасці асуджала нацыянал-дэмакратычнага пісьменніка на безупыннае «аднаўленне мошчаў» славутай сельскай настаўніцы, якая, як вядома, няўдала любіць і яшчэ менш удала «сее разумнае, добрае, вечнае».

Гэта народніцка-дабрачынная настаўніца да апошніх год гуляла па старонках твораў раду беларускіх совецкіх празаікаў (Мурашка—«Сын», Зарэцкі—«Вязьмо» і інш.).

Аднак ужо намячаюцца контуры новых вобразаў інтэлігенцыі і новай трактоўкі іх.

Малады беларускі празаік Б. Мікуліч у радзе кніг («Наша сонца», «Ускраіна», Дужасць») пераважна заняты паказам тых шляхоў, якія вядуць ад совецкай інтэлігенцыі да рабочага класа. Пры тэтым аўтар абнажае карэнні беларускай нацыянал-дэмакратычнай інтэлігенцыі (вобраз нацыянал-этнографа Шэстакова ў яго кнізе «Наша сонца»).

Тую-ж задачу—паказаць перабудову інтэлігенцыі (інжынера-пуцейца)— вырашае малады беларускі празаік Шынклер у сваёй кнізе «Сонца пад шпалы» і драматург Шашалевіч у сваёй п'есе «Сімфонія гневу».

Многія яркія памфлетныя старонкі накіраваны супроць беларускай нацыянал-дэмакратычнай інтэлігенцыі ў рамане Бядулі «Язэп Крушынскі». Бядуля ўскрывае ў гэтым рамане ўсю беспрынцыпнасць і кулацкую контррэволюцыйнасць, якая характарызуе беларускую нацдэмаўскую інтэлігенцыю, як «хаджэнне ў народ» і пракланенне перад «самабытна-беларускай» кулацкай стыхіяй.

У памфлетным вобразе нацдэмаўскага паэта Цярэшкі Бядуля прыгвазджае да ганебнага слупа беларускую нацыянал-дэмакратычную пісьменніцкую інтэлігенцыю, для якой кулацкі хутар Курганішча з'яўляецца «добрым Парнасам», а знойдзеная пры раскопках на Немізе [1]) «спронжка з пажарніцкага пояса»—рэліквіяй «самабытнай» беларускай культуры.

Адначасова беларуская совецкая літаратура ідзе пад знакам **рашучага тэматычнага пералому**—пералому буйнага гістарычнага маштаба.

[1]) Квартал у Менску.

У чым гістарычнае значэнне гэтага пераломy?

Смакуючы і стылізуючы «ідыятызм вясковага жыцця», нацыянал-дэмакраты, як вядома, на працягу многіх гадоў прыкоўвалі беларускую мастацкую літаратуру да тачкі «сялянскай тэматыкі». Сантыментальна-нацыяналістычнае «ойканне», танная народніцкая стылізацыя сытага (кулацкага) жыцця, кулацка-пастаральная «лірыка», памножаная на эмпірычна-сантыментальны бытавізм—вось што ў стылёвым плане адпавядала нацыянал-дэмакратычнай трактоўцы «вясковай тэматыкі»

Курс на «вясковую тэматыку» спалучаўся ў беларускіх нацыянал-дэмакратаў з шалёным наступленнем супроць рабочай тэматыкі, супроць паказаў соцыялістычнага горада ў мастацкай літаратуры. Соцыялістычны горад ператвараўся пад пяром нацдэмаўскага пісьменніка ў ісчаддзе бальшэвіцкага ада, у гняздо мяшчан і гультаёў.

У такіх умовах належала ўладаць значнай творчай адвагай, каб, падобна паэту Александровічу, празаіку Лынькову, драматургам Гурскаму, Кобецу і іншым, падняць ў беларускай літаратуры сцяг гарадской тэматыкі, тэматыкі соцыялістычнага будаўніцтва, рабочую тэматыку.

**Гарадскія** пейзажы і **рабочая** лірыка ранняга Александровіча—азначалі сапраўды пераломны этап для маладой беларускай совецкай паэзіі.

Не трацячы пераемнай сувязі з панаваўшай доўгі час у беларускай паэзіі купалаўскай паэтычнай традыцыяй (вясковая фальклорнасць. лірычная песеннасць), А. Александровіч аднак у значнай меры чэрпае свае матывы з фабрычнай лірыкі, напамінаючы гэтым ранняга Казіна, Жарава і Безыменскага. Адсюль і значнае агульнае стылёвае падабенства з вышэйназванымі паэтамі.

Навелы і апавяданні празаіка М. Лынькова, у значнай сваёй частцы прысвечаныя рабочай тэматыцы («Андрэй лятун», «Апошні зверыядавец» і інш.), рад твораў маладых празаікаў Мікуліча, Шынклера і др. адыгралі немалаважную ролю ў тэматычным пераломе беларускай совецкай прозы, а з'яўленне на сцэне беларускага тэатра п'ес з рабочай тэматыкай («Гута» Кобеца і «Качагары» Гурскага) літаральна суправаджалася бойкамі.

Гэтыя бойкі яшчэ не завершаны. Беларускай совецкай літаратуры прадстаіць яшчэ агромная работа па асваенню рабочай тэматыкі—тэматыкі соцыялістычнага будаўніцтва.

Буйнейшыя творы беларускай совецкай літаратуры апошніх год («Язэп Крушынскі» Бядулі, «Спалох на загонах» Галавача, «Вязьмо» Зарэцкага, «Мядзведзічы» Крапівы, «Адшчапенец» Коласа, «На чырвоных лядах» Лынькова, «Бацькаўшчына» Чорнага і інш.) усё яшчэ пабудаваны на сялянскай тэматыцы. Няма патрэбы гаварыць, што ў гэтай сялянскай тэматыцы або зусім няма, або вельмі мала ад нацдэмаўскай «сялянскай» тэматыкі. Нават у такіх творах, як «Вязьмо» Зарэцкага, у якім не зжыты цалкам рэшткі нацыянал-рамантызма і буржуазнага псіхалагізма, або ў такім творы, як «Адшчапенец», у якім не мала ад наіўна-сялянскага лубка, сялянская тэматыка трактуецца з **прынцыпова новых пазіцый.** Абнажэнне класавых карэнняў кулацтва, паказ совецкай вёскі, паказ калгасніка, партыйца і комсамольца, паказ змычкі горада з вёскай у форме пролетарскай дыктатуры—вось што характарызуе вядучы прынцып сялянскай тэматыкі гэтых твораў.

Аднак, паграджаючы прабел у галіне рабочай тэматыкі ўласна патрабуе ад беларускай совецкай літаратуры тэматычнай перасоўкі.

Гаворачы аб тэматычнай перасоўцы, мы маем на ўвазе таксама ўзмацненне абароннай тэматыкі ў беларускай літаратуры. Становішча БССР, як фарпоста СССР, абавязвае беларускую совецкую літаратуру да сугубага ўзмацнення гэтага тэматычнага адрэзка. Не гледзячы на тое, што совецкая беларуская літаратура свае першыя крокі зрабіла пад адзнакай героікі грамадзянскай вайны (першыя крокі Чарота, рад вершаў Александровіча, рад твораў празаікаў Лынькова, Коласа, Самуйленка, Віцьбіча і т. д.), аднак на гэтым участку многа яшчэ недаробленага.

* * *

Праблема творчай самакрытыкі, праблема трансфармацыі вобразаў, праблема тэматыкі—усё гэта па сутнасці розныя формы праяўлення стрыжнёвай праблемы—праблемы стыля беларускай совецкай літаратуры.

Барацьба за стыль вялікай соцыялістычнай літаратуры Краіны Советаў стаіць у цэнтры ўвагі беларускай совецкай літаратуры.

Творчыя шуканні, літаратурныя дыспуты па пытаннях стыля і жанра працякаюць увесь час у атмасферы абвостраных класавых боек. Бо справа ідзе аб праадаленні класава-варожых стылёвых наслаенняў, якія, па сваёй спецыфічнай прыродзе, належаць да тыпу «паўзучых ухілаў», цяжка перамагаемых; бо гутарка ідзе аб свядомым умяшанні ў тыя стылёвыя працэсы, якія характарызуюць магутны рост маладой беларускай мастацкай літаратуры; бо гутарка ідзе аб свядомым рэгуляванні гэтых працэсаў і накіраванні іх па русле соцыялістычнай літаратуры, даступнай мільёнам. Барацьба супроць буржуазнага эстэтызма і фармалізма, хаваючага свой варожы пролетарыяту класавы твар пад маскай тэорыі «мастацтва для мастацтва», займала за 15 год існавання беларускай совецкай літаратуры вялікае месца ў жыцці беларускай літаратурнай грамадскасці. На працягу раду год буржуазны фармалізм і трацкісцкая варожшчына, густа афарбаваныя ў нацыяналістычныя фарбы, мелі значны ўплыў у беларускай літаратуры (эстэтычная платформа літгрупы «Узвышша»). Праблему нацыянальнай формы беларускія нацыянал-дэмакраты трактавалі ў духу нацыяналістычнай стылізацыі аджыўшых кулацкіх і царкоўных мастацкіх канонаў.

Перамога беларускай літаратуры над контррэволюцыйным нацыянал-дэмакратызмам азначала адначасова паражэнне нацыянал-фармалізма і нацыянал-эстэтызма.

Вучэнне т. Сталіна аб нацыянальнай культуры, соцыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме, як паслядоўнае прадаўжэнне вучэння Леніна аб літаратуры, «адкрыта звязанай з пролетарыятам», пакладзена ў аснову стылёвых шуканняў беларускай совецкай літаратуры. Тут не можа быць адміністратарства, тут няма і не можа быць дэкрэтавання ў дэталях, аднак для асноўных кадраў беларускай совецкай літаратуры ў апошнія гады пытанне аб асноўным шляху пісьменніка ясна. Лозунг соцыялістычнага рэалізма стаў баявым лозунгам совецкай літаратуры БССР. Сутнасць гэтага лозунга, дадзенага мастацкай літаратуры партыяй, заключаецца ў тым, што пісьменнік павінен расказаць праўду аб жыцці. Совецкаму пісьменніку—пісьменніку соцыялістычнай краіны—не пастаўлены ніякія класавыя перашкоды ў пазнанні праўды жыцця. Пераможны клас, чыім голасам совецкі пісьменнік гаворыць, не зацікаўлен у тым, каб у якіх-небудзь класавых інтарэсах скажаць гэту праўду, бо

праўда жыцця, аб'ектыўная рэчаіснасць—на баку рэволюцыйнага пролетарыята.

У беларускай совецкай літаратуры барацьба за соцыялістычны рэалізм патрабуе сугубага напружання. У дарэволюцыйнай беларускай літаратуры буржуазна-рэакцыйны ці дробна-буржуазны рамантызм іграў выдатную ролю. Ён наступаў на тыя элементы рэалізма, якія то тут то там прарываліся ў беларускай літаратуры.У эстэтыцы нацыянал-дэмакратызма рамантычная нацыяналістычная стылізацыя займала агромнае месца. Гэты дух рамантычнай стылізацыі акупаваў у свой час амаль усе галіны беларускага совецкага мастацтва. Жадаючы матываваць неабходнасць падобнага рамантызма, кіраўнік беларускага дзяржаўнага тэатра—нацдэм Красінскі—гаварыў: «Беларускі дзяржаўны тэатр паставіў сабе мэтай адлюстраваць у сваёй рабоце вельмі характэрны для прыроды беларуса—рамантызм». Пад адзнакай «першабытнага» нацыянал-рамантызма контррэволюцыйныя нацдэмы насычалі свае творы рамантычнай ідэалізацыяй нацыяналістычнага і буржуазна-кулацкага мінулага.

Слязлівы рамантызм сантыментальна-народніцкага тыпу спалучаўся з наспех усвоеным, у правінцыяльным талкаванні, буржуазным мадэрніцкім рамантызмам, з кулацкай рамантыкай «сытага» самабытнага жыцця на «новай зямлі» (г. зн. на хутарах) і з есенінскай элегічнай рамантыкай «краіны бярозавага сітцу».

Найбольш яркая буржуазная фігура гэтага рамантычнага крыла беларускай літаратуры на пэўным этапе—М. Зарэцкі. На працягу соцень старонак у кнігах «Сцежкі-дарожкі», «Голы звер», «У віры жыцця» і т. д. Зарэцкі «сумуе па хараству».

«Хіба мала хараства ў гэтым адцвітанні душы!» вось сутнасць рамантычнага «суму па хараству» у творах Зарэцкага.

Гэта хараство ўвядання, запазычанае з буржуазна-дэкадэнцкіх крыніц, Зарэцкі спалучае з хараством «голага звера», які хоча, моў, «голы хадзіць» (папярэдне, разумеецца, «скінуўшы культуру») па ўсіх законах андрэеўскага дэманізма.

У перакладзе на мову нацдэмаўскай баявой палітыкі—гэта азначала: даць волю кулацкай хутарской стыхіі, што і зусім адкрыта і поўпубліцыстычна падаецца ў нарысе Зарэцкага «Падарожжа на новую зямлю».

Нават у апошняй сваёй кнізе «Вязьмо», якая з'яўляецца пераломным пунктам ў яго творчасці, Зарэцкі яшчэ не вызваліўся у значнай меры ад сваёй галерэі «рамантычных фігур», ад рамантыка-любоўных стандартаў і ад курсу на «таямнічыя шляхі» чалавечай душы.

Даўленне гэтых і сваяцкіх ім рэакцыйна-рамантычных стандартаў агромна.

Вазьміце к прыкладу раман комуніста-празаіка Мурашкі—«Сын». Гэты раман сваім палітычным астрыём накірован супроць нацыянал-дэмакратычнага скажэння гісторыі рэволюцыйнага руху ў БССР. У гэтым сэнсе аўтару ўдалася зрабіць не мала. Аднак, націск на яго сантыментальна-рамантычных канонаў да таго вялік, што замест кнігі аб рэволюцыі 1905 г. у Беларусі, мы ў радзе месц атрымліваем славуты сантыментальна-абывацельскі раман з «жудасна-стойкімі рэволюцыянерамі», «бунтарскі-прыгожымі» гімназісткамі і з бясконцымі народніцка-сантыментальнымі павучэннямі.

Вось канцоўка гэтага рамана (у баі з жандарамі загінулі рэволюцыянер-дружыннік Ігнат і яго любімая «бунтарскі-прыгожая» гімназістка, дачка памешчыка—Ларыса):

«Пахіснуўся, упаў каля Ларысы. Адна рука як-бы знарок лягла побач з яе рукою. Спляліся. Жыццё разлучала, а смерць злучыла. У смерці больш літасці, чым у жыцця».

Пад значным націскам сантыментальнага рамантызма доўгі час знаходзіўся празаік Лынькоў. Ён уступіў ў літаратуру з радам лірыка-рамантычных імпрэсій і сантыментальна-бытавых зарысовак.

«А ў сэрцы музыка. Граюць цудоўныя струны аб непазнаным, таямнічым, і гукі дзіўнай музыкі то запальваюць кроў агнямі, то астужваюць яе крыштальнымі ільдзінкамі.

Гэта характэрны лірыка-рамантычны лейт-матыў **ранняга** навеліста Лынькова.

Большасць гэтых імпрэсій ідзе пад аптымістычнай адзнакай: «уперадзе аганькі» («Цыгуначныя песні»). Аднак, рамантыка-імпрэсіяністкая мяккацеласць большасці гэтых навел паставіла пад пагрозу аўтара, пад пагрозу таго-ж сантыменталізма, аб якім мы гаварылі вышэй.

Празаік Платон Галавач таксама аддае ў сваіх ранніх творах («Вінаваты») даніну сантыменталізму і гуманізму, а сімволіка-імпрэсіяністкі пралог да яго апошняга рэалістычнага рамана «Спалох на загонах» сведчыць аб залежнасці нават сяго-таго з нашых рэалістаў ад старых нацыянал-рамантычных традыцый.

Пры гэтым перад намі ў наяўнасці тое дзіўоснае спалучэнне «высокага штыля» сімволіка-імпрэсіяністкага пралога з натуралістычным бытавізмам у рамане, аб чым я гаварыў вышэй: адразу пасля сімволіка-імпрэсіяністкага пралога, прысвечанага «Чалавеку» з вялікай літары) наступае натуралістычна-дэтальнае апісанне «фурманкі», якая падымаецца на гару.

У творчасці другога, віднага беларускага празаіка К. Чорнага гэты лірыка-рамантычны імпрэсіянізм адыграў яшчэ больш значную ролю. Гуманістычны псіхалагізм спалучаецца ў ранніх творах К. Чорнага з своеасаблівым лірыка-рамантычным пантэізмам. «Добра пахне зямля»—вось асноўны лейт-матыў яго рамана «Зямля». Гэты «пах зямлі» пануе над людзьмі, над іх канфліктамі і ўзаемаадносінамі. Між іншым, гэтых канфліктаў па сутнасці няма. Пастаральнасць і наіўна-патрыярхальная «мудрасць жыцця» Тамаша («сядзеў ён, як моцна ўрослы ў зямлю і траву»—піша аб Тамашы аўтар)—усё гэта рокавым чынам цягнула К. Чорнага да народніцкай ідэалізацыі патрыярхальшчыны, закаранеласці, да «ідыятызма вясковага жыцця», да талстоўскага пасівізма. «Тры аршыны пяску ўпарта чакалі. І нічога не трэба было больш чалавеку»—так аўтар расказвае аб тым, як «зямля прыняла ў сябе Тамаша».

Гэтым-жа народніцкім лірыка-рамантычным «пахам зямлі» і пасівізмам прасякнута проза раду больш маладых празаікаў тыпу В. Каваля. У сваіх лірычных, часта сантыментальных імпрэсіях, у радзе «вершаў у прозе» гэты малады празаік прадстаў перад намі ў значнай меры абцяжараны фальклорнай стылізацыяй і імпрэсіяністкай рамантызацыяй «праўды зямлі».

Лірыка-імпрэсіяністкая і рамантычная стыхія характарызуе рад твораў другога маладога беларускага празаіка—Б. Мікуліча. Першыя кнігі Б. Мікуліча — «Наша сонца», «Ускраіна» і рад навел — ідуць цалкам пад знакам лірычных імпрэсій і стыхійна-«мяцельнай» (у блокаўска-пільнякоўскім сэнсе) рамантызацыі рэволюцыі.

У іх значна менш нацыянал-рамантычных і народніцкіх традыцый, чым, скажам, у яго літаратурнага равесніка—у Каваля, але не выпадкова Мікуліч у адным са сваіх шматлікіх лірычных адступленняў у кнізе «Наша сонца», цытуе з любоўю нацыянал-рамантычную імпрэсію Каваля аб «маці». Нават у маладога Мікуліча, які рве шляхі традыцыйнай беларускай ліберальна-народніцкай прозы, вы знойдзеце падобную нацыянал-рамантычную імпрэсію аб славутай «сасонцы».

> «Удоўж мяжы разбегліся сасонкі, шумяць яны гамоняць з ветрам. Услухайся, паэта, у шэпты-гамонкі іхныя, вухам прыпадзі да ствалоў пахкіх».

Гэтыя лірыка-імпрэсіяністкія, народніцка-рамантычныя і сантыментальныя «шэпты-гамонкі» тармозяць літаратурны рост значнай колькасці не толькі старых, але і маладых беларускіх празаікаў.

Здавалася-б, што маладыя і пачынаючыя пісьменнікі павінны былі быць менш абцяжараны гэтымі нацыянал-рамантычнымі і сантыментальна-імпрэсіяністкімі канонамі мінулага. Аднак, на жаль, гэтае меркаванне не апраўдваецца.

У рамане дэбютуючага маладога беларускага празаіка Шынклера «Сонца пад шпалы», трактуючым праблему індустрыялізацыі, побач з гіпертрафаваным **тэхніцызмам** ёсць наступнае лірычна-сантыментальнае адступленне па адрасу чыгуначнага будаўніцтва:

> «А сонца пячэ праз край меры. Нібы хоча жарам пякельным прымусіць пакінуць працу, кінуць здзек над зямлёю... Бач, зранілі, збэрсавалі, пахрумсталі як цела зямлі! Колькі жудасных рваных ран нарабілі!.. Задыхаецца ад болю, ад пакутаў зямля».

Так аўтар аплаквае «пакуты зямлі», над якой здзекваюцца, моў, людзі з лапатамі. Зусім у духу талстоўска-народніцкага ўступу да «Воскресения»:

> «Як ні стараліся людзі, сабраўшыся ў адно невялікае месца некалькі соцень тысяч, зуродаваць тую зямлю, на якой яны цясніліся, як ні забівалі каменнем зямлю» і т. д.

У таго-ж аўтара ў той-жа кнізе вы знойдзеце расчульную сцэну «пагібелі» сасонкі, якая «пахіснулася і, ціха ківаючы кронаю, апусцілася ў бок страшыдла машыны» (гутарка ідзе аб рабоце экскаватара). А другі малады празаік—Зарэчны—аплаквае ў навеле «Сосны» лёс вясковага хлапца, які трапіў у горад і «паразвеяў па чужых дамах шум сасновага бору. Сын забыўся на слёзы маці». Заўсёды ў той ці іншай меры гэты рамантычны імпрэсіянізм азначае расшчапленне адзінага цэльнага аб'екта на комплекс пачуццяў, імпрэсій. Замест сацыяльна-псіхалагічнага паказу вобраза, перад намі імпрэсіяністкая стыхія рэфлексаў. Пісьменнік губляе здольнасць пабудаваць сюжэт, замяняючы сюжэтнае адзінства рыхлай комплекснасцю разрозненых «планаў».

Гэта сюжэтная рыхласць пагражае раду нашых пісьменнікаў. Раман М. Лынькова «На чырвоных лядах», раман К. Крапівы «Мядзведзічы»—творы двух відных нашых празаікаў—падкрэсліваюць пагрозу сюжэтнай беднасці ў нашай прозе. Як М. Лынькоў, так і Крапіва напісалі па сутнасці не раман, а калекцыю бытавых навел, вельмі слаба ўвязаных паміж сабою. Паказаць «сувязі, супярэчнасці, сімпатыі, антыпатыі і наогул узаемаадносіны людзей, гісторыю росту і арганізацыі таго ці іншага характару тыпа» (Горкі)—тое, што з'яўляецца сюжэтам твору, складае слабы бок нашай прозы.

Сюжэтнасць літаратуры не трэба трактаваць фармалістычна, як уменне па-жанглёрску глытаць шпагі ўсялякіх замыславатых завязак і развязак, хітравумных экспазіцый, «нечаканых канцоў» і т. д.

Калі мы гаворым аб сюжэтнай беднасці раду нашых твораў, мы маем на ўвазе тых пісьменнікаў, якія не ў стане асмысліць свае вобразы, не бачаць сувязей, апасрэдстваванняў і канфліктаў, рухаючых апавяданне, не ведаюць, адкуль яны прышлі і куды яны ідуць, адным словам «не маюць улады над сваім творам»—як гаворыць Энгельс у лісце Міне Каўцкай.

Сюжэтна ўбогі той пісьменнік, які стаіць з двума-трыма дзесяткамі персанажаў, але не ведае, як яны рухаюцца, як сутыкаюцца паміж сабою і як сутыканне іх сімпатый і антыпатый стварае плоць ідэі твору. Значыць сюжэтная слабасць твору, паміма ўзроўню таленту мастака, тлумачыцца і слабай ідэйнай узброенасцю пісьменніка, яго няведаннем усяго багацця, зместу жыцця, жывых людзей і навакольнай рэчаіснасці соцыялістычнага будаўніцтва.

Там, дзе гэтых сімпатый і антыпатый няма, або яны мізерны, анекдатычны, там, дзе вобраз жыве ўбогім духоўным, псіхічным жыццём, дзе вобраз не «адзяржым» нейкай палкасцю, пазбаўлен «пушырышка», як гаворыць Леонаў (але, зразумела, не ў яго містыка-псіхалагічным плане «патайных» карэнняў чалавека»), там няма «самаруху» вобраза. Гэтай палкасці, гэтага «пупырышка» не хапае беларускім празаікам. Вазьміце к прыкладу раман Крапівы «Мядзведзічы» або раман Лынькова «На чырвоных лядах»—там вялікая колькасць персанажаў (асабліва ў Лынькова), не пакідаючых амаль ніякага сляда ў сюжэце рамана. Шэрыя людзі, маленькія палкасці. Таму так часта абрываецца сюжэтная ніць. Раман Крапівы «Мядзведзічы» сваёю першай главой напамінае экспазіцыю рамана Шолахава «Узнятая цаліна». Былы белы афіцэр Уладзік, маючы паводле ўсіх даных заданні інтэрвенцыяніскага штаба, уначы прабіраецца ў вёску. Але гэта не шолахаўскі Полаўцаў з «магутным ўглаватым чэрапам». Уладзік—дан у плане бытавога **канакрада,** сплаўляючага пакрадзеных коней за кардон. Тым часам як таемнае з'яўленне Полаўцава паралельна са з'яўленнем дваццаціпяцітысячніка Давідава, **заражае сюжэт,** дае яму ход,—таемнае з'яўленне Ўладзіка ў далейшым мае ў большай меры нязначныя бытавыя вынікі (гутаркі аб пакрадзеных конях, суд і ілжэсвядоцтва, сарваны вясковы спектакль і т. д.).

Славутая «свякроў» і «салдатка», спрэчка двух сялян з-за свінні, няўдалы аборт, расстроенае вяселле і інш. і інш.—вось тыя палкасці і «канфлікты», якія займаюць не мала месца ў гэтым рамане, прысвечаным пытанням хутарызацыі ў аднаўленчы перыяд.

Па раду глаў у гэтым рамане, можна пераканацца, што Крапіва неаднокраць наштурхоўваецца на сапраўдныя канфлікты вялікага ідэйна-псіхалагічнага і палітычнага значэння: канфлікт паміж раённым кіраўніцтвам і прышчэпаўскай палітыкай хутарызацыі; канфлікт паміж комсамольцам і бацькам і т. д. Не пазбаўлены таксама вялікай цікавасці вобразы кулакоў Каржакевіча і Жагулы. Аднак, гэтыя магчымасці недастаткова выкарыстаны. Нацыянал-імпрэсіяніскае любаванне дэталямі, пейзажамі, жанравай жывапіссю тармозіць фабульнае развіццё.

«І ўзяўшы свой нос у два пальцы, папхнуўшыся і ўзмахнуўшы рукою, а потым патрымаўшыся за штаны гэтымі паль-

цамі, нібы памацаўшы імі засмуголеную якасць штаноў, Яўген сказаў: «Дык вось і жывуць людзі»... (С. Баранавых).

Гэта адзін са шматлікіх узораў сюжэтных «тэмпаў» падобнай прозы, абцяжаранай бясконцымі дэталямі.

Статычнасць, незанятнасць прозы спалучаецца скрозь і ўсюды з сантыментальным бытаапісаннем. І ў даспелага пакалення беларускіх пісьменнікаў (Чорны, Крапіва, Лынькоў) і ў моладзі гэта бытаапісанне са слязлівай мараллю, цяжкаю пірай вісіць на нагах.

«І дужа-ж гэта чухаецца добра, на сонца гледзячы, вочы на яго жмурачы»...

Так піша т. Лынькоў аб адным з персанажаў яго рамана «На чырвоных лядах».

Барацьба за соцыялістычны рэалізм у беларускай совецкай літаратуры азначае ў першую чаргу разрыў з падобным бясконцым рамантыка-імпрэсіяністцкім і натуралістычным «чуханнем».

У гэтым напрамку ёсць рад цікавых эксперыментаў. Ужо ў сваім рамане «Бацькаўшчына» К. Чорны робіць пладатворныя намаганні, каб вызваліцца ад імпрэсіяністцкай арнаментальнасці і статычнасці. Сюжэтны касцяк робіцца больш ўстойлівым і трывалым.

Рамантыка «Зямлі» і «Бацькаўшчыны» падае пад смяротнымі ўдарамі рэалістычнага паказу класавых карэнняў «бацькаўшчыны».

Курс «на разбурэнне арнаментальнасці» выступае так р'яна ў рамане «Бацькаўшчына», што аўтару пачынае пагражаць (асабліва ў 2-й частцы) публіцыстычная пратакольнасць і дакументальнасць.

У новым сваім рамане «30 год» (яшчэ ненадрукаваным) К. Чорны са значным поспехам фарсуе гэтае адступленне.

Аўтар у радзе месц падкрэслівае своеасаблівы «хранікальны» характар разгортвання падзей—адсюль значная скупасць выражэння, чоткасць і ўпор на падзейнасць. Ад былой імпрэсіяністцкай бесхрыбетнасці і рамантычнай арнаментальнасці застаецца вельмі мала.

Ад імпрэсіяністцкай манеры паказу вобраза ў профіль і псіхалагічнага расшчаплення К. Чорны пераходзіць да шырокіх мазкоў, да чоткага соцыяльна-псіхалагічнага малюнку.

Рад намаганняў перамагчы сваё рамантыка-імпрэсіяністцкае мінулае робіць Лынькоў у сваім рамане «На чырвоных лядах». Рэалістычны паказ вёскі перыяду імперыялістычнай вайны, больш ці менш шырокі сюжэтны разварот—усё гэта, бясспрэчна, трэба вітаць. Але сюжэтныя вопаўзні, рыхлае бытаапісанне і стылізаваная арнаментальная гутарка прадаўжаюць пагражаюча нацiскаць на гэтага празаіка. Больш выразна, дынамічна, з меншым цяжарам бытаўшчыны напісана апошняя навела «Баян»,—адна з лепшых яго навел.

Тыя-ж працэсы характарызуюць і літаратурны маладняк. Мікуліч у сваім рамане «Дужасць», Шынклер у сваёй кнізе «Сонца пад шпалы», Самуйлёнак у сваёй «Тэорыі Каленбрун»—усе яны, кожны па-свойму, рвуць ланцугі нацыянал-рамантычнай і лірыка-імпрэсіяністцкай абмежаванасці беларускай прозы.

І ў паэзіі, аб якой трэба гаварыць асоба, намячаюцца цікавыя працэсы адыходу ад вясковай песеннай, фальклярызаванай, у значнай меры імпрэсіяністцкай лірыкі. У пошуках эпасу соцыялістычнай рэчаіснасці рад маладых паэтаў (Куляшоў, Зарэцкі і др.) прабуюць вызваліцца ад лішняй метафарычнасці, песеннасці і бессюжэтнасці беларускай паэзіі,—адсюль курс на фабульнасць і празаіраванне верша, часам празмерныя.

Ва ўсім гэтым адчуваецца агульнае наступленне па ўсяму фронту социялістычнага рэалізма супроць засілля імпрэсіяністцкага рамантызма, які карэннямі нярэдка адыходзіць ў нацыянал-дэмакратычную стылёвую спадчыну.

* * *

Праблемы чыстаты мастацкай мовы, сэнсавай яе дакладнасці і вострасці, узнятыя на агромную прынцыповую вышыню ў апошніх артыкулах Горкага, натуральна, стаяць таксама ў цэнтры літаратурна-творчага жыцця БССР—у цэнтры барацьбы за соцыялізм. Тут, у сувязі са спецыфічна-нацыянальнай абстаноўкай, гэтыя праблемы цесна пераплецены з барацьбой супроць нацдэмаўскай засмечанасці беларускай мовы архаізмамі, кулацкімі правінцыялізмамі і паланізмамі.

Нядаўна апублікаваная пастанова СНК БССР аб новым беларускім правапісе паслужыла штуршком да разгортвання барацьбы за ўзмацненне духу пролетарскага інтэрнацыяналізма, духу «зблізкэння пролетарыяў і поўпролетарыяў розных нацый» у беларускай мастацкай літаратуры.

У гэтай барацьбе за жывую мову совецкай рэчаіснасці, супроць стылізацыі пад «народную мову» набывае значны інтарэс разгарнуўшаяся дыскусія па пытанню аб «прыгожай прозе» у беларускай літаратуры.

Не падлягае сумненню, што наша літаратура павінна весці непрымірымую барацьбу супроць усякай прапаганды «неаблізанай», стыхійнай, «каравай» лексікі—за чоткую культурную апрацоўку мовы, за чыстату і вострасць яе. Але гэта ні ў якім разе не выключае, а мяркуе неабходнасць аднначасовай барацьбы супроць усякага эстэцкі-фармалісцкага «форса» у апрацоўцы мовы, супроць усякіх мудраванняў «прыгожай», «музычнай» прозы, супроць стылізаванага без патрэбы сказу і т. д.

Тав. Горкі, настойна ратуючы за культуру мовы, неаднокраць выступаў і супроць падобнай «прыгожай», «паэтычнай» прозы. У адным са сваіх артыкулаў Горкі расказвае аб тым, як ён на працягу раду год змагаўся супроць «праклятай рытмічнай прозы» ў сваёй творчасці. «Я пачынаў расказы нейкімі пяючымі фразамі,—піша Горкі,—напрыклад так: «лучи луны прошли сквозь ветви кизиля и цепкие кусты держи-дерева». Гэтыя пяючыя «фразы», як вядома, абвяшчаліся сімвалістамі (Андрэем Белым) якісцінная мова мастацтва. Горкі і выступае ў радзе сваіх артыкулаў супроць музычнай прозы Андрэя Белага. З поваду фразы пачынаючага пісьменніка: «не упружатся под ситцем груди девичьи», пабудаванай у плане рытмічнага сказу, Горкі заяўляе: «Такие фразы напоминают старинные бабьи причитания».

З поваду арнаментальнай фразы: «рвется сердце Василия в завороженную жавороночной песнью высь», пабудаванай з устаноўкаю на фанетычнасць («завороженный жаворонок») і на рытмічнасць, Горкі піша: «Это очень плохо и говорит о нашей претензии писать «поэтически», красиво».

У беларускай прозе гэтых «бабьих причитаний» і «расписных пряников» (паводле меткага выразу Горкага) развялося не мала. Гэтым грашаць у значнай меры і старыя і маладыя празаікі. Ярчэй за ўсё гэта ўстаноўка на «прыгожую» прозу намецілася яшчэ ў ранніх навелах М. Лынькова і захавалася ў значнай дозе ў яго рамане «На чырвоных лядах». Рад яго фраз, не маючых прамога задання служыць

мэтам характарыстыкі героя, ідзе пад адзнакай гэтай-жа стылізацыі, пад «бабьи причитания». Прывяду прыклад. М. Лынькоў піша:

«Ужо восень слалася па зямлі павуцінием срэбным, канала лета днямі цёплымі, на душы адыходлівымі. Абралі слівы ў садах; і толькі яблыкі тыя, антонаўкі паварачвалі да сонца свае жоўтыя бакі, сокам наліваныя, ядраныя, пахучыя».

Яго пераймае малады пачынаючы празаік Знаёмы, які пачынае сваю кнігу «Ганчары» так:

«Каля лесу ўецца-сцелецца сцяжынка. Ой, ляжыць-бяжыць непратоптаная каля пушчы, верасы абапал нахіліліся, тонкае голейка сухое навалілася».

Гэта народніцка-сантыментальнае «ойканне» і ўся гэта стылізаваная пад народны сказ рытмічная сетка давіць на прозу раду беларускіх пісьменнікаў.

Супроць гэтага саблазну стылізацыі не мог устояць і драматург Гурскі. У сваёй п'есе «Маці», накіраванай супроць нацдэмаў, Гурскі выводзіць яўным чынам стылізаваны вобраз сялянскай дзяўчыны Алеські, якая ўносіць у п'есу атмасферу стылізаванага «расписного пряника».

Вось як Алеська аплаквае сваю маці, загінуўшую ў бойцы з белапалякамі:

«Ой, не шумі ты, гаю, не разносъ ты жалю па нізінах ды прасторах нашых, бо і так у рэчках ды вазёрах, у крынічаньках быстрых поўна слёз гаротных».

Гэтыя «бабьи причитания»—заключны акорд п'есы.

Некаторыя маладыя гіпертрафуюць гэту «рытмічную» прозу да межаў фармалістычна-эстэцкай «гукапісі». Вось, напр., малады празаік Мікуліч у плане гукавога наватарства піша:

«Цемнач цягнецца ценкай цыратай, палахлівым павоем агортвае горнасць, гора, горач чакання. Цвіркун цырлікае, бы цурчыць цурок».

Аб небяспецы гэтай «цырлікаючай» рытмічнай прозы і стылізацыі пад «бабьи причитания» неабходна гаварыць ва ўвесь голас. Звычайна падобная рытмічная проза знаходзіцца ў цеснай сувязі з лірыка-імпрэсіяністкай бесхрыбетнасцю раду нашых кніг. Гэта небяспека тым больш істотна, што карэннямі яна ўходзіць ў нацыяналістычную стылізацыю «идиотизма деревенской жизни».

Барацьба за чыстату, за сэнсавую чоткасць і мастацкую вострасць мовы яшчэ не разгорнута ў беларускай савецкай літаратуры. Яна мяркуе дэтальнае вывучэнне ўсяго мастацкага матар'ялу, які знаходзіцца ў нашым распараджэнні. Прадстаіць неабходная барацьба супроць бясконцых, бяссэнсных дыялогаў, якія, то і справа, запаўняюць нашу прозу, у прыватнасці прозу, пабудаваную на вясковай тэматыцы. Некаторыя таварышы мяркуюць, ці ў кожным разе меркавалі, што тэтыя бясконцыя дыялогі, якія пачынаюцца і канчаюцца бяссэнсным «тае» або «тымчасова»,—што гэта перадае характэрную атмасферу беларускай вёскі. Адначасова прыдзецца даць рэзкі адпор вялікадзяржаўнікам, якія патрабуюць вульгарызатарскі расправіцца з наяўнай беларускай мовай пад спасылкай «апрашчэння» яе.

Усе гэтыя пытанні ўключаюцца састаўною часткай у нашу барацьбу за высокую мастацкую якасць, за соцрэалізм. Пад адзнакай барацьбы за якасць беларуская савецкая мастацкая літаратура ідзе к першаму з'езду савецкіх пісьменнікаў СССР.

І. Д. Сапір

# Ленінізм у барацьбе з буржуазнымі плынямі ў біялогіі

Біялагічныя навукі ў краінах капіталізма знаходзяцца ў стане глыбокага крызіса так сама, як і іншыя аддзелы буржуазнага прыродазнаўства. Пачаўшыся разам з эпохай імперыялізма, крызіс буржуазнай біялогіі ўзмацніўся пасля сусветнай вайны, адлюстроўваючы ўсеагульны крызіс капіталізма і загніванне ўсёй буржуазнай культуры, і абвастрыўся асабліва моцна за апошнія гады.

Асмысліць сутнасць гэтага крызіса біялогіі, ускрыць яго карэнні і перспектывы ў інтарэсах пераможнай барацьбы пролетарыята з сіламі капіталістычнага ладу, які няўхільна ідзе да сваёй пагібелі, інакш нельга, як прымяніўшы да галіны біялогіі геніяльны аналіз, даны Леніным буржуазнаму прыродазнаўству эпохі імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый.

Праўдажаючы і развіваючы далей усе галіны марксізма, Ленін даў, у прыватнасці, агромнай важнасці ўказанні па асноўных праблемах прыродазнаўства.

> «Ні хто іншы, як Ленін, узяўся за выкананне сур'ёзнейшай задачы абагулення па матэрыялістычнай філасофіі найбольш важнага з таго, што дана навукай за перыяд ад Энгельса да Леніна, і ўсебаковай крытыкі антыматэрыялістычных плыней сярод марксістаў. Вядома, што гэту задачу выканаў для свайго часу ні хто іншы, як Ленін, у сваёй выдатнай кнізе «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм». **(Сталін).**

Развіццё біялогіі працякала і працякае, як гэта ўказаў Ленін адносна ўсякай навукі, у барацьбе двух асноўных напрамкаў—матэрыялістычнага і ідэалістычнага, выражаючых у канечным выніку тэндэнцыі і ідэалогію варожых класаў сучаснага грамадства. У чым своеасаблівасць гэтай барацьбы на біялагічным участку ідэалагічнага фронта?

Найперш у тым, што ідэалізм выступае тут галоўным чынам у форме **віталізма.** Праўда, у галіне біялогіі даволі многа рознастайных праяў філасофскага ідэалізма (у прыватнасці ў галіне тэорыі эволюцыі), праўда, віталізм і філасофскі ідэалізм знаходзяцца адзін з другім у шчыльнейшай сувязі, аднак іменна віталізм у розных яго адценнях з'яўляецца галоўнай формай ідэалістычнай рэакцыі на біялагічным участку прыродазнаўства.

Другая рыса адзначанай своеасаблівасці заключаецца ў тым, што

ў галіне біялогіі ідэалізм праяўляе асобую жывучасць. Нават у лепшыя часы буржуазнага прыродазнаўства, калі пад уплывам росту прадукцыйных сіл капіталізма і мноства буйных навуковых адкрыццяў, нязменна ліўшых ваду на млын матэрыялізма, ідэалізм у навуках аб неарганічнай прыродзе вымушан быў прытоіцца, страціўшы ўсякі крэдыт у масе навуковых работнікаў фізікі і хіміі,—нават у гэтыя часы віталісты ў біялогіі прадаўжалі часта выступаць з адкрытым забралам, спекулюючы на менш навукова распрацаваных кутках прыродазнаўства.

Адной з сур'ёзных прычын адносна вялікай цэпкасці ідэалізма ў галіне біялогіі якраз і з'яўляецца тая акалічнасць, што такімі мала распрацаванымі куткамі біялогія багацей, чым навукі аб неарганічнай прыродзе, паколькі, з аднаго боку, біялагічныя навукі маюць справу з асабліва складанаю формай руху матэрыі, а, з другога боку,—менш непасрэдна былі звязаны з попытам капіталістычнай эканомікі. Сувязь з гэтым попытам не падлягае ніякаму сумненню і тады, калі справа ідзе аб біялогіі, асабліва калі ўлічыць пранікненне капіталізма ў сельскую гаспадарку, якое набыло магутныя размеры ў першую палову XIX стагоддзя і стварыла аснову для настолькі буйных твораў біялагічнай мыслі, як работы Дарвіна.

І ўсё-ж адносна менш цесны характар гэтай сувязі з'яўляецца крыніцай своеасаблівасці біялогіі, як часткі ідэалагічнага фронта. Буржуазія заўсёды выкарыстоўвала галіну біялогіі для ідэалагічнага адурманьвання працоўных мас, для апраўдання эксплаатацыі і прыгнечання рабочага класа, сялянства і каланіяльных народаў. Вострасць класавай барацьбы ў галіне біялогіі, а, значыць, і асобая інтэнсіўнасць наступлення віталізма залежыць галоўным чынам ад таго, што галіна біялогіі, і асабліва біялогіі чалавека, блізка сутыкаецца з галіною грамадска-гістарычных працэсаў, а гэтым буржуазная навука пастаянна карыстаецца, тлумачачы ў рэакцыйна-палітычных мэтах грамадскія з'явы біялагічнымі заканамернасцямі.

Віталізм разглядае з'явы арганічнай прыроды як довад існавання нейкага звышнатуральнага, нематэрыяльнага пачатку, якое, моў, кіруе ўсімі працэсамі жыцця. Якія-б формы ні прымаў віталізм, як-бы ні маскаваўся ён, прымушаны лічыцца з усё новымі адкрыццямі прыродазнаўства, гэта яго асноўная ўстаноўка застанецца нязменнай. Гэта адзіна правільнае азначэнне віталізма рэзка адрозніваецца, як убачым далей, ад азначэння, якое даецца віталізму як механістамі, так і самімі віталістамі.

Па меры росту прыродазнаўства стыхійна прыродазнаўча-навуковы матэрыялізм нязменна адымаў у віталізма адну пазіцыю за другою, звужваючы кола дысцыплін, у якіх для віталізма яшчэ аставалася відочнасць навукападобнай апоры.

Калі ў пачатку XIX стагоддзя віталізм карыстаўся значным уплывам не толькі ў праблеме паходжання жывёльных і раслінных форм, але і ў фізіялогіі, прычым нават у адносінах да такой параўнальна элементарнай фізіялагічнай з'явы, як узбуджальнасць, біялогія не мела ў сваім распараджэнні салідната фактычнага матар'ялу, каб даць адпор віталістычнаму тлумачэнню гэтай з'явы, то к канцу XIX века фізіялогія, наадварот, ператварылася ў плацдарм матэрыялістычнага выкрыцця віталістычных тэорый. У прыватнасці гэта адносіцца да такога важнага раздзелу фізіялогіі, як неўралогія, дзе матэрыялістычныя традыцыі да апошняга часу трымаліся асабліва моцна.

Галоўнейшыя ўдары па віталізму былі нанесены перш за ўсё работамі Дарвіна. Не адмаўляючы, а наадварот, прызнаючы факт адноснай мэтазгоднасці раслінных і жывёльных форм—той самы факт, якім віталісты заўсёды найбольш спекулявалі,—Дарвін даў матэрыялістычнае тлумачэнне гэтаму факту, праўда няпоўнае і несвабоднае ад раду тэарэтычных промахаў механістычнага парадку, але тым не менш зусім дастатковае для разгрому віталістычных сцвярджанняў, нібы з'явы мэтазгоднасці можна разумець толькі на аснове прызнання звышпрыроднай «жыццёвай сілы». Паказаўшы на агромным фактычным матар'яле адзінства ўсіх бясконца рознастайных відаў арганічнага свету, іх кроўнае сваяцтва, безупыннасць развіцця, пачынаючы ад прасцейшых жывых істот і канчаючы чалавекам, Дарвін не толькі нанёс сакрушальны ўдар па галоўнаму абаронцу і саюзніку віталізма—па рэлігіі з яе антропацэнтрызмам і вучэннем аб стварэнні кожнага віду «па волі творца», але і больш таго—стварыў непасрэдна для самога віталізма надзвычайныя затрудненні ў яго спробе навязаць прыродазнаўству мысль аб абсалютнай аўтаномнасці жыцця, аб непраходным бяздонні, якое аддзяляе нібы арганічны свет ад неарганічнага. Самы працэс развіцця, само ўзнікненне раслінных і жывёльных відаў набыло ў святле дарвінскага вучэння, падкрэсленага «монбланам фактаў», зусім рацыянальны выгляд, які аказаўся выцякаючым з умоў існавання і фізіялагічных уласцівасцей арганізмаў—без таго, каб пры гэтым аставалася хоць-бы мізернае месца для «жыццёвага пачатку».

Далей, пагібельным для віталізма было і развіццё хіміі, асабліва арганічнай хіміі, якая паказала, следам за гістарычным устанаўленнем (Велерам) штучнага сінтэза мачавіны, хімічную пабудову матэрый, што выпрацоўваюцца жывым арганізмам і састаўляюць яго.

Тым самым была паказана не толькі адсутнасць непраходнага бяздоння паміж неарганічным і арганічным светам, але і стварэнне ў арганізме раду матэрый па законах хіміі, праўда, якасна відазмененых ва ўмовах канкрэтнага арганізма ў параўнанні з хімічнымі законамі ў неарганічнай прыродзе (чаго не ўсведамляюць механісты), але тым не менш ствараючых арганічныя матэрыі без удзелу якіх-бы там ні было другарадных матэрыі «фактараў» (што замоўчваюць меншавіствуючыя ідэалісты, калі яны крытыкуюць механістаў).

Рашучы ўдар віталізму быў таксама нанесен адкрыццём і разгорнутым вывучэннем клетачнай пабудовы арганізма (Шванн, Шлейдэн, Вірхаў).

> «Толькі разам з гэтым адкрыццём,—гаворыць Энгельс,—стала цвёрда на ногі даследванне арганічных жывых прадуктаў прыроды—як параўнальная анатомія і фізіялогія, так і эмбрыялогія.

Даныя гэтага даследвання склалі адну з важнейшых частак фактычнага матар'яла, які лёг у аснову работ Дарвіна. «Пакроў тайны, акутаўшы працэс узнікнення і росту і структуру арганізмаў, быў сарваны».

З другога боку, вывучэнне клетачнай пабудовы арганізма дазволіла **лакалізаваць** у розных яго органах і сістэмах крыніцы тых працэсаў, дзякуючы ўзаемадзеянню якіх арганізм існуе як цэлае, а гэта акалічнасць б'е па аднаму з галоўных сцверджанняў віталізма—аб тым, нібы «фактар цэласнасці» не прасторавы і ўжо па аднаму гэтаму не можа лічыцца матэрыяльным. Не спыняючыся на радзе

іншых, прынцыпова менш важных акрыццяў фізіялогіі XIX стагоддзя, мы можам заключыць словамі Энгельса, напісанымі ў 1885 г.:

«Такім чынам, матэрыялістычны светапогляд у наш час безумоўна больш абгрунтаваны, чым у мінулым стагоддзі... Зараз уся прырода ляжыць перад намі, як некаторая сістэма сувязей і працэсаў, вытлумачаная і зразумелая прынамсі ў галоўных рысах».

Здавалася-б, што ў гэтых умовах віталізму няма куды падзецца, што ён ужо нават мажлівасці не мае маскавацца іլжэнавуковымі палажэннямі, узятымі з галіны біялогіі, і што паколькі жывячая глеба для ідэалізма сярод прыродадаследчыка ўсё-ж у дастатковай меры дана панаваннем буржуазіі, ён можа ў лепшым для сябе выпадку існаваць толькі ў тым своеасаблівым выглядзе, у якім ён аказаўся характэрным для шматлікіх прыродадаследчыкаў,

«якія,—паводле меткага выразу Энгельса,—у межах сваёй прыватнай навукі з'яўляюцца бязлітаснымі матэрыялістамі, а **па-за ёю** (курсіў наш—І. С.) не толькі ідэалістамі, але нават дабрачыннымі, прававрнымі хрысціянамі».

Аднак, для таго, каб сапраўды выгнаць віталізм з галіны біялагічных навук, нехапала важнейшай умовы—іменна адзіна паслядоўнага і навуковага, г. зн. **дыялектыка-матэрыялістычнага** асэнсавання фактычнага матэрыялу, які накапіўся ў біялогіі. А матэрыял гэты па якасці і колькасці сваёй быў ужо к канцу XIX в. такі, што ўсякага біёлага, не скаванага забабонамі «асвечанага мяшчанства» і радам адмоўных традыцый сваёй навукі (напрыклад «унаследванага ад англійскага эмпірызма павярхоўнага метада мышлення»—**Энгельс),** ён уладарна штурхаў да дыялектыка-матэрыялістычнай апрацоўкі біялогіі. Энгельс у «Анты-Дзюрынгу», у «Дыялектыцы прыроды» з выключным майстэрствам паказаў, да якога выдатнага дыялектыка-матэрыялістычнага малюнку прыроды, да якой перамогі погляду аб тым, што «над хаосам бязлікіх змен у прыродзе пануюць дыялектычныя законы», прыводзіць сістэматызацыя ўжо і тых эмпірычных адкрыццяў, якія былі ў наяўнасці к канцу XIX стагоддзя. Але што было зусім натуральна для Энгельса—аднаго з плеяды буйнейшых правадыроў рэвалюцыйнага пролетарыята, аднаго з асновапаложнікаў і лепшых выразнікаў пролетарскага светапогляду—аказалася арганічна недаступным масе буржуазных біёлагаў, прыкаваных сваёй класавай сутнасцю, карэннымі ўмовамі свайго быцця ў рамках развітога даманапалістычнага капіталізма, да абмежавана-метафізічнай формы матэрыялізма. Няздольнасць іх дыялектыка-матэрыялістычна перапрацаваць эмпірычны матэрыял біялогіі была, вядома, не выпадковай, бо дыялектычны матэрыялізм ёсць ідэалогія рэвалюцыйнага пролетарыята.

Не ім, прадстаўнікам стыхійнага, непаслядоўнага, механістычнага матэрыялізма ў біялогіі, было па плячу ўмела абарачаць супроць віталізма ўсе дасягненні прыродазнаўства, канчаткова дыскрэдытаваць віталізм і зрабіць немагчымым рэцыдывы гэтай разнастайнасці ідэалізма—карэннага ворага матэрыялістычнага светапогляду.

Бліскучы паказ нягоднасці метафізіка-матэрыялістычных пазіцый для паспяховай барацьбы з ідэалізмам дан Леніным у «Матэрыялізме і эмпірыякрытыцызме», а таксама і ў іншых яго філасофскіх творах.

Такім чынам, і ў перыяд найвялікшай перамогі прыродазнаўча-навуковага матэрыялізма, г. зн. на парозе пераходу да імперыялістычнай фазы капіталістычнага ладу, у біялогіі ўсё яшчэ прадаўжаў паразітаваць віталізм (Віганд, Бунге і др.). Больш таго, гэты апошні, нават знаходзячыся ў стане адноснага заняпаду, аказваў уплыў на такіх буйных прадстаўнікоў прыродазнаўча-навуковага матэрыялізма, як Вірхаў і Клод Бернар. Рэзка крытыкуючы віталізм і настойваючы на тым, што жыццёвыя працэсы, вядома, строга падпарадкаваны фізіка-хімічным умовам, Бернар разам з тым рабіў уступку віталізму, калі заяўляў: «Можна сказаць, што існуе быццам гатовы загадзя ўзор для кожнай істоты і для кожнага органа». Калі з наступленнем імперыялістычнай эпохі стварыліся ўмовы для ўзмацнення ідэалістычнай рэакцыі ў буржуазнай біялогіі, гэтая рэакцыя адразу знашла гатовы ідэйны матар'ял і гатовыя кадры ў асобе перш за ўсё віталістаў, якія, як мы ўжо бачылі, ніколі не пераводзіліся ў біялогіі. Што ў парадку прыстасавання да новых біялагічных адкрыццяў віталізм павінен быў прыняць некалькі новы выгляд—ясна само сабою.

Біёлагі-ідэалісты, як правіла, ідуць не па шляху простага адмаўлення буйных адкрыццяў навукі, а па шляху іх ілжэтлумачэнняў, паразітуюць на іх, прыстасоўваючы іх да сваіх тэорый. У прыватнасці, яны не сталі адмаўляць—пасля работ Дарвіна—арганічную эвалюцыю, але далі ёй ідэалістычнае тлумачэнне і адсюль у сваю чаргу павялі наступленне на іншыя біялагічныя дысцыпліны (гл. ніжэй адзін з прыкладаў гэтай з'явы—у асобе вядомага буржуазнага вучонага Манакова). Ленін геніяльна ўскрыў гэты манеўр класавага ворага. Ленін піша:

> «З прынцыпам развіцця» у XX стагоддзі (ды і ў канцы XIX стаг.) «згодны ўсе». Але гэта павярхоўная, непрадуманая, выпадковая, філістэрская «згода» ёсць **таго роду** згода, якою душаць і апаганьваюць ісціну» (XII Ленінскі зборнік).

Відазмяніўся ў эпоху імперыялізма і прыродазнаўча-навуковы матэрыялізм біёлагаў. Знаходзячыся пад уплывам усё новых поспехаў навукі і носячы ў сабе рад элементаў стыхійнай матэрыялістычнай дыялектыкі, ён ужо не настолькі прымітыўны, як светапогляд «танных разносчыкаў матэрыялізма» сярэдзіны XIX стагоддзя. Тым не менш, яго няўзброенасць у барацьбе з ідэалістычнай рэакцыяй ў біялогіі безумоўна.

Сучасны механічны матэрыялізм у біялогіі не здолен належным чынам скарыстаць станоўчыя бакі вучэння Дарвіна і нават больш таго—раздзяляе і паглыбляе ўсе слабыя бакі гэтага вучэння.

У вучэнні Дарвіна, як вядома, пытанне аб прычынах паўторных індывідуальных змен не падлягала распрацоўцы, было адсунута на задні план добра распрацаваным пытаннем аб форме распаўсюджвання гэтых змен (што, вядома, не з'яўляецца папрокам Дарвіну, бо «гэта—недахоп, уласцівы яму, як і большасці людзей, сапраўды рухаючых навуку ўперад»—**Энгельс).**

Сучасныя механістычныя матэрыялісты дэманструюць сваё бяссілле ў справе васпаўнення гэтага недахопу. Большасць з іх стаіць на пазіцыі механа-ламаркізма, тлумачачы зменнасць, наперакор даным сучаснай генетыкі, як рэзультат **прамога** ўздзеяння знешняга асяроддзя на арганізм, якое выклікае нібы **адэкватныя** спадчынныя змены арганізма. Пры гэтым ігнаруецца ўяўленне аб адзінстве арганізма

і асяроддзя, у якім гэты арганізм жыве, арганізм і асяроддзе процістаўляюцца, як нешта выключна знешняе адзін другому. Другая частка механістаў-біёлагаў, следуючы прыкладу Лотсі, выходзіць у сваіх уяўленнях аб паходжанні відаў цалкам з даных генетыкі і пры гэтым так скажона іх **падбірае** і тлумачыць, што выходзіць поўнае адмаўленне не толькі якой-бы там ні было ролі знешняга асяроддзя, але і якой-бы там ні было эвалюцыі. Ген нібы абсалютна нязменны, агульная колькасць і якасны склад генаў нібы з'яўляюцца ў сучасны момант такімі-ж, як і дзесяткі мільёнаў год таму назад пры ўзнікненні арганічных форм, і ўся рознастайнасць арганічнага свету залежыць, стала быць, не больш, як ад розных камбінацый раз назаўсёды даных і нязменных генаў.

Паколькі, выходзячы з такога пункту погляду, уся складанасць арганічнага свету была дана ўжо ў момант яго ўзнікнення, то «роля тварца» аказваецца зусім незнішчальнай з тэорыі Лотсі, і перад намі адзін з яркіх узораў цеснага спалучэння механіцызма з ідэалізмам, дакладней, у даным выпадку,—з прамой папоўшчынай.

Дарвін аказаўся не ў стане ацаніць ва ўсёй глыбіні адрозненні паміж жывёлай і чалавекам у біялагічных адносінах, не гаворачы ўжо пра ацэнку адрознення паміж законамі жывёльнага свету і чалавечага грамадства. Буржуазна абмежаванаму светапогляду Дарвіна аказалася зусім не пад сілу даць хоць-бы прыблізна той выдатны аналіз паходжання чалавека, выдатны малюнак дыялектычнага адзінства біялагічнага і сацыяльнага, якія зроблены ў вядомай рабоце Энгельса аб ачалавечанні малпападобных продкаў чалавека.

Сучасныя біёлагі-механісты не рухаліся ні на крок уперад ад памылковых бакоў вучэння Дарвіна. Затое яны трацяць шмат намаганняў для таго, каб, скарыстоўваючы некаторыя рэакцыйныя выказванні Дарвіна[1]), трактаваць грамадска-гістарычнае развіццё з пункту погляду заалагічных законамернасцей, працуюць над абгрунтаваннем так званага «сацыяльнага дарвінізма», адыгрываючы пры гэтым ролю прамых і прытым большай часткаю свядомых памочнікаў абнаглелага фашызма. Нядзіўна, што, з другога боку,—там, дзе справа ідзе аб пастаноўцы і трактоўцы рэзультатаў **фізіялагічнага** эксперымента,—для механіцызма надзвычай характэрны погляд аб поўнай дапушчальнасці непасрэдна пераносіць даныя з жывёльнага арганізма на чалавечы, з маладых стадый антагенетычнага развіцця на позніяі т. д.

Пра сучасных біёлагаў-механістаў (напрыклад, Ж. Лёба ці Шэрынгтона) нельга сказаць, што падобна сваім папярэднікам сярэдзіны XIX стагоддзя, яны зводзяць з'явы жыцця выключна да законаў механікі. Лічачыся з поспехамі фізікі і хіміі, асабліва арганічнай хіміі, біяхіміі і калоіднай хіміі, у распрацоўцы якіх яны самі маюць буйныя заслугі,—яны разглядаюць арганізм як сукупнасць хімічных і фізіка-хімічных працэсаў. Аднак яны надзвычай далёкі ад адзіна правільнага дыялектыка-матэрыялістычнага ўяўлення, што «фізіялогія ёсць, зразумела, фізіка і ў асаблівасці хімія жывога цела, але разам з тым яна перастае быць спецыяльнай хіміяй: з аднаго боку, сфера дзеяння яе тут абмяжоўваецца, але, з другога,—яна ўздымаецца на вышэйшую ступень» **(Энгельс)**. Сваёй асноўнай тэарэтычнай зада-

[1]) Гл., напрыклад, „аб спадчыннай перадачы ўласцівасці, аб выцясненні ніжэйшых рас вышэйшымі „сілаю мастацтва“ ў кнізе Дарвіна „Паходжанне чалавека і палавы падбор“, гл. V.

чай яны лічаць безагаворачнае звядзенне жыццёвых з'яў да фізіка-хімічных працэсаў, якімі пры ўсёй іх першаступеннай важнасці для арганізма, вядома, не вычэрпваюцца матэрыяльныя працэсы яго формаўтварэння, жыццядзейнасці і паводзін.

Матэрыяльнае з'яўляецца для іх сінонімам фізіка-хімічнага, быць матэрыялістам (або, як яны выражаюцца,—«механістам», баючыся слова «матэрыялізм») значыць, з іх пункту погляду, бачыць сутнасць жыццёвых з'яў, аж да самых складаных з іх, выключна ў **фізіка-хімічных працэсах.** Іменна таму яны называюць віталізмам усякае адмаўленне ад звядзення жыцця да гэтых апошніх, нібы і сапраўды няма іншага выхаду як прызнаць наяўнасць звышпрыроднага фактара там, дзе перад табою працэс, хоць і звязаны непарыўна з фізіка-хімічным працэсам, аднак іншы па сваёй матэрыяльнай прыродзе і таму, натуральна, не ўкладаецца ў пракрустава ложа законамернасцей фізікі і хіміі. Вельмі важна, што сучасныя механісты-біёлагі нічым не адрозніваюцца ад віталістаў у трактоўцы пытання аб водападзеле, які ляжыць паміж матэрыялізмам і ідэалізмам у галіне біялогіі. Як тыя, так і другія атаждзестўляюць матэрыяльнае выключна з фізіка-хімічнымі працэсамі.

Калі механіст-біёлаг сустракаецца са з'явай мэтазгоднай прыстасаванасці жывёлы да ўмоў свайго існавання, ён гэту з'яву імкнецца звесці да фізіка-хімічных працэсаў, звяртаючы ўсю сваю ўвагу, напр., на хімію гармонаў і на тыя энергетычныя патэнцыялы, якія ўзнікаюць як рэзультат вядомай хімічнай рэакцыі ва ўмовах малекулярнай структуры данага органа [1]) і выклікаюць рост органа, а разам з тым і стварэнне вядомага прызнака, аказаўшагася карысным для жывёлы. Тым часам зусім відавочна, што як-бы добра іншы раз ні ўдавалася пры адзначаным кірунку доследу ўскрыць **фізіялогію** (дакладней адзін з бакоў фізіялогіі) працэса формаўтварэння—пытанне аб паходжанні мэтазгоднага па сваёй форме прызнака ўсёроўна застаецца адкрытым. Фізіялагічны працэс, аб якім тут ідзе гутарка, сапраўды адбываецца, паколькі арганізм з'яўляецца носьбітам пералічаных хімічных і фізіка-хімічных прадпасылак працэса. Аднак, чаму арганізм аказаўся носьбітам іменна гэтых, а не іншых прадпасылак? На гэта пытанне можна адказаць матэрыялістычна толькі ў тым выпадку, калі не абмежавацца выключна фізіялогіяй асобнага арганізма, а звыш таго—улічыць гісторыю развіцця данага віду жывёлы ў канкрэтным біялагічным і геаграфічным асяроддзі, ускрыць тое спалучэнне момантаў зменнасці спадчыннасці, натуральнага адбору і непасрэдных уплываў знешняга асяроддзя, якое прывяло да пэўных фізіялагічных асаблівасцей паасобных прадстаўнікоў данага віду. Відаць тут ужо прыходзіцца выйсці за межы заканамернасцей фізікі і хіміі ў галіну больш складанай формы руху матэрыі, але для сучаснага біёлага механіста гэта—ужо не ад лукавага. А лукаваму якраз, г. зн. віталісту, такая пазіцыя надзвычай выгадна: яна адкрывае яму шырокі прастор для таго, каб «тлумачыць» неабходныя для формаўтварэння ўмовы дзеяннем звышпрыроднага «жыццёвага фактара» ў выглядзе «энтэлехіі», «сістэмы імпульсаў», «гормэ» і т. п.

Звядзенне арганічных працэсаў да фізікі і хіміі і ігнараванне іх гісторыі развіцця ў аднолькавай меры характэрны для біёлага-механі-

[1]) Пытанне аб малекулярнай структуры тканіны нават у аддаленай ступені не вычэрпвае пытання аб гісталагічнай пабудове тканіны і органа, а тым часам гісталагічная пабудова вельмі недастаткова ставіц а механістамі ў сувязь з фізіялогіяй.

ета, маюць адзін і той самы корань у яго метафізічным (антыдыялектычным) светапоглядзе. Гэта зусім не значыць, што сучасныя біёлагі-механісты не займаюцца параўнальнай біялогіяй. У кожным разе, што датычыць параўнальнай марфалогіі, эмбрыялогіі, то распрацоўка гэтых галін буржуазным прыродазнаўствам ідзе даволі інтэнсіўна. Аднак для механістаў-біёлагаў, так сама як і для ідэалістаў, застаецца «кнігай за сям'ю пячаткамі» адзінае навуковае разуменне эвалюцыі, як яно геніяльна сфармулявана Леніным у яго рабоце «Да пытання аб дыялектыцы». Як ідэалізм, так і механізм у біялогіі цалкам стаяць на глебе першай, па Леніну, г. зн.—«мёртвай, сухой і бледнай» канцэпцыі развіцця. Тым часам толькі другая (ленінская) канцэпцыя развіцця дае ключ да «скачкоў», да «перарыву паступовасці», да «ператварэння ў процілегласць», да «знішчэння старога і ўзнікнення новага». Прымяненне ленінскай канцэпцыі развіцця азначае для біялогіі ўздым на новы, вышэйшы, ленінскі этап. Але нават наблізіцца да мыслі аб гэтым арганічна недаступна рэакцыйнаму, класава абмежаванаму светаразуменню буржуазных біёлагаў.

Не гаворачы ўжо аб тым, што здабыты параўнальнай марфалогіяй матэрыял не падвяргаецца ў механістаў, якія аднachасова з'яўляюцца і эмпірыкамі, глыбокім абагуленням,—фізіялогія ў асноўным распрацоўваецца адарвана ад гэтага матэрыялу. Пазбаўленыя гістарычнага асвятлення фізіялагічныя факты немінуча прыводзяць біёлага-механіста да ўяўлення аб арганізме як аб машыне, няхай сабе значна больш складанай у паказанні, напрыклад, Ж. Лёба, чым у паказанні механістаў XIX стагоддзя, але ўсё-ж як аб машыне. І ў гэтым яшчэ адна характэрная рыса сучаснай механістычнай біялогіі.

З другога боку, справа ідзе не толькі аб разрыве паміж вывучэннем развіцця і вывучэннем фізіялогіі. Для механістычнай біялогіі характэрна таксама разарванасць на мноства дысцыплін, распрацоўваемых адарвана адна ад другой. Асабліва кідаецца ў вочы значная ізаляцыя адзін ад другога такіх важных аддзелаў біялогіі, як фізіялогія і марфалогія. Сярод раду прычын такой ізаляцыі адно з найбольшых месц займае няздольнасць біёлагаў-механістаў бачыць непарыўную сувязь паміж функцыяй і формай, бачыць, што «марфалагічная і фізіялагічная з'явы, форма і функцыя, абумоўліваюць узаемна адна другую» (**Энгельс**). А гэта няздольнасць у сваю чаргу цесна звязана з ужо адзначаным механістычным атаждзестваленнем фізіялогіі з фізіка-хімічнымі працэсамі. Гэта атаждзестваленне стварае вялікія перашкоды для разумення таго, што хоць фізіка-хімічны працэс ёсць абавязковая прадпасылка праяўлення любой функцыі, аднак гэты працэс дзейнічае не сам па сабе, а як працэс у тканінах і органах з зусім акрэсленай марфалагічнай структурай; што асаблівасці гэтай структуры не толькі з'яўляюцца рашаючымі для характару функцыі, але надаюць своеасаблівасць самому фізіка-хімічнаму працэсу, які працякае ў данай марфалагічнай структуры.

Форма і функцыя, фізіялагічнае і псіхічнае, норма і паталогія, новае і старое ў фізіялогіі арганізма, біялагічнае і сацыяльнае ў арганізме чалавека, разныя бакі дзейнасці адзінага жывёльнага ці расліннага арганізма—усё гэта ляжыць перад сучасным прыродазнаўчанавуковым (механістычным) матэрыялізмам як нешта адасобленае ці ў лепшым выпадку звязанае адно з другім толькі знешне. Арганізм аказваецца для яго не больш як сумай розных клетак, тканін, органаў, розных працэсаў і т. д. Паходжанне раду своеасаблівых—і разам з тым ўпаўне матэрыяльных уласцівасцей арганізма як **цэлага**, спо-

саба ўплыву гэтых уласцівасцей на формаўтварэнне і функцыю паасобных яго частак стаіць, як невырашальная загадка, перад механістам-біёлагам. Гэтыя праблемы ён або скідае з рахунку, як-бы неіснуючыя, або шарахаецца ў бок ідэалізма.

У асноўным пералічаныя рысы сучаснага прыродазнаўча-навуковага матэрыялізма характэрны і для прадстаўнікоў механістычнай рэвізіі марксізма ў нас, у СССР. Гэтыя рысы праступаюць тут толькі ў своеасаблівым, падробленым пад марксізм выглядзе. Указаная акалічнасць складае, таксама як і выкрыццё меншавіствуюча-ідэалістычнай рэвізіі марксізма, важнейшую састаўную частку пытання аб спосабах і шляхах барацьбы з буржуазнай ідэалогіяй, аб спосабах і шляхах сацыялістычнай рэканструкцыі біялагічных навук.

Адна з найвялікшых заслуг Леніна заключаецца ў тым, што ён высунуў патрабаванне большэвіцкай непрымірымасці ў адносінах да ўсіх скажэнняў прынцыпаў марксізма, пра якую-б галіну барацьбы ні ішла справа. Чыстата нашых марксісцкіх пазіцый ёсць асноўная ўмова перамогі над буржуазнай ідэалогіяй на ўсіх франтах, у тым ліку і на фронце біялогіі. Ленін указаў, што нельга да канца выкрыць ідэалізм, калі стаяць на пазіцыях механіцызма або скатвацца да іх. Ленін указаў, што гэта тым больш немагчыма, калі рабіць прамыя ўступкі ідэалізму, калі падобна Багданаву трапіць у палон махізма. У наш час такія-ж уступкі ідэалізму, такія-ж некрытычныя адносіны да раду буржуазных тэорый характэрны для меншавіствуючага ідэалізма. У прыватнасці, калі меншавіствуючыя ідэалісты біёлагі падкрэсліваюць—у барацьбе з механістамі—якасную своеасаблівасць жыцця, яны ўпарта замоўчваюць **матэрыяльную** прыроду гэтай своеасаблівасці, а таксама пераемнасць паміж неарганічным і арганічным светам. Прадаўжаючы і развіваючы далей справу Леніна, Сталін ускрыў і даў найглыбейшую ацэнку як цяперашняй форме механістычнай рэвізіі марксізма, так і меншавіствуючаму ідэалізму.

Буржуазная эмпірычная біялогія ва ўсіх сваіх раздзелах (уключаючы псіхафізіялогію і медыцыну) прадаўжае даваць мноства буйных адкрыццяў і ў эпоху імперыялізма. Не ўлічваць тэтага факта было-б «лявацтвам», забыццём указання Леніна аб неабходнасці для нас перапрацоўваць,—адсякаючы варожыя тэорыі, праводзячы **нашу** лінію,—спадчыну буржуазнай навукі. Гэты факт застаецца ў сіле, не гледзячы на яўнае замаруджанне тэмпаў, а месцам і простую дэградацыю навуковай работы біёлагаў на Захадзе пад ударамі нечуванага эканамічнага крызіса і фашысцкай рэакцыі.

Калі мы канстатуем, што біялагічныя навукі ў СССР даганяюць, а ў некаторых галінах пераганяюць эмпірычную біялогію Захада (ў тэарэтычных-жа адносінах наша біялогія ў цэлым стаіць нязмерна вышэй буржуазнай), то мы зусім не збіраемся адмаўляць эмпірычныя поспехі буржуазнай біялогіі. Нарэшце, самое разуменне сутнасці найцяжэйшага крызіса буржуазнай біялогіі толькі і магчыма, калі ўлічыць навуковыя поспехі ў яе-ж уласнай галіне. **Бо, як гэта геніяльна ўказаў Ленін, іменна працэс развіцця буржуазнай навукі з'яўляецца важнейшай прычынай яе-ж крызіса.**

У даным артыкуле мы абмяжуемся прывядзеннем толькі некалькіх прыкладаў адкрыцця такіх новых даных, якія аказаліся ў рэзкай супярэчнасці з устанавіўшыміся і найбольш распаўсюджанымі механістычнымі поглядамі ў біялогіі. Да нядаўнага часу лічылася

ўстаноўленым, што адзін і той-жа гармон[1]), уплываючы на пэўны орган, дае пастаянны па якасці адказ; толькі інтэнсіўнасць адказу можа змяняцца ў залежнасці ад колькасці ўведзенага ў кроў гармона. Біёлагі-механісты бачылі ў такога роду ўстойлівых суадносінах лішні довад машынападобнасці арганізма, панавання ў ім адназначных фізіка-хімічных залежнасцей. Гэты довад з'яўляўся на іх погляд тым больш каштоўным, што ён базаваўся на даных параўнальна маладой галіны ведаў эндакрыналогіі, пацвярджаўшай, здавалася, іх звычайныя ўяўленні. Аднак, новыя доследы школы Ф. Крауза даказалі, што адзін і той-жа гармон можа даць зусім розны эфект пад уплывам такіх умоў, як харчаванне, большае ці меншае ўтрыманне электралітаў у органе (галоўным чынам іоны Са і К), большая ці меншая кіслотнасць асяроддзя органа. Так, адрэналін (прадукт надпочачнікаў) пры адсутнасці солей Са не звужвае (як звычайна), а пашырае кровеносныя сасуды. Харчаванне галавасцікаў тыраксінам (прадуктам шчытавіднай жэлезы) паскарае іх ператварэнне ў дарослую форму толькі пры дабаўленні KCl да вадкасці, дзе знаходзіцца тыраксін. Калі-ж замест KCl да гэтай вадкасці дадаць $CaCl_2$, то метамарфоза[2]) ад дзеяння тыраксіна затрымліваецца, прычым у сваю чаргу гэты эфект залежыць ад колькасці прымяняемага $CaCl_2$. У колькасці 400 мг гэта вешчаство дае эфект, толькі што апісаны, а ў колькасці 500 мг выклікае змены, наогул незвычайныя для дзеяння тыраксіна. Іменна затрыманне метамарфозы, уласцівае дзеянню тыраксіна, замаруджваецца; затое ўзмацняецца рост галавасціка, што звычайна наглядаецца пры харчаванні яго не шчытавіднай, а **зобнай** жэлезы.

Кролікі рэагуюць на інсулін (прадукт падстраўнікавай жэлезы) слабей, чым на адрэналін, толькі ў тым выпадку, калі яны пры гэтым харчуюцца аўсом (кіслотнай стравай). Калі-ж іх перавесці на харчаванне зеленню (шчолачная страва), то суадносіны паміж дзеяннем на іх інсуліна і адрэналіна атрымліваюцца адваротныя.

Далей, калі да параўнальна нядаўняга часу лічылася агульнапрынятым, на падставе работ венскіх вучоных Эпінгера і Гесса, што сімпатычны нерв і блукаючы знаходзяцца адзін з другім у антаганістычных адносінах, падобна двум чашкам вагі, згодна механістычнаму параўнанню ўказаных аўтароў, то цяпер сталі вядомымі даныя, якія сведчаць таксама і аб сумеснай дзейнасці гэтых абодвух частак вегетацыйнай нервовай сістэмы. Такая сумесная дзейнасць праяўляецца, напрыклад, ва ўплыве сімпатычнага і блукаючага нерваў на слюнную жэлезу. Іменна ў той час як сімпатычны нерв стымулюе стварэнне фермента ў складзе аддзяляемага клеткамі слюннай жэлезы, блукаючы нерв узбуджае выдзяленне важкіх частак слюны і тым самым садзейнічае вымыванню ўказанага фермента з клетак.

Або яшчэ: на падставе старых клінічных і эксперыментальна фізіялагічных работ па электрычнаму раздражненню кары галаўнога мозгу лічылася цвёрдым дасягненнем навукі, што кара галаўнога мозгу складаецца з дакладна размежаваных адзін ад другога «цэнтраў», кожны з якіх з'яўляецца носьбітам закончанай псіхічнай функцыі: памяці, увагі, зрокавага ўспрыймання, моўнай дзейнасці і т. д. Тым часам да апошняга часу ўжо накоплен вельмі вялікі матар'ял, які абвяргае гэта ўяўленне: скрозь і ўсюды пашкоджанне ўказаных

[1]) прадукт жэлез унутранай секрэцыі.
[2]) ператварэнне формы (у даным выпадку галавасціка).

цэнтраў прыводзіць да парушэння не якой-небудзь адной, а цэлага раду пераліченых функцый, прычым у далейшым, не гледзячы на застаўшыйся дэфект кары, функцыяльныя непарадкі значна згладжваюцца, а то бывае і так, што пераважнае пэражэнне данай функцыі ўзнікае пры зусім незвычайнай лакалізацыі пашкоджання.

Усе гэтыя ці падобныя факты не ўкладваюцца ў схемы механістычнага напрамку біялогіі. Папярэдняя формула «так, ці не», якая правільна нібы адлюстроўвае плынь той ці іншай фізіялагічнай рэакцыі, аказваецца дыскрэдытаванай на карысць формулы «і так, і не» ў залежнасці ад мноства ўмоў, частка якіх яшчэ не зусім дэтальна выяўлена навукай. Арганізм развіваецца ў процілегласцях. Адна і тая-ж тканіна рэагуе па-рознаму ў залежнасці ад папярэдняй **гісторыі яе функцыянавання.** Функцыі паасобных органаў не толькі ўплываюць на функцыі іншых органаў, але і самі знаходзяцца ў моцнай залежнасці ад стану арганізма ў цэлым, больш таго—толькі ўзнікаюць пры пэўных умовах існавання арганізма (як цэлага); змена функцыі аднаго і таго-ж органа часта адбываецца без таго, каб пры гэтым абавязкова змянялася яго гісталагічная структура; нарэшце, мноства функцый, якія раней здаваліся вельмі звычайнымі, аказваюцца ў сапраўднасці надзвычай складанымі, а галоўнае—маючымі ў сваім складзе яўныя сляды мінулых этапаў функцыянавання арганізма. Вывучэнне такіх функцый з асобай нагляднасцю ўказвае біёлагу на наяўнасць непарыўнай сувязі паміж фізіялогіяй сёнешняга дня і гісторыяй развіцця арганізма, на надзвычайную недастатковасць аднаго толькі фізіка-хімічнага падыходу да функцыі, на немагчымасць звесці законамернасці гэтай функцыі да адных толькі фізіка-хімічных працэсаў. Карацей кажучы: ўсе прывычныя, устанавіўшыяся погляды біёлага-механіста, як мы ўжо гаварылі вышэй, падвяргаюцца рэвалюцыйнай ломцы пад уплывам мноства следуючых адзін за другім буйных біялагічных адкрыццяў.

Ідэалагічны рэзультат гэтай ломкі старых агульнапрынятых поглядаў у галіне біялогіі мае шмат агульнага з рэзультатам таго-ж працэса ў галіне фізікі. Ленінскі аналіз, разгорнуты ў «Матэрыялізме і эмпірыякрытыцызме», дае ключ да разумення таго, як адбываецца тут справа. Многія буржуазныя біёлагі, якія і дагэтуль схільны к матэрыялізму, ды не адважваюцца яшчэ канчаткова парваць з ім, пачынаюць праяўляць хістанні ў бок ідэалізма (у форме агнастыцызма). Паколькі ўстанавіўшыяся тэорыі аказаліся абвергнутымі, паколькі прышоўшыя ім на змену новыя навуковыя меркаванні (якія вядома, як і раней базуюцца на механістычным светапоглядзе), таксама аказаліся нядоўгавечнымі і фактычна па-ранейшаму застаюцца процілеглымі адно другому, то ці не азначае гэта,—мяркуюць яны,—што задачы навукі наогул эфемерны, што чалавечаму пазнанню суджана не больш, як слізгацца па паверхні. Ды хіба можа быць наогул цвёрдая ўпэўненасць, што існуе незалежная ад свядомасці аб'ектыўная рэчаіснасць, хіба не з'яўляецца гэта апошняя толькі ігрою нашага ваабражэння, хіба рознасць змагаючыхся адна з другою біялагічных тэорый не з'яўляецца прадуктам рознага **складу мышлення** ў розных біёлагаў; але ў такім выпадку, дзе-ж падставы для адмаўлення ад той ці іншай тэорыі, калі толькі з некаторага адвольна абранага пункту погляду яны акажуцца ўнутрана лагічнымі, калі «сімвалы» арганізма, функцыі, эвалюцыі, унутранай секрэцыі (а ўсё гэта, моў, не больш, як сімвалы, і ні ў якім разе больш ці менш верныя адлю-

страванні сапраўдных рэчаў і працэсаў) укладваюцца тэарэтычна ў стройную сістэму?

Такі іменна настрой думкі многіх кіруючых буржуазных біёлагаў. Гэты настрой пранізваецца глыбокім пазнавальным песімізмам, асабліва трывалым зараз, у эпоху ўсеагульнага крызіса капіталізма, беспрацоўя, якое ахапляе ў прыватнасці ўсё больш шырокія колы буржуазнай тэхнічнай інтэлігенцыі, у абстаноўцы краху банкаў і буйнейшых прадпрыемстваў, закрыцця мноства навуковых інстытутаў, варожых адносін масы збанкрутаваўшыхся капіталістаў да развіцця навуковай і тэхнічнай мыслі. Сярод тых біёлагаў і медыкаў, якія не кінуліся яшчэ ў абдымкі адкрытай рэлігійнай містыкі (а ёсць мноства і такіх, аб чым сведчыць тое, што не так даўно былі скліканы спецыяльныя кангрэсы па рэлігійнай псіхалогіі, тэлепатыі і т. д., а таксама адкрытае апраўданне забабонства настолькі аўтарытэтнымі дзеячамі буржуазнай медыцыны, як Крэль і Бір), пашыраецца неакантыянства, махізм, так званая філасофія «як калі-б» Файхінгера (Philosophie als ob), якая сцвярджае, што справа не ў ісцінасці—усёроўна, моў, недасягаемай,—а ў праўдападобнасці і т. д.

Вось адно з характэрных выказванняў віднейшага нямецкага псіхіятра Крачмера:

> «У кожным разе,—піша ён,—можна асмеліцца сказаць, што некаторыя віды спірытуалістычнага манізма ствараюць той светапогляд, які, відаць, найлепш адпавядае сучаснаму дысцыплінаванаму мышленню. Гэты светапогляд пры строгім падкрэсліванні апошняга адзінства ўсіх рэчаў прызнае бясспрэчным эмпірычны прымат духоўнага перад матэрыяльным».

Ф. Крауз, аўтар каштоўных работ па біяхіміі і вегетацыйнай нервовай сістэме, цалкам падзяляе пазіцыі ідэаліста Маха. З яго пункту погляду спрэчка аб матэрыялізме і ідэалізме беспрадметны; мы маем справу не з аб'ектыўным светам, а толькі з голымі пачуццямі, якія даюць нам розныя ўяўленні аб арганізме, эвалюцыі і інш. У залежнасці ад таго, якія пачуцці здаюцца нам сумесна існуючымі, аб'ядчанымі ў адну «калакацыю» (комплекс, аб'яднаны па прызнаку прасторы). Якаснай розніцы паміж арганічным і неарганічным, псіхічным і фізічным няма:

> Прырода (тут Крауз мае на ўвазе адпаведны «комплекс пачуццяў»—**І. С.**) імкнецца выкрыць цяжар таксама, як мы імкнемся выкрыць нашы жаданні, намеры».

Суб'ектыўны ідэалізм прапаведваецца і радам сучасных віталістаў. Неовіталісты, у адзнаку ад старых віталістаў, стаяўшых цалкам на глебе аб'ектыўна-ідэалістычнай філасофіі, стараюцца, прадаўжаючы ў асноўным аставацца прадстаўнікамі аб'ектыўнага ідэалізма, надаць «глыбокае абгрунтаванне» сваім вучэнням аб энтэлехіі і інш. налажэннямі модных цяпер (і—о, вядома!...—«даўно здаўшых у архіў застарэлы матэрыялізм») рознавіднасцей суб'ектыўнага ідэалізма і агнастыцызма. Правадыр сучаснага віталізма **Дрыш**, загадзя напярэдзіўшы, што ён не ў стане сказаць аб энтэлехіі што-небудзь канкрэтнае і ўразуміцельнае ўжо па аднаму таму, што, моў, энтэлехія не прасторава, усё-ж спрабуе запэўніць свайго чытача ў тым, што гэты слоўны выкрутас мае за сабою нейкі «навуковы сэнс». Выкідаючы з філасофіі агностыка Канта вучэнне аб «рэчы ў сабе» і апіраючыся выключна на ідэалістычную частку філасофіі Канта,

Дрыш сцвярджае, што энтэлехія не менш абгрунтавана, чым усе іншыя нашы веды. Аб'ектыўных прасторы часу, прычынных суадносін, моў, не існуе. На справе, моў, «вопыт выліваецца ў рамкі, прадуказаныя катэгорыямі, і апошнія такім чынам апрыорны ў лагічным сэнсе» (Дрыш «Віталізм, яго гісторыя і сістэма»). Роўным чынам энтэлехія, па Дрышу, пакоіцца на апрыорнай, уласцівай нашай свядомасці катэгорыі цэласнасці, якая (катэгорыя) нічым не горш іншых апрыорных катэгорый Канта.

З другога боку, сучасны віталізм «сам спрабуе «абгрунтаваць» «на салідным біялагічным фундаменце» рэакцыйна-ідэалістычныя, накіраваныя на ідэйную дэзарыентацыю рэволюцыйных мас, сцверджанні аб бездапаможнасці розуму і безнадзейнасці навуковага даследвання аб'ектыўнай рэчаіснасці. Як ён гэта робіць, мы ўбачым некалькі ніжэй. Зараз-жа я хачу падкрэсліць, што і цяпер віталізм застаецца найбольш тыповым і ярка выражаным прадстаўніком ідэалістычнай рэакцыі на фронце буржуазнай біялогіі. Разам з тым ён набыў рад своеасаблівых рыс, без уліку якіх аналіз крызіса сучаснай буржуазнай біялогіі быў-бы бяскроўным і няверным.

Своеасаблівасць заключаецца найперш ў тым, што ў сучасны момант віталісты надзвычай актывізаваліся. Яны выступаюць больш агрэсіўна, чым раней, яны больш рашуча прэтэндуюць на пашырэнне сферы свайго ўплыву за межы чыста біялагічных пытанняў, урываючыся ў галіну грамадска-гістарычных праблем, прабуючы «абгрунтаваць фашысцкую расавую «тэорыю».

Віталізм актыўна скарыстоўвае ўсе моманты разброду і непаслядоўнасці ў радах біёлагаў—прадстаўнікоў прыродазнаўча-навуковага матэрыялізма; ён усяляк спрабуе ўзмацніць іх хістанні і вербаваць (іншы раз не без поспеху) сваіх новых прыхільнікаў з гэтага лагера. Яркім і вельмі тыповым для данага перыяда буржуазнай біялагічнай навукі прыкладам прамога пераходу з лагера матэрыялізма ў лагер віталізма з'яўляецца выступленне вельмі буйнага швэйцарскага неўролага Манакова (нядаўна памершага). Гэты вучоны, які даў шмат каштоўных эмпірычных работ і ніколі ў даваенны час не выказваў у адкрытай форме сваіх сімпатый к віталізму, апублікаваў параўнаўча нядаўна кнігу, у якой атакуе механістычную біялогію, а разам з ёю і матэрыялізм у біялогіі наогул, абвінавачвае біёлагаў-матэрыялістаў у няздольнасці разумець арганізм як цэлае, і ў якасці рухаючай і яднаючай арганізм інстанцыі высоўвае нематэрыяльны жыццёвы фактар пад назвай «гормэ» (яшчэ адзін слоўны выкрунтас у радзе іншых, прапанаваных віталістамі). Манакоў—гарачы прыхільнік гістарычнага падыходу да біялагічных з'яў. Але пры бліжэйшым разглядзе аказваецца, што асновай і рухаючай сілай біялагічнага развіцця ён лічыць усё тую-ж «гормэ». Перад нам узорчык таго, як прызнаючы арганічную эвалюцыю, ідэаліст пад прыкрыццём гэтага прызнання пратасквае «жыццёвую сілу» і, вядома, скажае пры гэтым малюнак тых з'яў да якіх ён прымяняе свой фальшыва-гістарычны падыход [1].

Нельга не адзначыць, што ў Манакова, у яго работах ужо даваеннага часу, можна пры больш дакладным аналізе выявіць хістанні ў бок ідэалізма. Аднак толькі ў апошні перыяд—у перыяд рэзка ўзмацнішагася крызіса буржуазнай тэарэтычнай мыслі, узмацнення ідэа-

---

[1]) Больш падрабязна гл. у маім артыкуле „Праблема лакалізацыі мазгавых функцый" у II зб. прац І-та Псіханеўралогіі БелАН.

лістычнай рэакцыі ў біялогіі і павышэння агрэсіўнасці віталізма—зрабілася магчымым ператварэнне гэтых хістанняў у просты пералёт на процілеглы бок. Прыклад з Манаковым паказальны яшчэ і ў тых адносінах, што ён дэманструе тэндэнцыю віталізма пранікнуць і ў такую галіну, як неўралогія, дзе да нядаўнага часу амаль непадзельна панаваў прыродазнаўча-навуковы матэрыялізм.

Другая рыса своеасаблівасці сучаснага віталізма, якая характарызуе яго ідэйны змест, заключаецца ў тым, што ён канцэнтруе сваю ўвагу галоўным чынам на **праблеме цэласнасці**. Гэта зусім не значыць, нібы віталізм не паразітуе і ў радзе іншых праблем біялогіі, якімі з'яўляюцца праблемы псіхікі, мэтазгоднасці, спецыфічнасці і т. д. Аднак, цэнтр сваёй увагі ён усё-ж перанёс на праблему цэласнага арганізма. Мы зараз убачым, што гэта акалічнасць не толькі звязана з выявіўшымся банкруцтвам механіцызма ў біялогіі, але і мае **глыбокія палітычныя падставы.**

Тэарэтычную аснову для найбольш глыбокага выкрыцця ідэалістычнай сутнасці «тэорыі» цэласнасці мы знаходзім у выдатным указанні Леніна на адзін вельмі характэрны ў гісторыі ідэалізма «вынкрутас» мыслі. Яшчэ для першабытнага ідэалізма быў характэрны такі пагляд, што агульнае (паняцце, ідэя) ёсць асобная істота. Адзначаючы гэта, Ленін далей піша:

> «Гэта здаецца дзікім, дзівосным (вярней: рабяцкім), бязглуздым. Але хіба не ў гэтым родзе (зусім у тым-жа родзе)—сучасны ідэалізм, Кант, Гегель, ідэя бога? Сталы, крэслы і ідэі стала і крэсла; свет і ідэя свету (бог), рэч і «нумен», непазнаваемая рэч у сабе, сувязь зямлі і сонца, «прыроды наогул»—закон, логос, бог» (XII Лен. зб. стар. 337.)

Буржуазныя вестуны цэласнасці праразбляюць і ў наш час па сутнасці тое-ж самае. У іх ваабражэнні цэласнасць аказваецца нечым адарваным, аддзеленым ад рэальных матэрыяльных частак у арганізме, містычнай істотай, якая кіруе арганізмам.

Пытанне аб суадносінах цэлага і частак рэчаіснасці з'яўляецца адным з важнейшых пытанняў фізіялогіі. Без прымянення сапраўды-навуковай ленінскай канцэпцыі развіцця, без уліку супярэчнасці фізіялагічных працэсаў у арганізме, без уліку не толькі перасмнасці, але і якаснай рознастайнасці гэтых апошніх, без аналізу тых істотных відазмен, якія перацерпяваюць у жывым арганізме законамернасці фізікі і хіміі і т. д., карацей—без прымянення матэрыялістычнай дыялектыкі на вышэйшым ленінскім этапе яе развіцця,—гэту праблему нельга вырашыць навукова.

Кожны новы факт, які адносіўся да гэтай праблемы, усё больш ставіў у тупік біёлагаў-механістаў. Віталісты-ж якраз патрацілі не мала намаганняў на тое, каб прыпаднесці біёлагам-механістам пабольш такіх фактаў. Асабліва спрыяючай накапленню гэтых фактаў з'яўляецца галіна формаўтваральных працэсаў: у ёй якраз і была праведзена сучаснымі віталістамі, і ў першую чаргу Дрышам, вялікая колькасць эксперыментальных работ. Віталісты асабліва казыраюць тым фактам, што пры розтага роду пашкоджаннях, якія эксперыментальна наносяцца зародку жывёлы, аж да падзялення яго папалам,—з астаўшыхся частак усё-ж развіваецца нармальная па сваіх формах жывёла. Такім чынам клеткі, якія ў выпадку адсутнасці па суседству з імі пашкоджанняў, законамерна развіваюцца ў адзін які-небудзь орган, напрыклад, аканечнасць,—цяпер, пасля выключэння іншых

клетак, атрымліваюць новы напрамак развіцця і ўдзельнічаюць пры розных новых умовах у стварэнні, напрыклад, галаўной аканечнасці жывёлы.

Выкарыстаўшы гэты факт, віталісты прапануюць механістам тлумачыць яго выключна спалучэннем фізіка-хімічных працэсаў і, таржэствуючы з поваду невырашальнасці пастаўленай такім чынам задачы, высоўваюць сваё, нібы адзіна магчымае, вырашэнне. А «вырашэнне» гэта заключаецца ў тым, што прапануецца прызнаць наяўнасць нематэрыяльнага фактара пад той ці іншай назвай (энтэлехія, гормэ і т. п.), які, моў, кіруе фізіка-хімічнымі працэсамі арганізма, яднае іх у адно цэлае і, манеўруючы імі, прыводзіць да стварэння мэтазгоднай формы, не гледзячы на ўсякага роду знешнія перашкоды. Таксама выкарыстоўваюцца віталістамі факты з даследвання рэгенерацыі адрэзаных органаў дарослай жывёлы ці факты кампенсатарнага (замяшчальнага) аднаўлення функцый пры пашкоджаннях нэрвовай сістэмы. Віталісты асабліва падкрэсліваюць пры гэтым нібы відавочную тут абсалютную гарманічнасць функцый арганізма і побач з гэтым узмоцнена высоўваюць палажэнне, быццам частка ёсць нешта пасіўнае, цалкам залежнае ад містычнага—у ваабражэнні віталістаў—цэлага.

Няма чаго і гаварыць, што такога роду развражанні могуць імпаніраваць апрача саміх віталістаў толькі метафізічным (антыдыялектычным) матэрыялістам-біёлагам і што на справе фактычных даных, якія штодзенна дастаўляе эмпірычная біялогія, зусім даволі, каб пры ўмове дыялектыка-матэрыялістычнай іх прапрацоўкі аўладаць матэрыяльнымі законамернасцямі, дзеючымі ў галіне так званай «механікі развіцця».

У сучасны момант вядома ўжо надзвычай многа аб тых матэрыяльных працэсах, якія звязваюць арганізм у адзінае цэлае. Вазьміце сучасныя даныя марфалогіі і фізіялогіі цэнтральнай нэрвовай сістэмы, якая з'яўляецца не толькі субстратам псіхікі і паводзін, але і (праз вегетацыйную нэрвовую сістэму) рэгулятарам біяхімічных працэсаў у арганізме; вазьміце сукупнасць даных І. П. Паўлава, Ухтомскага, Введзенскага, Шэрынгтона аб узаемадзеянні, аб пераходзе аднаго ў другі працэсаў узбуджэння ў нэрвовай тканні; Бергера, Корнмюллера—аб біяэлектрычных токах дзеяння ў мазгавой кары: Вараб'ёва, Леантовіча—аб праводзячых шляхах і найтанчэйшай пабудове нэрвовай сістэмы і т. д.,—і вы ўбачыце не толькі тое, якім чынам ажыццяўляецца **адзінства дзеяння** нэрвовай сістэмы, не толькі тое, як ад гістарычна данай пабудовы гэтага адзінства залежыць канкрэтны характар законамернасцей нэрвовай сістэмы як цэлага, але і тое, які іменна акрэслены ўплыў аказваюць гэтыя законамернасці цэлага на функцыю любой паасобнай часткі нэрвовай сістэмы. Вазьміце далей фактычны матэрыял аб узаемадзеянні жэлез унутранай секрэцыі адной з другою, з тканінай арганізма, з вегетацыйнай нэрвовай сістэмай, аб трафічным і фарматыўным уплыве не толькі гармонаў, але і прамежных хімічных прадуктаў асіміляцыі і дысіміляцыі [1])—і перад вамі ўсё канкрэтней стане абрысоўвацца матэрыяльная прырода суадносін паміж часткаю і цэлым—на гэты раз дапасоўна да вегетатыкі арганізма, а ў сукупнасці з данымі, адзначанымі вышэй,—і дапасоўна да фізіялогіі ўсяго арганізма як цэлага.

[1]) абмен матэрый у арганізме.

Пры гэтым ускрываецца ўся безгрунтоўнасць віталістычных сцверджанняў пра нібы абсалютную гарманічнасць арганізма; аказваецца, што не толькі цэлае вызначае частку, але што абавязкова маюць месца і адваротныя суадносіны—так сама, як і ўплыў паасобных частак адна на другую; выяўляецца поўная беспадстаўнасць віталістычнага палажэння аб нібы абсалютнай аўтаномнасці жыццёвага працэса і, наадварот,—раскрываецца дыялектычная сувязь паміж неарганічным і арганічным светам, паміж фізіялогіяй арганізма і асяроддзем, у якім ён жыве, які перамагае, выкарыстоўвае і т. д.

Праблема цэласнасці арганізма аказваецца пазбаўленай якіх-бы там ні было элементаў містыкі; выяўляюцца на канкрэтным матар'яле неабсяжныя перспектывы далейшага рацыянальнага даследвання, прынцыпова нічым неабмежаваныя магчымасці навукі, у прыватнасці біялагічнай, а разам з тым і неабмежаваныя магчымасці кіраўніцтва біялогіяй жывёльнага і расліннага свету, пладатворнага ўдзелу фізіёлагаў у справе ўсебаковага разгортвання фізічных і разумовых сіл чалавека (вядома, пры абавязковай і гістарычна немінучай умове звяржэння капіталізма) на падставе пераможнага будаўніцтва соцыялізма, выключныя поспехі і ўзоры якога дае СССР—цытадэль сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

Пад выглядам правядзення прынцыпа цэласнасці віталізм выступае зараз у вельмі рознастайных формах. Больш замаскаваная і больш пашыраная з гэтых форм прадстаўлена ў выглядзе так званай **гештальт-тэорыі (Gestalttheorie)**. Ілжывасць і рэакцыйнасць гэтай тэорыі не ў тым, што яна падкрэслівае адзінства арганізма і факт падпарадкавання паасобных яго частак законамернасці арганізма як цэлага. Наадварот,—у гэтым пункце яна правільна адлюстроўвае рэальнасць і тым самым украдваецца ў давер'е прадстаўнікоў прыродазнаўча-навуковага матэрыялізма. Выказваючыся з поваду гештальт-тэорыі і падобных вучэнняў, адзін з гэтых апошніх, Б. Фішэр (гл. яго кнігу «Віталізм у паталогіі», пераклад з рускага, Масква, 1925 г.) гаворыць: «У непрадузятага наглядальніка не можа быць, па маёй думцы, і мінуты сумнення, што ў прыродзе адзінства жывёльнага арганізма існуе фактычна, матэрыяльна, а не толькі ў галіне свядомасці ці абстракцыі». Само па сабе гэтае палажэнне зусім верна, аднак, аўтар сам не прыкмячае, што тут ён ужо ў матэрыялістычным сэнсеператлумачвае тэзіс гештальт-тэарэтыкаў аб цэласнасці, бо для гэтых апошніх якраз і з'яўляецца чужым указанне на **матэрыяльны характар** цэласнасці арганізма[1]). Для гештальт-тэорыі характэрна ўспрыйманне цэласнасці, як чагосьці пярвічнага, спрадвеку ўласцівага арганізмам, але зусім не звязанага з канкрэтным развіццём матэрыі. Адсюль вынікаюць іншыя палажэнні «гештальтаўцаў»—нібы «прынцып цэласнасці ёсць важнейшы з усіх, з якімі мае справу біялогія», нібы, зусім бязмэтнай і неправамернай з'яўляецца ўсякая спроба аналізаваць, ускрываць тыя працэсы ў арганізме, якія абумоўліваюць яго адзінства, нібы факт вызначаючага значэнне цэлага для яго частак выключае адваротнае значэнне— частак для цэлага і т. д. Для гештальт-тэорыі характэрна, што яна

1) Няма нічога дзіўнага ў гэтай памылцы Б. Фішэра, бо, як гэта і характэрна для непаслядоўнага прыродазнаўча-навуковага матэрыяліста, ён сам не пазбаўлен ідэалістычных поглядаў. Так, да вышэй прыведзенай фразы ён лічыць патрэбным дадаць: „зразумела, паколькі наогул існуе магчымасць матэрыяльнага пазнання". Ці ў далейшым робіць такую па сутнасці віталістычную заяву: „Само цячэнне іх (з'яў жыцця—*І. С.*) становіцца зразумелым з пункту погляду *патрэбнасці* арганізма ў цэлым" (стар. 45).

ўнікае адкрытага карыстання такімі тэрмінамі, як «энтэлехія», «адухаўляючы пачатак» і т. д., недагаварвае, нібы ў імя цвярозасці навуковай мыслі, пытанне аб прыродзе цэласнасці і тым самым маскуе сваю ідэалістычную сутнасць. У асобе гешталь-тэорыі мы маем адну з яркіх ілюстрацый у галіне біялогіі да геніяльнага палажэння Леніна: «філасофскі ідэалізм ёсць аднабокае перапавялічанае развіццё (раздуванне, распуханне) адной з рыс, бакоў, межаў пазнання ў абсалют, адарваны ад матэрыі, ад прыроды, абажэствлены». «Пазнанне чалавека не ёсць прамая лінія, а крывая лінія, якая бясконца набліжаецца да раду колаў, да спіралі. Любы адрывак, абломак, кавалак гэтай крывой лініі можа быць ператворан (аднабакова ператворан) у самастойную цэлую, прамую лінію, якая (калі за дрэвамі не бачыць лесу) вядзе тады ў балота папоўшчыны, дзе яе **замацоўвае** класавы інтарэс пануючых класаў» [1]).

І сапраўды, хіба чапуха само па сабе сцверджанне, што функцыя паасобных частак арганізма залежыць ад своеасаблівых заканамернасцей арганізма як цэлага? Не, гэта сцверджанне правільна, і далейшы рост навукі робіць яго ўсё больш пераканаўчым. Але рэчаіснасць многагранна і супярэчліва. Прадаўжаючы заставацца цэласным, арганізм ў сваім развіцці дыферэнцыруецца. Ідэалізм не бачыць гэтага ўзаемнага пранікнення процілегласцей, ён **ігнаруе** значэнне аддыферэнцыяваўшыхся частак, для жыцця арганізма, як цэлага.

> «Прамалінейнасць і аднабокасць, дзеравянасць і закасцянеласць, суб'ектывізм і суб'ектыўная слепата—вось гнасеалагічныя карэнні ідэалізма» **(Ленін).**

Ігнараванне канкрэтнай будовы арганізма на самай справе не можа прывесці ні да чаго іншага, як да ідэалістычнага талкавання цэласнасці арганізма. Сувязі, яднаючыя арганізм у адно цэлае, не існуюць паасобна ад нэрвовай сістэмы, ад мноства розных органаў і тканей. Іх сапраўдны матэрыяльны характар толькі тады і робіцца ясным, калі мы вывучаем іх у непарыўнай сувязі з пабудовай і функцыяй усіх гэтых частак. У праціўным выпадку яны ўяўляюцца як нешта нематэрыяльнае, абстрактнае, рацыянальна-невытлумачальнае. Але ці ідэалісту тужыць аб гэтым? Наадварот, ён адчувае сябе добра іменна там, дзе адкрыт шырокі прастор не для рацыянальных, а якраз для ірацыянальных, містычных, папоўскіх спекуляцый. У парадку прымянення такога роду спекуляцый і нарадзілася сучаснае буржуазнае вучэнне аб цэласнасці, у якім, як мы бачылі, цэласнасць узведзена ў нешта абсалютна адарванае ад матэрыі і містыфікавана. Гэта вучэнне вельмі выгадна імперыялістычнай буржуазіі, бо, як убачым ніжэй, яно дапамагае ёй праводзіць узмоцненае наступленне на рабочы клас, ідэалагічна «абгрунтоўваць» пераход да адкрытай, тэрарыстычнай формы сваёй дыктатуры перад тварам нарастаючага рэволюцыйнага крызіса, насплявання ідэі штурма ў свядомасці мас. І таму зусім не дзіўна, што буржуазія ўсяляк культывуе і замацоўвае віталістычнае вучэнне аб цэласнасці.

Неабходна тут-жа адзначыць, што не толькі прыродазнаўча-навуковыя матэрыялісты Захада, але і многія нашы біёлагі (і псіхолагі), якія прылічваюць сябе да лагера марксізма, скатваюцца, або прама становяцца на пазіцыі гешталь-тэорыі і сваяцкіх ёй буржуазных вучэнняў. Гэта асабліва характэрна для прадстаўнікоў меншавіствуюча-ідэалістычнай рэвізіі марксізма—так сама, як і для «тэарэтыкаў»

---

[1]) **Ленін.** Да пытання аб дыялектыцы, т. XIII, стар. 304.

міжнароднага меншавізма, для дзеячоў соцыял-фашысцкага II Інтэрнацыянала. А тым часам, як відаць будзе з далейшага, разглядаемае тут «вучэнне» адыгрывае значную ролю ў сістэме контррэволюцыйных мерапрыемстваў буржуазіі.

Калі ўплыў гештальт-тэорыі ажыццяўляецца «ціхаю сапай», то затое другая разнавіднасць віталізма ў сучаснай буржуазнай біялогіі адкрыта праклямуе свае ідэалістычныя прынцыпы, агрэсіўна прышчапляе іх біялогіі, не саромячыся пры гэтым прыбягаць да простага падтрымання з боку паліцэйскага апарата фашысцкіх ці фашызуючыхся дзяржаў імперыялістычнай буржуазіі. Гутарка ідзе аб тых біёлагах, якія разглядаюць цэласнасць арганізма, як выражэнне псіхічнага пачатку. «Душа ёсць сэнс цела, цела ёсць выражэнне душы»— вось асноўны тэзіс праваднасімага германскімі фашыстамі псіхолага (і адначасова біёлага) Клягеса. Адухаўленне арганізма, атаждзествленне з'яў жыцця з псіхічнай дзейнасцю зусім не нова для ідэалістычнага кірунку ў біялогіі. Аднак, калі раней пад псіхічным пачаткам арганізма віталісты разумелі пераважна псіхіку ў яе элементарных, так сказаць абязлічаных, формах (гл. вучэнне Гартмана аб несвядомым), то зараз усё часцей і настойлівей імі высоўваецца разуменне яднаючага псіхічнага пачатку ў выглядзе асобы, ці вярней—падобнасці асобы. У такім іменна разуменні і гаворыць Клягес аб душы, як аб сутнасці арганізма. Але што-ж такое гэта душа ў азначэнні разглядаемай рознастайнасці віталізма? Клягес патрабуе рэзкага размежавання паміж душой (Seele) і духам (Geist), пад якім ён разумее розум, мышленне, інтэлект, тады як «душа» у яго азначэнні ёсць свет інстынктаў і глыбокіх цягненняў.

«Дух» гэта, моў, другараднае, наноснае, здольнае толькі да павярховага разумення, незаслужана праваднесенае шкоднымі «тлетворнымі» вучэннямі матэрыялізма. Затое, «душа» складае самую сутнасць псіхікі і жыцця. Хто ўясніў асаблівасці душы, той атрымлівае ключ да разумення ўсіх з'яў жыццедзейнасці, паводзін, мэтазгоднасці жывых істот. «Дух»—зменчывы, «душа»—нешта пастаяннае, устойлівае. «Душа» індывідума ёсць ручаёк, які адгалінаваўся з агульнага патоку універсальнага жыцця (Allleben). Але, перш чым даць пачатак «душы» індывіда, — гэта паток увасабляецца ў «душы» народу ці расы, і таму самае істотнае ў «душы» індывідума ёсць яе расавыя асаблівасці. Вось у гэтым іменна пункце адбываецца непасрэднае змыканне фашыста-біёлага з фашыстам палітыкам, кіраўніком пагромных шавіністычных банд.

Фашысту-палітыку мала мець ад біёлага адно толькі «абвяржэнне» матэрыялізма, яму недастаткова нават «вучэнне» аб «самадаўлеючай цэласнасці» ці «глыбіннай асобе», калі гэта вучэнне фармулюецца занадта агульна. Гэта мракабесся ў біялогіі з'яўляецца найбольш адпавядаючай тэарэтычнай асновай для фашысцкага мракабесся ў палітыцы. Трэба падкрэсліць, што нямала папрацавалі над ідэалагічнай падрыхтоўкай фашызма такія дзеячы біялогіі і псіхалогіі, як, напрыклад, Крауз—аўтар вучэння аб «глыбіннай асобе», Фрэйд—аўтар вучэння аб «яно» (сукупнасць несвядомых цягненняў), Бергсон—аўтар вучэння аб «жыццёвым парыве», хоць-бы яны і не выказваліся проста на карысць прымата расы і ў апраўданне расавай ненавісці.

Аднак, фашызму—гэтай форме адкрытай дыктатуры буржуазіі ў перыяд надыходзячай пагібелі капіталізма—патрэбна ад біёлага нечага большага. Фашызм патрабуе ад біялогіі не двухсэнсага

апраўдання расавай тэорыі, «навуковых», «біялагічна-фундыраваных» аргументаў супроць вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, якое з'яўляецца адзіна навуковым, усеперамагаючым, авалодваючым усё больш не толькі самымі шырокімі масамі пролетарыята, але і перадавымі коламі навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі Захада. І калі ў ліку праследуемых фашызмам аказаліся нават і пералічаныя вышэй віталісты і іх паслядоўнікі, то гэта адбываецца не толькі ў сілу «неарыйскага паходжання» ці палітычнай «нядобранамернасці» некаторых з іх, але галоўным чынам у сілу адзначанай вышэй і нездавальняючай фашызм недагаворанасці іх тэорый, ліберальнай іх непаслядоўнасці (з фашысцкага пункту погляду)

Не патрэбна ніякай асобай пранікліваоці, каб бачыць, як **непасрэдна звязаны прыведзеныя вышэй псіха-біялагічныя практыкаванні Клягеса і яму падобных віталістаў з практыкаваннямі фашыстаў на соцыяльна-палітычныя тэмы.** Вось перад намі артыкул нейкага Фіргуса ў баявым расісцкім органе фашызма (Volk und Rasse). Аўтар абураны думкаю раду сваіх калег з нефашысцкага лагера аб тым, што рас ў чыстай форме зараз няма. Ён патрабуе безагаворачнага прызнання тэзіса: «народы знікаюць, расы застаюцца». Не-фашысцкія гісторыкі не ў стане зразумець гэтай ісціны, бо гісторыя для іх— толькі гісторыя духа, тым часам як толькі пры разуменні душы можна ўхапіць асноўны змест гісторыі—расы і расавую барацьбу. Роўным чынам аказалася, моў, бяссільнай і нефашысцкая біялогія. Яна хоць і занялася праблемаю расы, але не падышла да яе цэласна, разглядала паасобныя цялесныя і псіхалагічныя ўласцівасці, але не здолела пранікнуць у душу расы—гэту аснову яе цэласнасці. Трэба, моў, перабудаваць як грамадскія навукі, так і біялагічныя, іх асноўнай установкаю павінна быць вывучэнне расы як цэлага, пранікненне ў пачуцці, звязаныя з прыналежнасцю да расы.

Няма чаго гаварыць, што і астатнія артыкулы таго-ж часопіса прысвечаны «довадам» перавагі паўночна-германскай расы над усімі іншымі, заклікам ачысціць Германію ад прадстаўнікоў іншых рас, адабрэннем варварскага закона аб стэрылізацыі, плана арганізацыі так званай расавай гігіены і высвятлення ўсіх іншых відаў гігіены, нібы ствараючых культ хваробы і слабасці і—ужо вядома!—зніжаючых поўнацэннасць усё той-жа паўночнай расы.

Фашысцкая рэакцыя кроўна зацікаўлена ў ідэалістычным скажэнні біялогіі і часам дае на гэты конт простыя дырэктывы біёлагам. Трэба сказаць, што гэтыя дырэктывы маюць пэўны эфект, які грунтуецца не толькі на махровай буржуазнасці некаторай часткі біёлагаў, але і на прымяненні цяжкіх рэпрэсій да вучоных, а таксама на даўленні, якое аказвае на іх буржуазная грамадская думка. На вокладцы нумароў адзначанага часопіса вы знойдзеце характэрнае рэкламаванне кніг вядомага нямецкага біёлага Ленца і настолькі-ж вядомага псіхіятра Рудзіна (Rüdin), спецыяльна напісаных па заказу міністэрства дзяржаўнай прапаганды для патрэб атрадаў штурмавікоў, «Стальнога шлёма», навучальных устаноў і інш.

Арыентоўка сучасных віталістаў на праблему цэласнасці выцякае, значыць, не толькі з крызіса буржуазнай біялогіі, але з прамога соцыяльна-палітычнага ўздзеяння на іх фашысцкай дыктатуры. Буржуазія на даным этапе культывуе ідэю цэласнасці ў яе віталістычнай трактоўцы па многіх прычынах.

**Гэта ідэя заклікана гасіць класавую свядомасць працоўных, аслабляць класавую барацьбу супроць эксплаататараў у інтарэсах «цэлас-**

**най» буржуазнай бацькаўшчыны. Развітая ў адзначаным вышэй кірунку, яна павінна садзейнічаць распальванню нацыянальнай і расавай розні, падрыхтоўцы новага туру імперыялістычных войн і асабліва нападу на СССР—краіну дыктатуры пролетарыята.** Настолькі-ж ясна, з другога боку, што звязаная з адмаўленнем значымасці пазнаючага розуму ідэя цэласнасці заклікана даць «біялагічнае абгрунтаванне» філасофскаму ідэалізму—гэтай галоўнай форме ідэалагічнай рэакцыі на навуковым фронце ў буржуазных краінах, а разам з тым і папоўшчыне.

Такім чынам, перад намі выступаюць яшчэ дзве рысы сучаснага віталізма ў біялогіі: зрастанне яго з рэакцыйнымі соцыяльна-палітычнымі дактрынамі, асабліва з расізмам, і, з другога боку,—**прамая,** а не толькі ўскосная, сувязь яго з рэакцыйнай палітычнай практыкай буржуазіі. Гэта апошняя рыса, ўласцівая і іншым відам ідэалізма на фронце буржуазнай навукі, асабліва характэрна для цяперашняй стадыі крызіса буржуазнага прыродазнаўства,—стадыі, якая супадае з перыядам асобага абвострання класавай барацьбы, няўхільнага ўздыму сусветнага рэволюцыйнага руху, найвялікшых поспехаў соцыялізма ў СССР.

Трэба сюды яшчэ дадаць, што фашызм знаходзіць сабе памочнікаў не толькі ў першую чаргу сярод віталістаў, але і сярод буржуазных прыродазнаўцаў матэрыялістаў. Некаторыя з іх са скуры лезуць, прыстасоўваючы даныя сучаснай генетыкі і эволюцыйнай тэорыі Дарвіна да палітычнага попыту фашызма.

Так, шаноўны дарвініст Платэ яшчэ ў 1925 г. пісаў: «Неабходна паказаць моладзі, што верна не дэмакратычнае вучэнне, аб прынцыповай роўнасці, як прапаведвае народам на тысячу ладоў яўрэйства, але арыстакратычны прынцып, па якому маюць права выжываць найбольш дзельныя». І далей: «Рэлігія—найвялікшае дабро, якое павінна быць захавана для нашага народу, стаўшага негадзяем, дзякуючы рэволюцыі» (Платэ мае на ўвазе рэволюцыю 1918 г. у Германіі—**І. С.**).

Нараджэнне і рост рознастайных форм ідэалізма ў біялогіі ёсць не толькі паказчык крызіса гэтай навукі ў буржуазных краінах, але і сур'ёзнейшы тормаз развіцця самой біялогіі. Побач з гэтым тормазам ёсць і другі, яшчэ мацнейшы: закрыццё раду біялагічных і медычных інстытутаў, пазбаўленне работы многіх біёлагаў і ўрачоў як у рэзультаце нябачанага эканамічнага крызіса ў капіталістычных краінах, так і ў рэзультаце дзікіх ганенняў фашызма на навуку. Вядомая «Карычневая кніга» дае багатыя ілюстрацыі гэтых ганенняў, якія ўсё больш узмацняюцца. Гэта не значыць, вядома, што буржуазная біялогія перастала даваць каштоўныя адкрыцці. Больш таго, уся гісторыя крызіса біялогіі нязменна, дае ўсё новыя пацверджанні выключнай правільнасці ленінскага аналіза крызіса прыродазнаўства, згодна якому (аналізу) сам гэты крызіс нараджаецца, як адной са сваіх важнейшых прадпасылак, безупынным ростам навуковых адкрыццяў. З другога боку, лагер прыродазнаўча-навуковага матэрыялізма буржуазнай біялогіі зусім не з'яўляецца разбураным. Праўда, частка біёлагаў-матэрыялістаў схільна да значных хістанняў як палітычных, так і ідэалагічных, тым сур'ёзнейшых, што ў сучасны момант, больш як калі-небудзь, стыхійны прыродазнаўча-навуковы матэрыялізм праяўляе сваю тэарэтычную недастатковасць, больш як калі-небудзь прыродазнаўца павінен аўладаць матэрыялістычнай дыялектыкай. Частка гэтых буржуазных біёлагаў або пераходзіць на бок фашызма, або актыўна зусім не выступае, будучы ім

тэрарызаванай. Але ніяк нельга закрываць вочы на тое, што, з аднаго боку, абвастранне класавай барацьбы, якое суправаджаецца палітычнай дыферэнцыяцыяй прыродазнаўцаў, а з другога боку, уплыў гіганцкіх поспехаў (у тым ліку і навуковых) Совецкага саюза прыводзіць рад біёлагаў і медыкаў непасрэдна да светапогляду рэволюцыйнага пролетарыята, штурхае на аўладанне тэорыяй Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Найбольш буйнымі з іх з'яўляюцца, напрыклад, біёлагі Меллер і Шаксель і псіхолаг Ляі. Не ўлічваць усяго гэтага складанага пераплёту, не шукаць і не бачыць нашых саюзнікаў і рэзерваў і ў стане ворагаў было-б буйнай антыленінскай памылкай.

Ленінскі аналіз крызіса прыродазнаўства змяшчае ў сабе ў якасці сваёй неад'емнай часткі таксама і аналіз расстаноўкі сіл у лагеры сучаснай буржуазнай навукі, указанні аб стратэгіі і тактыцы пролетарыята на фронце тэорыі. Уся далейшая, следам за з'яўленнем кнігі «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм», гісторыя класавай барацьбы ў навуцы аказалася суцэльным трыумфам ленінскага вучэння, ленінскіх прагнозаў. Гэты факт мае агромнае значэнне для разумення працэсаў, што адбываюцца цяпер у навуцы буржуазіі, але і для ацэнкі развіцця навукі ў СССР, для большэвіцкай барацьбы за правільныя шляхі яе развіцця.

* * *

У задачу гэтага артыкула не ўваходзіць спецыяльны аналіз совецкай біялогіі і медыцыны. Аднак, нельга не падкрэсліць наяўнасць прынцыповага кантраста паміж нашай і буржуазнай біялогіяй. Вядомыя цяжкасці, з якімі сустракаецца ў працэсе свайго росту совецкая біялогія, не маюць ні па сваіх размерах, ні па сваёй прыродзе нічога агульнага з найглыбейшым крызісам буржуазнай біялогіі і медыцыны. Адны з іх звязаны з кароткатэрміновымі затрымкамі ў справе большэвіцкага аўладання тэхнікай біялагічнага даследвання ў новых галінах, другія—з хутка выкрываемымі пад кіраўніцтвам ленінскай партыі спробамі рэвізіі марксізма-ленінізма на фронце прыродазнаўства. Ва ўмовах бурнага росту соцыялізма, пры наяўнасці той агромнай і планамернай садзейнасці, якую пролетарыят Совецкага саюза, кроўна зацікаўлены ў неабмежаваным росквіце прыродазнаўства, аказвае нашай біялагічнай навуцы, указаныя цяжкасці самі па сабе тояць умовы для іх перасілення і, будучы пераможаны, прыводзяць біялогію на вышэйшую ступень развіцця.

Дзякуючы тым-жа ўмовам, асноўным у характарыстыцы развіцця нашай біялогіі і медыцыны з'яўляюцца не гэтыя цяжкасці, а нашы поспехі, якія няўхільна растуць з кожным днём. Ужо ў галіне адной толькі фізіялогіі мы маем рад буйнейшых дасягненняў. Сюды адносяцца работы І. П. Паўлава і яго школы па ўмоўных рэфлексах. Гэтыя работы маюць вялікае значэнне для ўсё большага паглыблення ў пытанне аб матэрыяльным субстраце псіхічных працэсаў, а значыць і для нашых перамог на адным з важнейшых участкаў барацьбы з ідэалізмам у біялогіі; работы Ўхтомскага і раду іншых ленінградскіх фізіёлогаў па нэўрадынаміцы, усё глыбей ускрываючыя адзінства здаваўшыхся раней зусім рознымі відаў нэрвовага працэса, і сувязь іх з біяхімічнымі і біяэлектрычнымі працэсамі ў нэрвовай ткані. Зроблены буйныя крокі ў справе высвятлення ўнутрытканевага абмену матэрый, ролі ферментаў у гэтым абмене (акадэмік Бах), рознай інтэнсіўнасці яго ў розных тканях, прычым у гэтых адносінах выявіліся вельмі важныя адрозненні ў розных марфалагічных структурах нават аднаго і таго-ж органа, напрыклад, галаўнога мозга, у якім белая

і шэрая матэрыя паказвае розны каэфіцыент спажывання цукру харчовага асяроддзя (Крантоўскі, вельмі ўдасканаліўшы методыку штучнай культуры ткані). Е. С. Лондан і яго школа дабіліся шляхам вельмі тонкай эксперыментальнай методыкі магчымасці вывучаць абмен матэрый, дэталі асіміляцыі і дысіміляцыі ў розных унутраных органах, амаль не парушаючы нармальнай жыццядзейнасці жывёлы. Вялікія поспехі зроблены ў галіне эндакрыналогіі, асабліва па пытанню аб уплыве гармонаў на формаўтварэнне (М. Завадоўскі), а таксама на функцыі розных унутраных органаў (В. Я. Данілеўскі). Гэтыя работы не толькі маюць вялікае практычнае значэнне (у галіне жывёлагадоўлі і медыцыны), але і прынцыповае тэарэтычнае, паколькі датычаць узаемнай сувязі паміж функцыяй і формай. Да той-жа праблемы, але з другога боку, падышлі Лаўрэнцьеў, Немілаў, Леантовіч, выявіўшыя мноства каштоўных фактаў па пытанню аб своеасаблівасці біяхімічных і біяфізічных працэсаў у залежнасці ад найтанчэйшай структуры тканей, і тым самым пасунуўшыя ўперад распрацоўку асобнай галіны фізіялогіі—гістафізіялогіі. Поспехі ў справе распрацоўкі гэтай галіны прыводзяць да абагуленняў, надзвычай важных для канкрэтызацыі матэрыялістычнай дыялектыкі ў галіне фізіялогіі.

«Ні адзін фізіка-хімічны працэс у арганізме ў рэчаіснасці неаддзельны ад гістарычна склаўшайся дынамічнай архітэктуры жывога субстрата, на якім ён разыгрываецца і якім вызначаецца ў сваёй плыні, тады як сама гэта архітэктура, з пункту погляду фізічнай хіміі, прадстаўляецца выпадковасцю, адною з мноства аднолькавых магчымасцей. Каб матываваць яе, гэту архітэктуру такой, якой яна фактычна ёсць, прыходзіцца спасылацца на перажытую ёю гісторыю, на ўплыў яе своеасаблівых лёсаў у мінулым».

Гэтыя словы належаць Ухтомскаму—аднаму з буйнейшых прадстаўнікоў старога пакалення фізіёлагаў. Тыя самыя даныя, якія на Захадзе прыводзяць да хістанняў у лагеры прыродазнаўча-навуковага матэрыялізма і да фальшывага ў самой сваёй аснове ажыўлення сярод віталістаў, становяцца ў нашых совецкіх умовах базай сапраўды навуковых тэарэтычных вывадаў і ўздыму даследвання на вышэйшую ступень.

Гаворачы аб работах Паўлава і большасці адзначаных вышэй вучоных, трэба строга адрозніваць аб'ектыўнае развіццё біялогіі, якое дае ўсё больш багаты матар'ял для дыялектыка-матэрыялістычных абагуленняў, ад суб'ектыўных поглядаў нашых біёлагаў, фізіёлагаў і інш. Некрытычнае ўсваенне «апошніх навінак» буржуазнай біялогіі, механістычнае вытлумачэнне імі сваіх уласных адкрыццяў яшчэ вельмі часты ў іх работах. Апошняе вельмі характэрна і для паўлаўскай школы.

Спадчына буржуазнай ідэалогіі далёка яшчэ не зжыта ў нас да канца. Аднак, самае істотнае ў тым, што працэс гэтага зжывання ідзе ў нас хуткімі тэмпамі, што імкненне аўладаць дыялектычным матэрыялізмам, перабудаваць на яго аснове сваю галіну навукі, дабіцца значных поспехаў у гэтым напрамку характарызуе асноўную масу навуковых работнікаў совецкага прыродазнаўства, у прыватнасці біялогіі. Тут менш за ўсё можна разлічваць на самацёк; тут, як і на ўсіх іншых участках соцбудаўніцтва, і часткі яго—культурнай рэвалюцыі—адбываецца абвостраная класавая барацьба. Класавы вораг

не кінуў аказваць уплыў на савецкіх прыродазнаўцаў і прытым найчасцей у формах ўтончаных, спецыяльна прыстасаваных да ўмоў савецкай рэчаіснасці.

Справа класавага ворага безнадзейна праіграна на ідэалагічным фронце, як і на ўсіх іншых фронтах. Аднак, важнейшай умовай праvалу класава-варожых разлікаў з'яўляецца сістэматычная дапамога масе прыродазнаўцаў з боку прыродазнаўцаў-марксістаў, непрымірымая барацьба з усімі спробамі рэвізаваць марксізм-ленінізм, барацьба на фронце тэорыі з механіцызмам, як з галоўнай небяспекай, і з меншавіцтвуючым ідэалізмам. Што гэта барацьба ў вышэйшай ступені актуальна і зараз—паказвае, напрыклад, выступленне механіста-прыродазнаўца т. Ціміразева (гл. час. «Под знаменем марксизма» № 5 за 1933 г.). Роўным чынам меншавіцтвуючы ідэалізм таксама яшчэ не разброіўся. Так, у нядаўна вышаўшым другім выданні сваёй кнігі «Витализм и марксизм» т. Атол праяўляе па-ранейшаму ліберальна некрытычныя адносіны да гештальт-тэорыі, не выкрывае рэакцыйнага боку работ Вейсмана, ды і наогул пакідае па сутнасці нязменным ранейшы меншавіцтвуюча-ідэалістычны характар кнігі (наперакор сваім славесна-дэкларацыйным заявам у прадмове).

Усе адзначаныя вышэй работы шырока вядомы за межамі СССР так сама як і многія іншыя, на якіх мы тут не маем магчымасці спыніцца (напрыклад, рад выдатных работ па мікрабіялогіі і імунабіялогіі, работы Вавілава па генетыцы зерневых культур, Лысенка па яравізацыі пшаніцы, Мічурына па вывядзенню новых пладовых гатункаў і т. д.). Большэвіцкі лозунг «дагнаць і перагнаць» на нашых вачах ператвараецца ў канкрэтныя дасягненні навуковай практыкі савецкіх біёлагаў і медыкаў і прытым з не меншым поспехам, чым у іншых галінах савецкага прыродазнаўства.

Як ні вялікі пералічаныя дасягненні, але неўзабаве яны акажуцца далёка перавышанымі ў працэсе таго магутнага паскорання, якое ўжо зараз з кожным днём набывае савецкая біялогія. Перспектывы, што разгортваюцца перад ёю, сапраўды неабсяжны. Зусім выключныя, нямыслімыя ні ў якой буржуазнай краіне клопаты органаў пролетарскай дзяржавы аб развіцці прыродазнаўства, што знашло ў прыватнасці сваё выражэнне ў нядаўнай гістарычнай пастанове СНК СССР аб стварэнні Ўсесаюзнага інстытута эксперыментальнай медыцыны; усё больш цесная сувязь прыродазнаўства (і біялогіі ў тым ліку) з практыкай разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва, з бурным ростам прадукцыйных сіл у горадзе і вёсцы, з ператварэннем, на аснове перамогі ленінскай нацыянальнай палітыкі, раней адсталых акраін у перадавыя рэспублікі Савецкага саюза; магутны працэс стварэння кадраў пролетарскай інтэлігенцыі ва ўсіх галінах прыродазнаўства; планавы характар развіцця савецкай навукі; магчымая па-сапраўднаму толькі ў нас перабудова прыродазнаўства на аснове самай перадавой, самай навуковай тэорыі дыялектычнага матэрыялізма і самае галоўнае—кіраўніцтва развіццём нашай навукі, як неад'емным фактарам усяго нашага руху па соцыялістычным шляху, з боку вышэйшага тэарэтычнага і палітычнага цэнтра Савецкай краіны—ЦК ленінскай партыі на чале з т. Сталіным, прадаўжаючым і развіваючым далей усе галіны марксізма-ленінізма,—вось моцныя асновы таго нябачанага росквіту прыродазнаўства, які пачаўся ўжо ў нашай краіне.

Так абстаіць справа пры параўнанні становішча прыродазнаўства і біялогіі «у іх і ў нас». Гэта супастаўленне дэманструе лішні раз перамогу ленінскага аналіза буржуазнага прыродазнаўства, перамогу ленінізма ў цэлым. Рухаць далей уперад справу Леніна—Сталіна на ўчастку прыродазнаўства—значыць, так сама як і на ўсіх іншых участках соцбудаўніцтва, сканцэнтраваць увагу на яшчэ нявырашаных задачах узмацніць барацьбу за чыстату марксізма-ленінізма ў галіне прыродазнаўства, адбіваць з ленінскай непрымірымасцю ўсе спробы буржуазнага ўплыву на нашу навуку, усе спробы рэвізаваць і вульгарызаваць вучэнне Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

Філасофскія работы Леніна маюць зусім выключнае значэнне для далейшага развіцця прыродазнаўства. Ленін не толькі ўскрыў палітычныя і метадалагічныя карэнні крызіса буржуазнага прыродазнаўства, не толькі вызначыў палітычныя і метадалагічныя прадпасылкі пераадолення гэтага крызіса (і рэалізаваў іх, кіруючы пераможнай барацьбою пролетарыята), але і даў прыродазнаўству рад важнейшых указанняў па сутнасці асноўных яго праблем. Паглыбленая распрацоўка ленінскай спадчыны, прымяненне ленінізма ў штодзеннай навукова-даследчай і навукова-арганізацыйнай рабоце з'яўляецца карэннай умовай поспеху пачаўшайся вялікай рэканструкцыі прыродазнаўства і біялогіі ў тым ліку.

# РАШЭННІ XVII ПАРТЗ'ЕЗДА—У МАСЫ

*КУТОК ПРАПАГАНДЫСТА*

## Ператворым чыгуначны транспарт ва ўзорную галіну народнай гаспадаркі[1]

Тав. Сталін у дакладзе на з'ездзе даў рабоце транспарта суровую ацэнку. Ён сказаў, што

> **«транспарт з'яўляецца тым вузкім месцам, аб якое можа спатыкнуцца, ды бадай, ужо пачынае спатыкацца ўся наша эканоміка і, перш за ўсё, наш тавараразварот».**

Праўда, за ўсе гэтыя гады наш транспарт не стаяў на месцы. Даволі прывесці некалькі лічбаў, каб бачыць значныя поспехі, якіх наша краіна дабілася ў гэтай галіне народнай гаспадаркі. Возьмем грузавыя перавозкі. У 1928 г. перавозкі грузаў склалі 93,4 мільярда тона-кілометраў. Гэта было ў год напярэдадні першай пяцігодкі. А ў 1932 г., які быў заключным годам першай пяцігодкі, перавозкі грузаў выраслі да 169,3 мільярда тона-кіломэтраў. Калі-ж узяць пасажырскія перавозкі, то малюнак атрымаем яшчэ больш яркі. У 1928 г. чыгункі перавезлі 291 мільён чалавек, а ў 1932 г. лік перавезеных пасажыраў дасягнуў 966 мільёнаў чалавек.

Не гледзячы на надта цяжкую разруху, якую перажыў наш транспарт за час імперыялістычнай і грамадзянскай вайны, совецкая ўлада здолела даволі хутка аднавіць яго і значна ўзняць ў параўнанні з даваенным узроўнем. К канцу першай пяцігодкі перавозка грузаў па чыгунках у параўнанні з 1913 г. вырасла ўдвая, а перавозка пасажыраў у пяць раз.

Не гледзячы на ўсё гэта, транспарт з'яўляецца адсталай галіною народнай гаспадаркі. Яго развіццё рэзка адстае ад развіцця іншых галін. К таму-ж у апошні час з поўнай відавочнасцю выявіліся буйнейшыя недахопы ў кіраўніцтве транспартам, у арганізацыі ўсёй яго работы. Гэтыя недахопы прывялі к таму, што тэмп росту перавозак рэзка зменшыўся, не гледзячы на тое, што наяўная тэхнічная база дае поўную магчымасць рашуча павялічыць грузавы і пасажырскі абарот. Асабліва неспрыяючыя рэзультаты ў гэтых адносінах даў 1933 г. Грузавыя перавозкі ў гэтым годзе не павялічыліся і засталіся на ўзроўні мінулага года.

Гэта прымусіла партыю ва ўвесь рост паставіць праблему транспарта. Яна ўшчыльную занялася пытаннямі кіраўніцтва на транспарце, каб можна было поўнасцю і цалкам выкарыстаць яго тэхнічныя магчымасці.

За гады першай пяцігодкі на чыгунках была праведзена вялікая тэхнічная рэканструкцыя, моцна змяніўшая іх твар.

---

1) Перапрацаваная радыёлекцыя.

Возьмем працяглась чыгуначных ліній. У 1913 г. эксплаатацыйная даўжыня чыгуначных ліній складала 58,5 тысяч кілометраў. К канцу першай пяцігодкі яна разраслася да 83,4 тыс. кілометраў. Мы пабудавалі цэлы рад новых буйнейшых ліній. Турксіб перасек абшырныя стэпы і пясчаныя выспы на адлегласці 1.500 кілометраў і злучыў Сярэднюю Азію з Сібірам. Новы шлях Нова-Сібірск—Ленінск узмацніў доступы к магутным залежам кузбаскага вугалю. Апрача пабудовы новых чыгунак, праведзена вялікая работа па ўзмацненню прапускной здольнасці старых шляхам пракладкі другіх ліній і пашырэння станцый, асабліва на Урале, у Сібіру, у Данбасе і Крывым Розе.

Другая пяцігодка дасць яшчэ больш магутны разварот будаўніцтву новых шляхоў. Заканчваюцца работы па пракладцы магістралі Масква—Данбас на адлегласці 1.200 кілометраў. Гэтая магістраль будзе харчаваць краіну данецкім вугалем. Шырокім фронтам разгорнуты работы па будаўніцтву Байкала-Амурскай магістралі, якая з'явіцца гордасцю другой пяцігодкі. Будзе пабудован таксама рад іншых ліній. У тым ліку Караганда—Балхаш, якая адкрые доступ к багацейшым месцанараджэнням медзі на Балхашскім узбярэжжы.

У першай пяцігодцы праароблена значная работа па механізацыі чыгуначнага транспарта. Асабліва шырокі размах яна набывае ў другой пяцігодцы. Возьмем такую справу, як аўтаблакіроўка. Сутнасць аўтаблакіроўкі, у грубых рысах, заключаецца ў тым, што уздоўж чыгуначнай лініі на невялікай адлегласці адзін ад другога ўстанаўляюцца электрычныя светлафоры. Электрычныя правады, харчуючыя токам лампы светлафора, аднача́сова злучаны з рэльсамі такім чынам, што поезд, праходзячы па лініі, аўтаматычна сігналізуе аб сваім следванні. Такая пабудова сігналізацыі дазваляе пускаць па лініі паміж двума станцыямі некалькі паяздоў замест аднаго пры старых спосабах сігналізацыі і сувязі. Увядзенне аўтаблакіроўкі ў шмат раз узмацняе прапускную здольнасць існуючых ліній. Наглядны таму прыклад дае Паўднёвая чыгунка. Да ўвядзення аўтаблакіроўкі на падмаскоўным участку гэтай дарогі за суткі прапускалася 80 пар паяздоў. Пасля ўвядзення аўтаблакіроўкі прапускная здольнасць гэтага ўчастка павялічылася да 270 пар паяздоў.

Праўда, к сучаснаму моманту аўтаблакіроўкай у нас абсталяваны яшчэ вельмі невялікія адлегласці, але к канцу другой пяцігодкі гэта справа моцна пасунецца ўперад. Даволі сказаць, што аўтаблакіроўкай будуць абсталяваны такія лініі як Масква—Мінеральныя воды і Свердлоўск—Чыта.

Адным з важнейшых элементаў рэканструкцыі транспарта з'яўляецца ўзмацненне магутнасці паравозаў і ўмацаванне вагоннага парка. За першую пяцігодку чыгункі атрымалі 3 тысячы новых паравозаў магутных серый «Э» (таварны паравоз) і «С У» (пасажырскі паравоз.

Пабудован гіганцкі паравозабудаўнічы завод у Луганску, які выпускае таварныя паравозы «Фелікс Дзержынскі». Паравоз «Ф. Д.» належыць да ліку лепшых паравозаў свету. Ён намнога магутней паравоза «Э», значна дасканалей яго па тэхнічнай будове.

XVII з'езд партыі ў рэзалюцыі аб другім пяцігадовым плане ўказаў, што ў бліжэйшыя гады паравоз «ФД» павінен стаць асноўнай адзінкай паравознага таварнага парка.

У пасажырскім паравозным парку такое-ж месца павінен заняць паравоз «Іосіф Сталін». Першыя экземпляры паравоза «ІС» выпу-

шчаны Каломенскім заводам. Іспыты гэтай машыны паказалі яе вы-датныя якасці, што ставіць яе на ўзровень сусветных дасягненняў.

У другой пяцігодцы апрача Луганскага завода будуць пабудаваны новыя паравозабудаўнічыя гіганты, у прыватнасці Орскі завод, які насыціць наш транспарт магутнымі і хуткімі машынамі.

Што датычыць вагоннага парка, то ў першай пяцігодцы не толькі значна павялічылася колькасць вагонаў, але, што асабліва важна, на нашых дарогах з'явіліся самаразгружаючыяся вагоны, якія іграюць агромную ролю ў палепшанні такіх перавозак як вугаль, кокс, руда. За другую пяцігодку парк таварных вагонаў павялічыцца прынамсі ў паўтара разы. У строй дзеючых прадпрыемстваў уступіць Тагільскі вагонабудаўнічы гігант, які будзе выпускаць вагоны ў масавай колькасці.

60 проц. усяго таварнага парка к канцу другой пяцігодкі будзе абсталявана аўтаматычнаю сцэпкай, якая дазволіць значна павялічыць вагу паяздоў, што палепшыць выкарыстанне паравозаў і павысіць прапускную здольнасць ліній. 100 проц. паравознага і вагоннага парка будзе абсталявана аўтаматычнымі тармазамі, што вельмі важна для бяспечнасці руху і для павелічэння хуткасці паяздоў.

Які трэба зрабіць вывад з усяго гэтага? Перш і раней за ўсё трэба зрабіць той вывад, што партыя і ўрад даюць агромныя сродкі для ўзмацнення тэхнічнай магутнасці транспарта. І ўсё пытанне заключаецца ў тым, што гэтая тэхнічная магутнасць выкарыстоўваецца недастаткова. Асваенне транспартнай тэхнікі ідзе вельмі марудна. Кіраўнікі і радавыя работнікі транспарта не здолелі правільна арганізаваць работу чыгунак. Не гледзячы на свае агромныя магчымасці, транспарт рэзка адстае ад патрабаванняў народнай гаспадаркі. Вось чаму праблема транспарта стала адной з самых вострых, цэнтральных праблем соцыялістычнага будаўніцтва.

У ліпені 1933 г. былі апублікаваны пастановы Совета Народных Камісараў і Цэнтральнага Камітэта ВКП(б), у якіх былі ускрыты прычыны адставання транспарта і ўказаны шляхі іх перамагання. Пасля гэтых пастаноў на транспарце была праведзена арганізацыйная перабудова. Ліквідавана функцыянальная сістэма пабудовы чыгуначнага апарата, якая параджала безадказнасць і абязлічку. Значная колькасць спецыялістаў і гаспадарчых работнікаў, аслабаніўшыхся пры рэарганізацыі, пераведзены з упраўленчых канцэлярый на лінію. Створаны палітаддзелы дарог і раёнаў, для якіх партыя адабрала сотні вопытных і праверавых арганізатараў.

Не гледзячы на ўсё гэта, транспарт мала пасунуўся ўперад. Перавозкі хоць і павялічыліся, але дзяржаўны план па-ранейшаму не выконваецца. Аварыі і крушэнні не спыняюцца. Транспарт па-ранейшаму не выкарыстоўвае сваіх магчымасцей.

Тав. Сталін у дакладзе на XVII з'ездзе сказаў, што асноўная прычына, якая перашкаджае транспарту падняцца да ўзроўню перадавых галін, заключаецца ў тым, што органы транспарта дагэтуль хварэюць вядомай хваробай, якая называецца канцэлярска-бюракратычным метадам кіраўніцтва.

У сакавіку гэтага года апублікаваны дзве новыя пастановы СНК і ЦК аб транспарце. Адна з іх—пастанова аб Данецкай дарозе. Другая—аб планаванні перавозак і ўмацаванні мясцовых органаў НКПС. Гэтыя рашэнні і з'яўляюцца канкрэтнай расшыфроўкай пастаноў XVII з'езда партыі. Яны прадстаўляюць сабою новы крок у перабудове транспарта.

СНК і ЦК падкрэсліваюць з усёй рэзкасцю, што кіраўнікі шляхоў і раёнаў, а таксама работнікі НКПС не ведаюць сапраўднага становішча на лініі. Яны па-ранейшаму сядзяць пераважна ў канцэлярыях і не звязаны апаратыўна са станцыямі—гэтымі рашаючымі рычагамі перавозак.

Слабейшым месцам у рабоце чыгуначнага транспарта з'яўляецца планаванне і арганізацыя перавозак. Хаос і неразбярыха ў гэтай справе прыводзяць к таму, што транспартныя сродкі выкарыстоўваюцца вельмі дрэнна. У арганізацыі перавозак чыгуначныя работнікі скрозь і ўсюды кіруюцца не дзяржаўнымі меркаваннямі, а месніцкімі інтарэсамі. Шырокае распаўсюджванне мае ўзятка. Пад выглядам усемагчымых узнагарод за кансультацыю і таму падобнае, розныя мясцовыя арганізацыі даюць агентам чыгункі ўзяткі, прымушаючы іх парушаць дзяржаўны план. У шырокім размеры практыкуюцца перавозкі другарадных грузаў ва ўшчэрб перавозкам грузаў дзяржаўнага значэння.

Асноўны недахоп планавання перавозак заключаўся ў тым, што кіраўнікі чыгунак не ўдзельнічалі ў гэтай рабоце. Планаваннем займаліся розныя спецыяльныя і міжведамственыя органы, не меўшыя нічога супольнага з апературыўнай работай транспарта. Умяшанне гэтых бюракратычных арганізацый у работу чыгуначных раёнаў і станцый параджала безадказнасць работнікаў транспарта за выкананне плана. Абязлічка і блытаніна павялічылася яшчэ больш—да таго, што шматлікія плануючыя арганізацыі скрозь і ўсюды давалі супярэчлівыя ўказанні. У рэзультаце дарогі працавалі па сутнасці справы без усякага плана.

СНК і ЦК рашылі карэнным чынам змяніць гэтую бюракратычную сістэму. Усе спецыялісты і міжведамственыя арганізацыі па планаванню перавозак ліквідаваны. Складанне планаў перавозак цяпер ускладзена на НКПС і на начальнікаў чыгунак. Прадстаўнікі ведамстваў прыцягваюцца да гэтай работы на дарадчых правах. Такім чынам планаванне перавозак арганічна злучаецца з апературыўнай работай транспарта. Уся паўната адказнасці за складанне планаў і за іх выкананне кладзецца на работнікаў чыгункі.

Але складанне плана—гэта, як вядома, толькі пачатак справы. Нават ідэальна складзены план патрабуе, каб правільна было арганізавана выкананне яго. Інакш ён застаецца пустой і непатрэбнай паперкай. Лёс плана перавозак вырашаецца на станцыі. Але станцыя выпала з поля зроку кіруючых работнікаў транспарта. Ліпеньскія дырэктывы партыі і ўрада патрабавалі пераўтварыць станцыю ў аўтарытэтную і адказную арганізацыю, а яе начальніка—у поўнапраўнага камандзіра, які меў-бы магчымасць як след кіраваць работай і адказваць за яе ў поўнай меры.

Гэтыя дырэктывы не былі выкананы. Станцыя да самага апошняга часу знаходзілася ў закінутым стане. Начальнік станцыі не меў усёй паўнаты правоў. Даволі сказаць, што ён не меў права самастойна выдаткаваць некалькі рублёў на самыя неадкладныя патрэбы накшталт закупкі мёцел для ачысткі шляхоў ці шкла для стрэлачных фанароў. На станцыі было некалькі гаспадароў, якія займаліся валакітай і міжсобнай барацьбою замест дзелавой работы.

Пастанова СНК і ЦК кладзе канец гэтаму недапушчальнаму становішчу. Начальніку станцыі падначалены цяпер усе работнікі на тэрыторыі станцыі безадносна к таму, у ведамстве якой службы яны састаяць. Начальнік станцыі атрымаў права адміністрацыйнага спа-

гнання за невыкананне яго распараджэння. Начальніку станцыі прадастаўляюцца грашовыя сродкі пад справаздачу на розныя гаспадарчыя выдаткі. Нарэшце, станцыя атрымлівае цвёрды месячны план работы і пяцідзённы загад-заданне замест старога блытанага планавання. Усё гэта дазваляе начальніку станцыі стаць сапраўдным гаспадаром свайго прадпрыемства і адказваць у поўнай меры за яго работу.

Увага работнікаў станцый і ўсіх чыгуначных работнікаў павінна быць сканцэнтравана на задачах якаснага палепшання работы транспарта. Якія найбольш вострыя і неадкладныя з гэтых задач?

**Першая задача**—найлепшае выкарыстанне паравозаў і вагонаў. Рухомы склад транспарта выкарыстоўваецца ў нас дрэнна. Вагоны гадзінамі і суткамі прастойваюць на станцыях. Сярэдні абарот аднаго вагона складае 8 сутак. Але з гэтых 8 сутак 5 сутак ён стаіць на станцыях і толькі 3 сутак знаходзіцца ў дарозе. Бясконцыя затрымкі прыводзяць да каласальных прастояў, якіх зусім можна ўнікнуць пры правільнай арганізацыі справы. Паасобныя станцыі даказалі гэта на вопыце сваёй работы.

Прыкладам можа служыць станцыя Хоўрыно, Окцябрскай дарогі. Некаторы час таму назад гэтая станцыя нічым не адрознівалася ад іншых. Прастой вагонаў на яе шляхах быў такім-жа як і ўсюды. Але за апошняе паўгоддзе малюнак рэзка змяніўся. Кіраўнікі станцыі Хоўрыно дабіліся рэзкага скарачэння прастояў. Гэтага яны дабіліся галоўным чынам тым, што рашуча палепшылі сартыровачную работу. Раней сартыроўка праводзілася ўсляпую ,без усякага папярэдняга ўліку падыходзячых да станцыі паяздоў. Цяпер станцыя Хоўрыно атрымлівае поўную характарыстыку кожнага поезда задоўга да таго, як ён паступіць на станцыю. Гэта дае магчымасць праводзіць сартыроўку паяздоў не ўсляпую, а па цвёрдаму, загадзя складзенаму плану. Кожная станцыя павінна, апіраючыся на гэты вопыт, пераглядзець і перабудаваць сваю работу. На кожнай станцыі, на кожнай чыгунцы ёсць агромныя ўнутраныя магчымасці, скарыстанне якіх можа даць агромныя рэзультаты.

Вазьміце маршрутызацыю, якая пры шырокім яе развіцці можа забяспечыць рэзкае паскоранне абароту вагонаў. Тым часам, на маршрутызацыю перавозак у нас не звяртаецца належнай увагі. Маршрутызацыя пастаўлена агідна нават на такіх дарогах як Данецкая, якая адпраўляе масавыя грузы ў далёкія напрамкі і ў адносінах маршрутызацыі мае найбольшыя магчымасці.

Або вазьміце парожні прабег вагонаў, які з'ядае агромную частку вагоннага парка. З Окцябрскай дарогі, напрыклад, штодзенна адпраўляюцца ў Данбас за вугалем сотні і тысячы пустых вагонаў, не гледзячы на тое, што на станцыях Окцябрскай дарогі ляжыць мацавальны лес для шахт, у якім Данбас адчувае вострую патрэбу.

**Другая задача**—барацьба за дакладнае выкананне рэгулёвачных заданняў. Нармальная работа чыгунак магчыма толькі пры той умове, калі будзе наладжана нармальнае абарачэнне рухомага складу па ўсёй сеці. Невыкананне рэгулёвачных загадаў НКПС у міждарожным абмене вагонаў прыводзіць к таму, што важнейшыя магістралі краіны вельмі часта застаюцца з мізерным лікам вагонаў, тым часам як другарадныя магістралі трымаюць вялікія лішкі.

З парушэннямі рэгулёвачнай дысцыпліны неабходна змагацца самым рашучым чынам як з дэзарганізацыяй транспарта. СНК і ЦК у пастанове ад 23 сакавіка папярэдзілі работнікаў транспарта, што

невыкананне заданняў па звароту і перадачы вагонаў на другія дарогі будзе разглядацца як злачынства супроць дзяржавы, цягнучае за сабою крымінальную кару.

**Трэцяя задача**—барацьба з аварыямі і крушэннямі. Аварыі і крушэнні з'яўляюцца бічом транспарта. Яны наносяць вялікую страту і дэзарганізуюць работу чыгунак.

Аналіз матар'ялаў, апісваючых аварыі і крушэнні, паказвае, што яны, як правіла, з'яўляюцца рэзультатам грубага парушэння элементарных правіл руху. Надзвычай яркі таму прыклад—нядаўняе крушэнне на станцыі «Фрэзер» Казанскай дарогі. Сутычка двух цягнікоў на гэтай станцыі прывяла к пагібелі 19 чал. Прычынай крушэння было тое, што машыніст Федзюнін вёў цягнік, груба ігнаруючы правілы руху, не звяртаючы ўвагі на трывожныя сігналы і выключыўшы паравозны тормаз. У рэзультаце ён наляцеў на цягнік і разбіў два саставы, не гледзячы на тое, што пры чэсных і ўважлівых адносінах да справы, папярэдзіць катастрофу было зусім не цяжка. Крайняя расхістанасць дысцыпліны на транспарце з'яўляецца галоўнай прычынай аварый і крушэнняў. Змагацца з аварыямі і крушэннямі на транспарце—гэта значыць змагацца за дысцыпліну.

**Чацвертая задача**—умацаванне дысцыпліны, барацьба з разгільдзяямі, класава-чуждымі элементамі—з'яўляецца цэнтральнай у аздараўленні транспарта. У пастанове СНК і ЦК партыі ад 23 сакавіка сказана:

> **«Аднаўленне і ўмацаванне дысцыпліны на транспарце як «унізе», так і «уверсе» з'яўляецца тым асноўным звяном, з дапамогай якога толькі і можна паставіць на ногі наш чыгуначны транспарт».**

Гэтая дырэктыва абавязвае работнікаў транспарта разгарнуць барацьбу за дысцыпліну з усёй сілай, на якую толькі здольны бальшэвікі.

Агромная, проста-такі рашаючая роля ў стварэнні на транспарце жалезнай, свядомай дысцыпліны належыць **палітаддзелам.**

Партыя стварыла на транспарце палітаддзелы, каб аблегчыць і паскорыць перабудову, зламаць супраціўленне новым метадам работы, узняць масы на барацьбу за работу па-новаму. Аднак, палітаддзелы на транспарце яшчэ не здолелі разгарнуць як след работу і не забяспечылі пералому.

> **«Палітаддзелы і партыйныя арганізацыі,**—сказана ў пастанове СНК і ЦК аб Данецкай дарозе,—**не здолелі арганізаваць ударнікаў, комуністаў, комсамольцаў і беспартыйных актывістаў на актыўную барацьбу са зрываючымі дысцыпліну і выкананне плана перавозак, з разгільдзяямі, прагульшчыкамі, гультаямі, дэзарганізатарамі транспарта і раскрадвальнікамі грамадскай уласнасці».**

Асноўным недахопам у рабоце палітаддзелаў на транспарце з'яўляецца захапленне адміністраваннем за кошт работы па арганізацыі мас. У дакладзе т. Кагановіча на XVII з'ездзе і ў выступленні тав. Варашылава гэты недахоп ускрыт з поўнай нагляднасцю.

> **«Калі знаёмішся з тым,**—гаварыў т. Варашылаў,—**чым займаецца палітаддзельшчык на транспарце, калі чытаеш, як разагнаў адных, паставіў на работу другіх, згуртаваў вагоны,**

**пагнаў паравозы, то робіцца і смешна і сумна. Калі палітаддзелы пераважна будуць падмяняць адзінаначальнікаў, то мы транспарт не толькі не наладзім, а яшчэ мацней развалім».**

Тыповым узорчыкам захаплення адміністрацыйнай работай з'яўляецца, напрыклад, палітаддзел Сімферопальскага раёна, Екацерынінскай чыг. Замест арганізацыйна-партыйнай, масавай работы і жывой штодзеннай дапамогі пярвічным партарганізацыям, гэты палітаддзел заняўся ўзмоцненай фабрыкацыяй загадаў і тэлеграм. Напрыклад, партарганізацыя станцыі Феадосія атрымала за кароткі час 36 загадаў і 140 тэлеграм дырэктыўнага характару, якія прытым не змяшчалі амаль ніякіх канкрэтных указанняў. Работнікі палітаддзела не раз бывалі на станцыі Феадосія, але ні адзін з іх не лічыў сваім абавязкам даведацца, як працуе партарганізацыя станцыі. Яны прагледзелі поўны развал партыйнай работы, заціск самакрытыкі, разлажэнне комсамольскай ячэйкі.

**Палітаддзелы—партыйна палітычныя органы. Іх галоўным абавязкам з'яўляецца арганізацыя мас, кіраўніцтва партыйнай і палітычнай работай.**

Вопыт паказвае, што там, дзе палітаддзелы правільна бяруцца за справу, дзе яны робяць галоўны ўпор на арганізацыйна-масавую работу, там рэзультаты добрыя. Прыкладам можа служыць палітаддзел Маскоўскага раёна, Беларуска-Балтыйскай чыг. Гэты палітаддзел разгарнуў вялікую масавую работу, арганізаваў вакол сябе шматлікі актыў, з дапамогай гэтага актыва і праз яго здолеў ажыццявіць нямала рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў.

Майстэрства арганізацыі мас заключаецца ў тым, каб умець згуртаваць вакол палітаддзела перадавых, найлепшых ударнікаў і, апіраючыся на гэты актыў, павесці за сабою ўсю масу чыгуначнікаў, бязлітасна змагаючыся і выганяючы з транспарта класава-чуждыя элементы, прагульшчыкаў і непаддаючыхся выпраўленню недысцыплінаваных. Многія палітаддзелы прарабілі значную работу па выяўленню лепшых людзей транспарта. Па транспарту пракацілася хваля сталінскага закліку ўдарнікаў. Сотні сапраўдных герояў вытворчасці невядомых учора, сёння сталі знамянітымі. Высунуліся выдатныя арганізатары рабочай масы накшталт грозненскага дыспетчара **Кутафіна,** уральскага змазчыка **Дзядовіка,** маскоўскай праваднічы **Орловай.** Невядомы ўчора машыніст **Томке,** выратаваўшы ад катастрофы сібірскі экспрэс, сёння стаў знамянітым на ўвесь Совецкі саюз. Але ўсё гэта—толькі пачатак справы. Выявіць перадавікоў—гэта толькі самы першы крок у арганізацыі мас. Задача ў тым, каб пры дапамозе перадавікоў арганізаваць на транспарце шырокі ўдарны рух.

Паспяхова вырашыць гэтую задачу палітаддзелы могуць толькі пры ўмове рашучага ўмацавання партыйнай арганізацыі транспарта і перш за ўсё яе нізавога звяна.

Асобая ўвага павінна быць звернута на ўмацаванне партыйных арганізацый на станцыях і ў дэпо.

З мэтай умацавання нізавых партарганізацый транспарта Цэнтральны Камітэт рашыў увесці інстытут партарганізатараў станцый, дэпо і дыстанцыі дарогі. Для работы ў якасці партарганізатараў партыя пасылае на транспарт 2—3 тысячы спецыяльна адабраных таварышоў. Гэтыя новыя сілы, якія пасылаюцца ў дапамогу паліт-

аддзелам, дапамогуць ім у найкарацейшы тэрмін вырашыць задачу арганізацыі мас.

За вырашэнне праблемы транспарта змагаецца ўся партыя, уся краіна. Лепшы ўзор дапамогі транспарту дае сам Цэнтральны Камітэт і правадыр партыі тав. Сталін, які самым блізкім чынам удзельнічае ў распрацоўцы транспартных пытанняў. І гэта—самая моцная гарантыя таго, што наш чыгуначны транспарт у найкарацейшы тэрмін выйдзе ў рады перадавых галін народнай гаспадаркі.

## Літаратура:

1. **Даклад т. Сталіна на XVII з'ездзе.** Раздзел «Таваразварот і транспарт».
2. **Даклад т. Кагановіча на XVII з'ездзе.** Раздзел аб транспарце
3. **Прамова т. Варашылава на XVII з'ездзе.** Раздзел аб транспарце.
4. **Прамовы тт. Андрэева і Палонскага на XVII з'ездзе.**
5. **Пастановы СНК і ЦК партыі аб транспарце** ад 4 чэрвеня—33 г., ад 8 ліпеня—33 г., ад 9 сакавіка—34 г. і ад 23 сакавіка—34 г.
6. **Пастанова ЦК ВКП(б) аб палітаддзелах на чыг. транспарце ад** 10 ліпеня 1933 г.

# Барацьба з адходам цялят

XVII з'езд партыі ўдзяліў выключна вялікую ўвагу пытанням жывёлагадоўлі.

Жывёлагадоўля—гэта зараз найбольш адстаючы ўчастак сельскай гаспадаркі. Гады рэарганізацыі сельскай гаспадаркі, дзякуючы найбольшай насычанасці жывёлагадоўчых галін сельскай гаспадаркі буйна-кулацкімі элементамі, агітацыі кулака за забой жывёлы, прывялі да заняпаду ў параўнанні з даваенным узроўнем стада жывёлагадоўлі.

Партыя ставіць перад сабой агромнай важнасці задачу—падняць на належную вышыню жывёлагадоўлю. «1934 год павінен і можа стаць годам пералому к уздыму ва ўсёй жывёлагадоўчай гаспадарцы» (**Сталін**). Агромнае значэнне ў вырашэнні гэтай задачы мае барацьба з адходам цялят.

## Догляд і кармленне цельнай каровы

Барацьба з адходам маладняка павінна пачынацца яшчэ тады, калі цяля знаходзіцца ва ўтробе маткі. Недакорм кароў дае ў рэзультаце слабых цялят, сярод якіх цяжэй звесці адход да нуля. Цяляты будуць моцныя, калі іх маткі карміліся па нормах, з дастатковым утрыманнем у корме бялкоў і зольных матэрый, а таксама калі каровы мелі магчымасць карыстацца штодзенна прагулкамі на свежым паветры.

На прагулкі ці на вадапой цельных кароў за 2—3 месяцы да ацёлу трэба выпускаць асобна ад усяго стада, бо каровы нярэдка бадаюць адна другую; цельныя каровы могуць пры гэтым паслізнуцца, могуць быць прыціснуты ў даўцы, могуць атрымаць удар у жывот рагамі. Усё гэта можа выклікаць выкідыш.

Яшчэ больш трэба сачыць за тым, каб у корме каровы апошніх месяцаў цельнасці не папаліся кармы пажаваныя, заплеснявелыя. Таксама нельга такім каровам даваць кармы вельмі халодныя, або кіслыя: такія кармы выклікаюць выкідышы. Пажадана, каб сухастойная карова атрымала ў корм частку сена ў выглядзе бабовага сена; каб ёй даваліся у корм каранплоды або сілос, калі быў добры і не надта кіслы. Агульная дача кармоў павінна адпавядаць норме.

У корме цельнай каровы павінна быць дастатковая колькасць мінеральных матэрый. Таму сечку каранеплодаў, сілос, або мешанку моцных кармоў трэба пасыпаць кухоннай соллю з разліку 40 гр. на галаву і тоўчанаю крэйдай у той-жа колькасці.

За 7—10 дзён да чакаемага ацёлу каровы пераводзяцца ў радзільнае аддзяленне. Там ім трэба даваць у корм адно добрае сена і паіць тут-жа ў аборы проста з вядра.

У радзільным аддзяленні каровы застаюцца яшчэ 10 дзён пасля ацёлу. Ацяліўшайся карове даецца з поўвядра цеплаватай вады. Першыя 2—3 дні пасля ацёлу ёй трэба даваць таксама толькі добрае сена. У гэтыя дні можна дадаць да сена троху высевак—½ кг. у першы дзень, 1 кгр. на трэці дзень. З 4-га дня частку сена можна замяніць добрай саломай і пачаць дадаваць да грубых кармоў сакавітыя (караньплоды, сілос, бульбу) і мешанку з моцных кармоў—аўса, вікі, высевак, макухі і т. д. Дачу сакавітых кармоў можна пачынаць з 5 кгр., павялічваючы яе праз тры дні на 5 кгр. і т. д. Дачу моцных кармоў павялічваць, таксама паступова, дадаючы праз 3 дні па ½ кгр. моцнага корму.

Пры такім паступовым павелічэнні дач каровы будуць здаровыя і малако іх будзе прыгодна для корму цялят.

Паступовае павелічэнне корму карове пасля ацёлу працягваецца, пакуль не стане адпавядаць норме, патрэбнай карове паводле яе жывой вагі і ўдою, які яна здольна даваць. Цельных кароў штодня выганяюць на прагулкі на 2—3 гадзіны. Прагулкі спыніць толькі за 2—3 дні да ацёлу і распачаць на 2—3 дзень пасля ацёлу.

## Дапамога пры ацёле і запіс нараджэння цяляці

Калі ацёл каровы зацягнуўся і праходзіць ненармальна, трэба звярнуцца да ветэрынара ці да свядомага ў акушорскай справе заатэхніка.

Ацёл каровы звычайна працягваецца не больш 6-ці гадзін і рэдка патрабуецца дапамога для выхаду плада. Цялё родзіцца мокрым, пакрытым слізззю. Трэба зараз-жа выцерці ад гэтай слізі чыстай анучаю рот, ноздры і ўсё цела цяляці. Можна даць і карове аблізаць цяля. Пупавіну трэба абмыць якім-небудзь абеззаражваючым растворам (2 часткі крэаліна, іёда, лізола, фармаліна або карболавай кіслаты на 100 частак вады).

Потым трэба выціснуць з пупавіны кроў і на адлегласці 2—4 сант. ад жывата перавязаць яе моцна ніткай (змочанай тым-жа дэзінфекцыруючым растворам). На 2 сант. ніжэй перавязкі пупавіну трэба адрэзаць, а канец яе змазаць дзёгцем. Дзёгаць павінен быць незабруджан.

Пасля таго, як цяля такім чынам прыведзена ў парадак, яго трэба сважыць, паставіць на ім яго інвентарны нумар і перанесці ў тую клетку, дзе яно павінна прабыць першыя 10 дзён свайго жыцця.

Жывёлавод у той-жа дзень павінен упісаць нарадзіўшаеся цяля за яго нумарам у інвентарную кнігу або картку, а таксама ў кнігу гадоўлі маладняка. У той-жа дзень павінны быць даны весткі аб новым цяляці ў кантору гаспадаркі. У кнізе пакрыцця, ацёлу і запускаў таксама павінна быць зроблена адзнака аб ацёле каровы.

## Памяшканне для цялят

Цяля ва ўтробе маткі знаходзіцца пры высокай тэмпературы (38° С). Першыя дні жыцця яно дрэнна пераносіць холад. У радзільным аддзяленні, дзе каровы знаходзяцца 10 дзён да ацёлу і 10 дзён пасля ацёлу і дзе павінны знаходзіцца першыя дні жыцця і цяляты, тэмпература павінна трымацца не ніжэй 12°. Каб падтрымаць тэмпера-

туру, тут будуюць печы. Падлога ў гэтым памяшканні павінна быць цёплая.

Цяляты павінны размяшчацца па аднаму ў рашотачныя клеткі. Звонку клеткі, супроць невялікай форткі ў сцяне, трэба прымацаваць абруч, у гэты абруч пры паенні цяляці ўстаўляецца вядро з вызначанай для яго порцыяй малака.

Калі падлога ў радзільні халодная, то клеткі для цялят трэба будаваць на козлах, так каб падлога цялячай клеткі прыходзілася на вышыні 1 м ад узроўню падлогі. Чым вышэй ад падлогі, тым паветра будзе цяплейшае.

Праз 10 дзён цяляты пераводзяцца ў агульны цялятнік. У цялятніку тэмпература можа быць на 2—5° ніжэй, чым у радзільным аддзяленні.

Да 1—1½ месяцаў цялят лепш змяшчаць у цялятніку, кожнага ў асобную клетку. У далейшым можна ў кожнай клетцы размяшчаць па 4-5 цялят аднолькавага ўзросту. Пры гэтым трэба прымаць меры, каб цяляты не сасалі адзін другога, інакш яны могуць захварэць расстройствам.

Цяляты імкнуцца ссаць што-небудзь у першую поўгадзіну пасля паення. На гэты час трэба надзяваць цялятам наморднікі з дроту, або ставіць іх на прывязь, ці замацаваць галаву амерыканскай рашоткай.

Гной у цялятніку прыбіраць 2-3 разы ў дзень; раз у дзень праводзіць поўную ачыстку клетак, падскрэбці і нават падмыць начыста падлогу, пакласці свежую падсцілку.

Раз у дэкаду, асабліва ў радзільным аддзяленні, абмываць клеткі шчолакам ці вапнавай вадою, для прыгатаўлення якой бярэцца 2,4 кгр. гашанай вапны на 1 вядро вады.

У цялятніку пры дапамозе вентыляцыі падтрымліваць чыстату паветра. Разам з тым не дапускаць, каб у цялятніку былі скразнякі.

## Кармленне цяляці да 3-х месячнага ўзросту

Цяля ў першыя 10-15 дзён свайго жыцця абавязкова павінна мець малако ад маткі, а потым пераводзіцца на зборнае малако. У выпадку, калі матка пала, або захварэла, яе можна замяніць здаровай каровай, якая ацялілася ў той-жа самы час.

Малако, якое выдойваецца з вымені каровы ў першыя дні пасля ацёлу, носіць назву малодзіва. Малодзіва мае слабіцельныя ўласцівасці і неабходна цяляці, каб лёгка спаражняцца.

Калі ў гаспадарцы цяляты хварэюць, або падаюць, то цяля ў першыя 5-10 дзён яго жыцця, нельга паіць з вядра, а падпускаць ссаць матку. Малако, якое засталося ў вымені пасля высасвання, здойваць. Праз 10 дзён пачаць выпайку цяляці з вядра.

Калі ў гаспадарцы заразных захворванняў сярод цялят няма і можна добра даглядаць іх, то лепш паіць цяля з першага-ж дня жыцця з вядра.

Пажадана даваць цяляці малако да 3-х месячнага ўзросту. З першых сутак цяляці даюць зусім мала малака (1-2 кг.). Праз кожныя 3 дні норму павялічваюць і к 21 дню даводзяць да найбольшай. Пасля паступова змяншаюць і к канцу 3 месяца даводзяць да нуля. Размеркаванне малака па днях залежыць ад таго, колькі ўсяго малака вызначаць скармліваць цяляці.

**Выпойваць цялят можна на адным цэльным малаку, або паступова замяніць яго, пачынаючы з 21-га дня жыцця, знятым.**

Усесаюзная нарада па гадоўлі маладняка пры ВІЖ [1]) у снежні 1931 г. указала, што пры выпойванні цялят адным цэльным малаком пажадана даваць яго ў такой колькасці:

| | Жывая вага пры нараджэнні | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 20 *кг.* | 25 *кг* | 30 *кг* | 35 *кг* | 40 *кг* |
| Малако за 3 м-цы цёлцы . . . . . | 170 *кг* | 190 *кг* | 205 *кг* | 220 *кг* | 240 *кг* |
| „ „ „ бычку . . . . | 230 „ | 250 „ | 275 „ | 300 „ | 320 „ |

Можна пакінуць толькі палову цэльнага малака, а другую палову замяніць патройнай колькасцю знятага малака.

Так цёлка, якая пры нараджэнні важыла 25 кг., можа атрымаць 95 кг. цэльнага малака + 285 кг. знятага.

Норму малака замяняць праз кожныя 3 дні ў наступным парадку (гл. табліцу на стар. 87).

У гэтым годзе НКЗ БССР прапануе для МТФ наступныя мінімальныя нормы малака пры выпойванні цялят:

для цялят з жывой вагою пры нараджэнні:

а) да 25 *кг* **не менш** 150 *кг* **малака**

б) **ад** 25—30 *кг* не менш 180 *кг* малака

в) „ 30—35 „ „ 200 „ „

г) звыш 35 „ „ 220 „ „

Звычайна ў гаспадарцы выпойваюць цялят па нормам, якія даны цэнтрам. Трэба толькі размеркаваць гэтыя нормы па днях жыцця.

Пачынаючы з 20 дня, цялятам даецца самае лепшае сена, па магчымасці бабовае (скошанае да цвіцення і добра прыбранае). Сена даецца ўволю. Закладваць яго за рашоткі не трэба, а класці ў вузкую высокую скрынку, якая ставіцца ў праходзе побач з клеткай. У клетцы павінна быць акенца, каб цяля магло прасоўваць галаву за сенам.

Пачынаючы з 25 дня, цяля трэба прывучаць да моцных кармоў. Спачатку можна даць прасеяную аўсяную, ільняную муку або ільняны жмых, запарваючы іх кіпятком, не менш як за дзве гадзіны да кармлення. Гэту паранку прымешваць спачатку к малаку. Пачынаюць норму з 50 гр. і к 3 месяцу даводзяць паступова да 1-2 кгр. З 2 месяцу трэба прывучыць цяля да сухога моцнага корму, які ў скрынцы ставіцца, пачынаючы ад 1-1½ месячнага ўзросту, у кармушку з сенам так, каб ён заўсёды быў перад цялём.

З гэтага-ж часу цялятам даюць мінеральную падкормку ў выглядзе змесі з розных частак кухоннай солі, крэйды і касцянай мукі ў колькасці 10 грам на галаву.

## Догляд за цялём

Вёдры, з якіх выпойваюць цялят, пасля кожнай пойкі трэба мыць гарачай вадою і сушыць. Раз у тыдзень мыць шчолакам або вапна-

[1]) Усесаюзны Інстытут жывёлагадоўлі.

I-ы месяц жыцця

| Дні жыцця | 1—3 | | 4—6 | | 7—9 | | 10—12 | | 13—15 | | 16—18 | | 19—21 | | 22—24 | | 25—27 | | 28—30 | | Разам за м-ц | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | цэльн. | зн. | цэльн. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. |
| Літраў малака | 1,5 | — | 3,0 | — | 3.0 | — | 3,75 | — | 3,75 | — | 3,75 | — | | — | 4,5 | 0,75 | 4,5 | 2,25 | 5,25 | 3,0 | 112,5 | 18,00 |

II-гі м-ц.

| Дні жыцця | 31—33 | | 34—36 | | 37—39 | | 40—42 | | 43—45 | | 46—48 | | 49—51 | | 52—54 | | 55—57 | | 58—60 | | Разам за м-ц | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. |
| літраў малака | 4,5 | 3,0 | 3,75 | 3,75 | 3,0 | 4,5 | 3,0 | 5,25 | 2,25 | 5,25 | 1,5 | 6 | 0,75 | 6 | — | 5,25 | — | 5,25 | — | 5,25 | 56,25 | 148,5 |

III-і м-ц

| Дні жыцця | 61—63 | | 64—66 | | 67—69 | | 70—72 | | 73—75 | | 76—78 | | 79—81 | | 82—84 | | 85—87 | | 88—90 | | Разам за м-ц | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. | ц. | зн. |
| літраў малака | — | 4,5 | — | 4,5 | — | 4,5 | — | 3,0 | — | 3'0 | — | 2,25 | — | 2,25 | — | 1.5 | — | 1,5 | — | 0,75 | — | 83,25 |

вым малаком. Для іншай мэты скарыстоўваць вёдры забараняецца. Вялікіх цялят трэба паіць з асобных вёдраў.

Малако для пойкі цялят павінна мець тэмпературу 30-35°, якую яно мае зараз-жа пасля даення. Вельмі гарачае, або вельмі халоднае малако, нясвежае або ледзь закісшае ні ў якім разе цяляці даваць нельга, бо выкліча сільны панос. З 40-45 дзён жыцця можна цялят выпойваць і на кіслым малаку, прастаквашы, але пры ўмове, што малако незабруднена і добра закісла.

Для адмервання патрэбнай порцыі малака трэба мець літр і поўлітра.

Каб цялятніца не памылілася пры адмерванні нормы малака, да стойла кожнага цяляці павінна быць прыбіта дошчачка з нумарам, на якой жывёлавод надпісвае, па меры змянення рацыёна, колькі літраў цэльнага і колькі літраў знятага малака трэба даць цяляці.

Пачынаючы з 15 дня жыцця, цялят і ўзімку трэба выпускаць на прагулку, за выключэннем самых непагодлівых дзён. У першы раз цяля выпускаецца на 5 мінут, а потым пастулова час яго прагулкі можа быць павялічан да 1-2 гадзін.

У летні час цяляты цэлы дзень могуць праводзіць у загарадцы, але тут іх трэба аберагаць ад вельмі гарачых сонечных праменняў. З пачатку 3 месяца цялят трэба пастулова прывучаць да пашы, адначасна даючы ім да канца 3 месяца цалкам усю зімовую кармавую норму, уключаючы і сена. Штодзенна цяля трэба чысціць валасянымі шчоткамі.

Неабходна кожнае цяля ўзважваць пры нараджэнні і ў канцы кожнага месяца. Узважванне павінна заўсёды праводзіцца ў адзін і той самы час дня. Нармальным прыростам у суткі лічыцца:

| | Вага цяляці пры нараджэнні | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | да 20 *кг* | 21—25 *кг* | 26—30 *кг* | 31—35 *кг* | больш 35 *кг* |
| Сярэдні прырост у суткі . . . . . | 400 *гр.* | 450 *гр* | 500 *гр* | 550 *гр* | 600 *гр* |

Усе цяляты павінны быць прымацаваны да той ці іншай цялятніцы, якая цалкам і поўнасцю адказвае за іх рост і развіццё.

Цялятніцы аплачваюцца згодна існуючым палажэнням і нясуць адказнасць за ўвесь адход цялят. НКЗ БССР распрацаваны наступныя нормы аплаты цялятніц:

Нагрузка, прыкладна, у 20 цялят

а) за кожнае выгадаванае цяля да 3-х месячнага ўзросту ў залежнасці ад укормленасці . —7 працадзён

б) за кожнае выгадаванае цяля да 6-ці месяцаў у залежнасці ад укормленасці . . . . . . 5—6 „

в) за кожнае выгадаванае цяля да 1 г. у залежнасці ад укормленасці . . . . . . . . . . 3—4 „

З цялятніцы вылічваюцца працадні:

За кожнае паўшае цяля да 3-х месячнага ўзросту:

за першае . . . . . 5 працадзён
за другое . . . . . . 10 „
за трэцяе . . . . . . 20 „

За кожнае цяля, паўшае ва ўзросце больш 3 месяцаў—25 працадзён.

Таксама ўстаноўлена па БССР сярэдняя гадавая норма вырошчвання цялят да 6 месяцаў: ад кожных 100 кароў—80 цялят. За выкананне гэтай нормы даярка-скотніца і скотнік-бычнік прэміруецца: першая ў 5 руб., а другі—1 руб.

Такія асноўныя правілы кармлення і ўтрымання цялят. Выкананне іх дапаможа нам звесці адход да нуля і выгадаваць маладняк добрай якасці.

Гадоўля маладняка—важнейшае звяно ў вырашэнні праблемы жывёлагадоўлі. Вось чаму класавы вораг найчасцей наносіць нам удар іменна на гэтым участку.

Праявім больш класавай пільнасці, ачысцім ад варожых элементаў кожную брыгаду, ферму, соўгас, даб'емся сапраўднага разгортвання соцспаборніцтва і ўдарніцтва і, шырока выкарыстаўшы вопыт лепшых ударнікаў, ужо 1934 год зробім «годам пералому к уздыму ва ўсей жывёлагадоўчай гаспадарцы».

Правільная арганізацыя працы, ліквідацыя абязлічкі і ўраўнілаўкі, павышэнне адказнасці за работу і чоткае выкананне правіл догляду і кармлення цялят, сістэма прэміявання за лепшы выхад здаровых і моцных цялят—зарука поспеху пры гадоўлі маладняка буйнай рагатай жывёлы.

**Кліменчыч Е. і Ігнатаў П.**

---

## Кніжная паліца

**Молатаў В. М.—Задачы другой пяцігодкі.** Даклад на XVII з'ездзе ВКП(б) 8-II—г. Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., ст. 88, ц. 35 к.

У сваім дакладзе на XVII партз'ездзе тав. Молатаў разгортвае велізарную панараму грандыёзных работ у другой пяцігодцы.

У першай частцы свайго даклада тав. Молатаў характарызуе асноўныя задачы другой пяцігодкі: 1) канчатковую ліквідацыю капіталістычных элементаў у СССР і класаў наогул, устараненне прычын, параджаючых класавыя адрозненні і эксплаатацыю і перамогу перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей; 2) далейшы ўздым добрабыту рабочых і калгаснікаў, павышэнне ўзроўню спажывання ў $2^1/_2$-3 разы; 3) завяршэнне тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі—прамысловасці, транспарта і сельскай гаспадаркі.

Далей тав. Молатаў пераходзіць да грунтоўнага разгляду праблемы завяршэння тэхнічнай рэканструкцыі і далейшага ўздыму народнай гаспадаркі. Другі раздзел прысвечан будаўнічай праграме і новаму размяшчэнню прадукцыйных сіл. Тут тав. Молатаў малюе грандыёзную карціну новага прамысловага будаўніцтва і выкарыстання прыродных рэсурсаў у 2-й пяцігодцы.

Наступны раздзел даклада прысвечаны палепшанню матар'яльнага становішча працоўных і культурнаму будаўніцтву. Спецыяльны раздзел даклада прысвечаны кіраўніцтву партыі і барацьбе за пяцігодку.

Глыбокі, багаты тэарэтычнымі абагульненнямі і фактычнымі данымі, даклад т. Молатава гаворыць аб тым, што велізарныя перамогі першай пяцігодкі былі заваяваны дзякуючы таму, што наша партыя высока трымала сцяг марксізма-ленінізма. Пад гэтым сцягам мы ідзем да перамогі ў другой пяцігодцы.

У гэтым выданні даклада тав. Молатава «Задачы другой пяцігодкі» лічбовыя даныя прыводзяцца ў выпраўленым выглядзе, адпаведна з прынятымі XVII партыйным з'ездам папраўкамі да тэзісаў аб другім пяцігадовым плане.

Пасля даклада змешчаны: паведамленне тав. Молатава аб рабоце камісіі з'езда па тэзісах аб другой пяцігодцы і рэзалюцыі XVII з'езда ВКП(б) па дакладах тт. Молатава і В. Куйбышэва. «Аб другім пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР».

**Куйбышэў В. В. Другі пяцігадовы план.** Даклад на XVII з'ездзе ВКП(б). Менск, Партвыдавецтва, 1934, ст. 70, ц. 25 к., тыр. 35000.

Даклад тав. Куйбышэва насычан лічбамі і фактамі, дае яркі малюнак соцыялістычнага будаўніцтва ў 2-й пяцігодцы. У другой пяцігодцы СССР становіцца краінай, якая завяршае тэхнічную рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі, ператвараецца ў краіну не толькі самай буйнай, але і самай перадавой сельскай гаспадаркі.

Дакладчык падрабязна характарызуе развіццё ўсіх галін народнай гаспадаркі і асаблівую ўвагу ўдзяляе вузлавым задачам другой пяцігодкі. Поўная перамога над адставаннем транспарта, выраўніванне паасобных галін цяжкай індустрыі (нафта, чорная і каляровая металургія, хімія, механізацыя працаёмкіх працэсаў, рэканструкцыя лёгкай і харчовай індустрыі, развіццё жывёлагадоўлі і павышэнне ўраджайнасці)—вось што перш за ўсё патрабуе неадкладнага вырашэння.

**Ленин В. И. Философские тетради.** Под ред. В. В. Адоратского и В. Г. Сорина. Москва, ИМЭЛ. Партиздательство, 1933 г., ст. 472 ц. 5 р.

«Философские тетради»—багацейшы ўклад у філасофію марксізма. Яны даюць надзвычай каштоўны матар'ял спецыяльна аб матэрыялістычнай дыялектыцы як метадзе пазнання і рэволюцыйнага дзеяння. У іх даецца па асобных пытаннях дыялектыкі велізарнае багацце азначэнняў, асвятляюцца розныя бакі і глыбокае раскрыццё законамернасцей развіцця рэчаіснасці. Ленін дае тут класічнае азначэнне прадмета матэрыялістычнай дыялектыкі і звязны малюнак законаў, якія прадстаўляюць сабой канкрэтызацыю і развіццё асноўнага закона—закона адзінства і барацьбы процілегласцей.

«Тетради» змяшчаюць таксама і крытыку Ленінным Плеханава. Фрагмент «Да пытання аб дыялектыцы» прадстаўляе сабой самае глыбокае і сціслае выкладанне матэрыялістычнай дыялектыкі. «Философские тетради»—гэта ўзор глыбокага вывучэння гісторыі навук і прыродазнаўства, гісторыі філасофіі і асаблівасцей гісторыі дыялектыкі.

**Ленин В. И. Государство и революция.** Москва. Партиздательство, 1933 г. стр. 96, ц. 60 к.

Гэты класічны твор Леніна ўскрывае апартуністычныя скажэння вучэння Маркса і Энгельса аб дзяржаве, паказвае, што асноўная сутнасць марксізма заключаецца ў вучэнні аб дыктатуры пролетарыята.

Адзначыўшы з вычарпальнай якасцю аб гістарычнай ролі і значэнні буржуазнай дзяржавы, як прадукта непрымірымасці класавых супярэчнасцей і як зброі эксплаатацыі прыгнечанага класа, Ленін выцягнуў на свет скажоныя, зуродаваныя апартуністамі важнейшыя палажэнні Маркса і Энгельса аб неабходнасці і немінучасці наступлення насільственай соцыялістычнай рэволюцыі, немінучасці злому, знішчэння буржуазнай дзяржаўнай машыны. На аснове накопленага вопыту класавай барацьбы пролетарыята ў эпоху імперыялізма, вопыту Парыжскай комуны і трох рускіх рэволюцый, Ленін намеціў геніяльную праграму пролетарскай дыктатуры і яе рэволюцыйнай дзейнасці.

**Ленін В. І. Як арганізаваць спаборніцтва. Вялікі пачын.** Менск, Партвыдавецтва, 1934, ст. 27, ц. 25 к.

У артыкуле «Як арганізаваць спаборніцтва» абгрунтоўваецца неабходнасць і немінучасць соцыялістычных адносін да працы з боку пролетарыята пасля яго перамогі над буржуазіяй. Буржуазнай канкурэнцыі, дэспатызму і прыслужніцтву В. І. процістаўляе соцыялістычнае спаборніцтва мас, прыцягненне іх да арганізацыі, уліку, кантроля і кіравання дзяржавай, шырокае разгортванне здольнасцей, актыўнасці і энергіі мас у інтарэсах соцыялістычнага будаўніцтва.

Артыкул «Вялікі пачын» прысвечан ролі комуністычных суботнікаў, якія знамянавалі сабою свядомыя соцыялістычныя адносіны рабочых да працы. Тав. Ленін падкрэслівае, што комуністычная арганізацыя грамадскай працы трымаецца на свабодзе і свядомай дысцыпліне саміх працоўных, звергнуўшых іга памешчыкаў і капіталістаў.

**Ленін і Сталін аб социялістычным спаборніцтве.** Менск, Партвыдавецтва, ст. 97, ц. 25 к.

У брашуры сабраны вытрымкі з асноўных работ і выказванняў В. І. Леніна і І. В. Сталіна аб социялістычным спаборніцтве. **Артыкулы Леніна:** социялістычнае спаборніцтва і працоўная дысцыпліна; аб характары нашых газет; вытрымкі з брашуры «Вялікі пачын»; ад разбурэння векавога ўкладу да вытворчасці новага. **Артыкулы Сталіна:** З прадмовы да брашуры «Спаборніцтва мас», соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва—састаўная частка большэвіцкага наступлення.

Дадаткі: адозва 16-ай канферэнцыі ВКП(б) і вытрымка з пастановы XVII канферэнцыі ВКП(б) аб спаборніцтве.

**Ленін В. І. Аб кааперацыі.** Москва, ИМЭЛ, Партиздательство, 1934 г., ст. 132, ц. 1 р. 25 к.

Зборнік складзен з найбольш важных артыкулаў, урыўкаў з іх і прамоў Леніна пра кааперацыю. У ім чытач знойдзе ўсё тое асноўнае, што Ленін гаварыў і пісаў аб самых розных відах кааперацыі—спажывецкай, сельска-гаспадарчай, крэдытнай, вытворчай у самыя розныя перыяды: ва ўмовах царскай Расіі, ва ўмовах заходне-еўрапейскага капіталізма, ва ўмовах ваеннага комунізма і ва ўмовах новай эканамічнай палітыкі.

Усё тое, што было напісана і выказана Леніным аб кааперацыі, можа быць у асноўным разбіта на 5 груп:

1. артыкулы, напісаныя ў час барацьбы з народнікамі.
2. артыкул з «Социял-дэмакрата» (1910 г.) з повадў кааперацыйнай рэволюцыі і Копенгагенскага социялістычнага кангрэса;
4. артыкулы і прамовы за час ваеннага комунізма (з 1918 па 1920 г.);
5. артыкулы і прамовы перыяда новай эканамічнай палітыкі (з 1921 на 1923 г.).

У канцы змешчан спіс рэкамендуемай літаратуры аб кааперацыі.

**Ленін В. І. Аб нарушэнні адзінства, прыкрываемым крыкамі аб адзінстве.**

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., ст. 20, ц. 20 к.

Гэты артыкул Леніна з'явіўся адказам на паклёпніцкае абвінавачванне Троцкім большэвікоў у «фракцыйнасці» і «раскольніцтве». Уладзімір Ільіч выкрывае сапраўдны характар «нефракцыйнай» групы Троцкага, яе спробы дэзарганізаваць і раскалоць рабочы рух у інтарэсах абароны апартунізма і рэфармізма. Бяздзейнасці, беспрынцыпнасці і ліквідатарскай рабоце Троцкага, яго «тушынскім пералётам» з аднаго лагера ў другі—В. І. процістаўляе адзінства, непрымірымасць да апартунізма і дысцыпліну большэвікоў.

**Ленін В. І. Аб школе і комуністычным выхаванні моладзі.**

Пад рэд. А. Зюзькова. Менск, Партвыдавецтва, 1933, ст. 22, ц. 65 к.

Зборнік В. І. Леніна «Аб школе і комуністычным выхаванні моладзі» падрыхтован да друку секцыяй юнкомруху Ін-та гісторыі партыі. У ім сабраны галоўнейшыя артыкулы і прамовы, у якіх Ленін крытыкуе старую буржуазную школу і дае ясную ўстаноўку ў справе комуністычнага выхавання моладзі, арганізацыі совецкай палітэхнічнай школы, барацьбы за якасць ведаў.

Вялікае значэнне гэты зборнік мае ў нас, у БССР, дзе класавы вораг, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сцягам, імкнецца скарыстаць школу ў сваіх мэтах. Гэты зборнік некаторых твораў Леніна зрывае з ворагаў іх фальшыва-нацыянальны сцяг.

**ЛЕНИНИЗМ.** «Хрестоматия». Составлена бригадой ЛОКА. Под общей ред. В. Быстрянскага и М. Мишина. Ленинград, Ленпартиздательство, 1933 г., стр. 767, ц. 5 р. 40 к.

Гэта хрэстаматыя значна адрозніваецца ад «Учебной книги по ленинизму», складзенай гэтай-жа брыгадай аўтароў. Значна зменена пабудова як усёй кнігі, так і паасобных тэм. Зачова пастаўлены тэмы: «Метод і тэорыя», «Стратэгія і тактыка», «Стыль у рабоце»; значна зменена структура тэмы «марксізм-ленінізм» (упор узят на вывучэнне састаўных частак і крыніц марксізма, таго новага і асаблівага, што ўнёс Ленін у скарбніцу марксізма), у адпаведнасці з чым тэма названа «ленінізм-марксізм эпохі імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый». Астатнія тэмы падвергліся таксама значнай перапрацоўцы і пераплініроўцы матар'ялу.

Усе гэтыя змены з'яўляюцца рэзультатам даўно наспеўшай перабудовы праграмы курса па ленінізму ў адпаведнасці са схемай «Асноў ленінізма» і праграмы т. Сталіна, данай ім у плане семінара па ленінізму ў Комуністычным універсітэце ім. Свердлова ў 1924 г.

Некаторыя вялікай важнасці тэмы, якія дагэтуль мала або зусім не асвятляліся ў курсе ленінізма, пастаўлены нанова. Такавы, напр., пытанні метаду ленінізма, пытанні стылю ў рабоце, якія маюць першаступеннае выхаваўчае значэнне і набываюць асаблівую ролю на сучасным этапе соцыялістычнага будаўніцтва; значна паўней асветлены, у сувязі з вылучэннем у асобную тэму, пытанні стратэгіі і тактыкі, і асобным раздзелам пастаўлена пытанне аб партбудаўніцтве ў эпоху дыктатуры пролетарыята і т. д.

Большасць раздзелаў тэм пачынаюцца з той ці іншай главы з работ т. Сталіна «Аб асновах ленінізма» або «К пытанням ленінізма», якія граюць ролю кіруючых уводзін да адпаведных частак тэмы або тэмы ў цэлым.

**Сорын В. Г. Першыя крокі Леніна па стварэнню партыі.** Масква. Партиздательство, 1934 г., ст. 134, ц. 1 р. 15 к.

Большэвіцкая партыя ўзнікла ў 1903 г., але рэволюцыйная дзейнасць Леніна, правадыра большэвікоў, пачалася значна раней. Самай буйнай справай Леніна ў маладасці было стварэнне ім ў 1893—1897 гг. славутай рэволюцыйнай арганізацыі «Петербурского союза борьбы за освобождение рабочего класса», які, як даказвае аўтар, ёсць першае з'яўленне зараджаючагася большэвізма на гістарычнай арэне, на арэне рэволюцыйнай барацьбы пролетарыята.

Гэты папулярны біяграфічны нарыс якраз і малюе гэты адрэзак жыцця і дзейнасці Леніна.

**Варга Е. Новыя з'явы ў сусветным эканамічным крызісе.** Масква, Партиздательство, 1934 г.

Кніжка, багата снабжоная статыстычнымі данымі, дае глыбокі і правільны аналіз агульных вынікаў сусветнага эканамічнага крызіса. Спыніўшыся на поспехах Савецкага саюза, аўтар потым разбірае прычыны зацяжнога характару крызіса капіталізма і асаблівасці наступіўшай дэпрэсіі. Далей ён гаворыць аб наспяванні аб'ектыўных прадпасылак для звяржэння буржуазіі. Кніжка паслужыць каштоўным дапаможнікам для вывучэння сучаснага этапа развіцця агульнага крызіса капіталізма.

**Новік П. Палесціна без пакрывала** (на яўрэйскай мове) Менск, ДВБ, 1933 г., ст. 80.

Гэта кніжка—зборнік газетных нарысаў, напісаных Новікам з Палесціны, куды аўтар паехаў у 1932 г. па прапанове яўрэйскай амерыканскай комуністычнай газеты «Морген-фрайгайт» у мэтах азнаямлення з сапраўдным становішчам спраў на месцы.

Аўтару ўдалося сабраць вялікі, зусім новы і свежы матар'ял, які не пакідае ніякага сумнення ў легендарнасці казак аб «росквіце» «яўрэйскай» дзяржавы, малюе сапраўдную ролю сіяністаў, як агентуры англійскага імперыялізма і звяна ў агульным ланцугу антысовецкага фронта, паказвае Палесціну без рамантычна шавіністычна-клерыкальнага пакрывала.

Аўтар паказвае, што сіяніскі лозунг «заваявання зямлі» і «заваявання работы» на практыцы азначае выцясненне арабаў з сельскай гаспадаркі і прамысловасці. Малюючы карціну беспрацоўя і голаду сярод працоўнага яўрэйскага насельніцтва Палесціны, ён паказвае, што ў сіяніскім «раі» жывецца добра толькі невялікай зграі кулакоў і спекулянтаў, паліцэйска-бюракратычнаму, сіяніскаму апарату.

Уся гэта авантурыцка-каланізатарская палітыка праводзілася сіяністамі ў інтарэсах англійскага імперыялізма. Карлікавыя яўрэйскія калоніі з'яўляюцца ўзброенымі бастыёнамі на стратэгічных лініях англійскага імперыялізма.

Кніжка т. Новіка, напісаная жыва і вобразна, багатая фактычным матар'ялам, безумоўна дапаможа нашым брацкім компартыям у выкрыцці фашысцкай сутнасці сіянізма; яна дапаможа і ў нас, у СССР, лягчэй і хутчэй зжыць некаторым слаям адсталай часткі працоўных элементы нацыяналізма—рэшткі капіталізма ў свядомасці людзей.

---

# ПАСТАНОВЫ ЦК КП(б)Б

## Аб рабоце цэнтральных газет з рабселькорамі і з лістамі працоўных

### Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б

ЦК КП(б)Б адзначае аграмадны рост палітычнай актыўнасці рабселькораў, што пацвярджаецца павялічваючымся прытокам у цэнтральны і нізавы друк карэспандэнцый і лістоў працоўных па ўсіх пытаннях соцыялістычнага будаўніцтва.

Побач з гэтым ЦК адзначае нездавальняючае скарыстанне гэтай узросшай актыўнасці рабселькораў.

Газеты арганізацыйна не замацоўваюць росту актыўнасці рабселькораў. Слаба кіруюць рабселькорамі. Яшчэ не зжыт фармалізм у рабоце цэнтральных газет з карэспандэнцыямі рабселькораў і з лістамі працоўных.

Рэдакцыя і партком газет «Звязда», «Рабочий», «Калгаснік Беларусі», «Чырвоная змена» гэтаму важнейшаму і адказнаму ўчастку сваёй работы не ўдзялілі неабходнай увагі, у рэзультаце чаго рашэнне ЦК КП(б)Б ад 16 красавіка 1933 г. і ўказанні камісіі па чыстцы партыі не выкананы. Дагэтуль не была ўстаноўлена адказнасць аддзелаў за лісты рабселькораў, у выніку чаго карэспандэнцыі рабочых і калгаснікаў перасылаюцца з аддзела ў аддзел і ў архіў без рэагавання, што з'яўляецца рэзультатам груба-фармальных адносін рэдакцыі «Звязда», «Рабочий» і інш. да лістоў рабочых.

У мэтах неадкладнага знішчэння ўказаных недахопаў **Бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

1. Усклaсці персанальную адказнасць за работу з рабселькорамі не рэдактароў газет, а ў аддзелах—на загадчыкаў аддзеламі. Пры газетах «Звязда» і «Рабочий» арганізаваць аддзелы па рабоце з рабселькорамі.

Абавязаць рэдактароў цэнтральных і палітаддзельскіх і раённых газет сістэматычна праводзіць масавую работу з рабселькорамі і перыядычна рабіць справаздачу перад імі, з удзелам пракуратуры, аб скарыстанні рабселькораўскіх заметак і лістоў працоўных.

2. Агульнае кіраўніцтва рабселькораўскім рухам у БССР ускласці на рэдакцыю «Звязда».

3. Абавязаць ГК і РК КП(б)Б у адпаведнасці з рашэннем ЦК КП(б)Б ад 16 красавіка 1933 г. знімаць з работы, хто фармальна і бюракратычна адносіцца да расследвання і рэагавання на лісты працоўных і карэспандэнцыі рабселькораў. Устанавіць тэрмін расследвання і дачы адказу на паступаючыя ў раён лісты, як правіла, не больш 10 дзён.

4. Даручыць т. Кузьміну забяспечыць нечарговы разгляд усіх спраў аб несвоечасовым рэагаванні на карэспандэнцыі рабселькораў і лісты працоўных.

5. Даручыць рэдактарам цэнтральных газет разам з гаркомамі партыі—Менск, Віцебск, Гомель—падабраць і вылучыць рабселькораў на работу ў рэспубліканскі друк.

6. Абавязаць ГК, РК КП(б)Б, палітаддзелы і рэдактароў газет дэкаднік друку гэтага года правесці пад кутом погляду максімальнага ўзняцця работы з рабселькорамі і забяспечання беражлівых і ўважлівых адносін да кожнай заметкі і да лістоў працоўных.

7. ЦК прапануе правесці дэкаднік пад кутом погляду ўмацавання сувязі друку з масамі, узмацнення дзейнасці лістоў працоўных і палепшання кіраўніцтва рабселькорамі, што павінна стаць асноўным зместам правадзімага па БССР з 5 па 15 мая дэкадніка друку. Рэдактарам газет умацаваць аддзелы лістоў палітычна кваліфікаванымі і арганізацыйна падрыхтаванымі работнікамі.

8. Даручыць аддзелу культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б арганізаваць праверку выканання данай пастановы з прадстаўленнем рэзультатаў праверкі на Бюро ЦК.

# Аб мерапрыемствах па фізкультурнаму руху ў БССР

## Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б

ЦК КП(б)Б адзначае, што фізкультурны рух у Беларусі дасягнуў за апошнія два гады вялікіх поспехаў у справе ахопу шырокіх працоўных мас фізічным выхаваннем, ператварыўшыся ў адну з масавых арганізацый, ахапляючай 150 тысяч фізкультурнікаў па самадзейнаму руху. Перабудова фізкультурнага руху на аснове адзінай совецкай сістэмы фізкультуры карэнным чынам змяніла змест фізкультурнай работы ў адпаведнасці з сучасным этапам соцыялістычнага будаўніцтва. Наяўнасць 120 тысяч здаўшых поўнасцю іспыт па комплексу «Гатоў да працы і абароны» сведчыць аб велізарнай рабоце, праводзімай фізкультурнымі арганізацыямі ў справе падрыхтоўкі шырокіх мас працоўных да працы і абароны.

Побач з гэтым ЦК КП(б)Б прызнае наяўнасць істотных недахопаў у рабоце фізкультурных арганізацый, асноўнымі з якіх з'яўляюцца:

а) значнае адставанне фізкультурнага руху Беларусі ў галіне спартыўнай тэхнікі;

б) надзычай слабое разгортванне фізкультурнага руху ў соцсектары вёскі і недастатковасць кіраўніцтва гэтым участкам работы;

в) слабая падрыхтоўка фізкультурных спецыялістаў (педагогаў, інструктароў, медычных работнікаў);

г) нездавальняючы ўдзел ведамственых арганізацый (НКА, НК аховы здароўя, Белсампромсовет) у разгортванні фізкультурнай работы па сваёй галіне.

**Бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

1. Паставіць у якасці адной з важнейшых задач перад фізкультурным рухам і яго кіраўніцтвам, не аслабляючы барацьбы за масавасць і ахоп комплексаў «ГПА», павышэнне якасці фізкультурнай работы і ўзняцце спартыўна-тэхнічных дасягненняў да ўзроўню перадавых фізкультурных арганізацый Саюза, для чаго:

а) арганізаваць адзіную цэнтральную спартыўную школу з адрывам ад вытворчасці—на 100 чал., з аддзяленнямі: па лёгкай атлётыцы, гульнях, гімнастыцы, воднаму спорту і зімовых відах для майстраў паасобных відаў спорту;

б) арганізаваць школы па асобных відах спорту ў Менску, Віцебску, Гомелі, Бабруйску, Оршы, Магілеве, Полацку, Барысаве без адрыву ад вытворчасці. Абавязаць РК КП(б)Б і РВК вышэйпаказаных раёнаў забяспечыць выдзяленне неабходных сродкаў для арганізацыі і работы даных школ у парадку выканання бюджэту;

в) даручыць ЦСПСБ разам з ВСФКБ арганізаваць аналагічныя школы без адрыву ад вытворчасці на буйнейшых 10—15 прадпрыемствах рэспублікі, выдзеліўшы неабходныя сродкі;

г) санкцыянаваць ВСФКБ правядзенне ў ліпені гэтага года ўсебеларускай спартакіяды.

2. Выходзячы з неабходнасці забяспечання фізкультурных арганізацый фізкультурнымі кадрамі сярэдняй, ніжэйшай і вышэйшай кваліфікацыі—прызнаць неабходным:

а) пашырыць агульны кантынгент навучаючыхся ва Ўсебеларускім тэхнікуме фізкультуры з другога паўгоддзя навучальнага 1934 года на 100 чалавек. Абавязаць НКФін унесці на зацверджанне СНК праект прапановы аб крыніцах пакрыцця гэтых расходаў;

б) для забяспечання вышэйшым інструктарскім складам арганізаваць у 1935 г. Фізкультурны інстытут.

Даручыць Дзяржплану БССР сумесна з Вышэйшым саветам фізкультуры вызначыць кантынгенты і профіль гэтага інстытута і ўключыць арганізацыю гэтага інстытута і неабходныя сродкі ў народнагаспадарчы план.

3. Абавязаць ЦСПСБ падрыхтаваць за летні перыяд бягучага года праз кароткатэрміновыя курсы не менш 35 інструктароў фізкультуры для нізавых вытворчых калектываў за лік сродкаў саюзных арганізацый.

4. Абавязаць ВСФКБ, ЦК ЛКСМБ, Наркамзем, Упаўнаркамсоўгасаў і ЦСПСБ дабіцца ўжо ў бліжэйшы перыяд стварэння арганізаванага фізкультурнага руху ў соцсектары вёскі, намеціць сумесны план практычных мерапрыемстваў у гэтай галіне, для чаго:

а) абавязаць палітківраўніцтва Наркамзема пабудаваць у 1934 г. у 300 калгасах зоны дзейнасці МТС фізкультурныя пляцоўкі, прыцягваючы для арганізацыі раду работ—працу і сродкі калгаснікаў;

б) абавязаць Упаўнаркамсоўгасаў разам з ЦСПСБ і ЦП саюзаў дабіцца пабудовы фізкультурных пляцовак пры кожным соўгасе і стварэння неабходнай матар'яльнай базы для разгортвання фізкультуры рабочых соўгасаў;

в) правесці ў студзені 1935 года ўсебеларускую калгасна-соўгасную спартакіяду;

г) прапанаваць Наркамзему, Упаўнаркамсоўгасаў, ЦП жывёлагадоўчых і земляробчых соўгасаў і ВСФКБ падрыхтаваць за летні перыяд праз двухмесячныя курсы 100 інструктароў фізкультуры для соцсектара вёскі, адпаведна вылучыць неабходныя сродкі для гэтай мэты;

д) сканцэнтраваць кіраўніцтва фізкультурнай работай у вёсцы ў сістэме палітаддзелаў. Даручыць палітсектару Наркамзема праз работнікаў па масавай рабоце прыняць актыўны ўдзел у арганізацыі фізкультурных гурткоў і забяспечыць практычнае кіраўніцтва імі.

5. Абавязаць Наркамасветы забяспечыць арганізацыю ў педвузах і педтэхнікумах кафедраў і аддзяленняў па фізкультуры для падрыхтоўкі фізкультурных кадраў. У месячны тэрмін разам з ВСФКБ забяспечыць праверку і перабудову фізічнага выхавання ў навучальных установах на аснове новых праграм па комплексу «ГПА». Наркамасветы вылучыць работніка для ажыццяўлення кіраўніцтва фізкультурнай работай у навучальных установах.

6. Прапанаваць НКАховы здароўя забяспечыць пастаноўку ўрачэбнага кантролю над фізкультурнай работай, прымяняючы метад

перасовачнага медкантролю, арганізацыю медычных габінетаў у раёнах, арганізацыю кафедраў на курсах удасканалення дактароў і медперсанала, а таксама ў навучальных установах.

НКАховы здароўя вылучыць у апараце работніка, адказваючага за пастаноўку медкантролю ў фізкультурных арганізацыях і па ўсёй фізкультурнай рабоце.

7. Прапанаваць Белсампромсовету распрацаваць план фізкультурнай работы па сваёй сістэме (кадры, матар'яльная база і т. д.) і прыняць меры да ўзмацнення фізкультурнай работы.

8. У сувязі з надыходзячым пераводам Камітэта радыёвяшчання ў другое памяшканне, перадаць памяшканне камітэта радыёвяшчання пад фізкультурны тэхнікум.

9. Вышэйшаму совету фізічнай культуры прадставіць памяшканне ў Доме ўрада ў памяшканні ЦВК і за лік яго нормы.

10. Арганізаваць пры газеце «Чырвоная змена» спецыяльную фізкультурную ўкладку (адзін раз у пяцідненку) і даручыць аддзелу культуры і прапаганды забяспечыць гэта мерапрыемства фондам паперы.

11. Даручыць аддзелу культуры і прапаганды ўмацаваць нізавую сетку ВСФКБ не менш чым 20 кіруючымі партыйнымі работнікамі.

ЦК КП(б)Б звяртае ўвагу партыйных, комсамольскіх, профсаюзных і совецкіх органаў на ўсё яшчэ слабое кіраўніцтва з іх боку справай фізкультурнага руху. Улічваючы, што на даным этапе соцыялістычнага развіцця справа фізічнай культуры набывае асабліва важнае значэнне,—ЦК КП(б)Б прапануе ўсім арганізацыям узмацніць кіраўніцтва і дапамогу фізкультурнаму руху і распрацаваць практычныя мерапрыемствы ў адпаведнасці з гэтай пастановай ЦК КП(б)Б.

Галоўліт'ел №А 3595.
Тыраж 6405.
341.440 друк. зн ($6^{1}/_{4}$ арк.)
Здана ў набор 9/V—34 г.
Падпісана да друку 17/V—34 г.
Набрана на лін. № 6
Адк. кар. друк *А. Мацкевіч*



Друкарня імя Сталіна, зак. № 730






**ЦАНА 25 кап.**



ВЫДАВЕЦТВ... ...ОДА"
Менск, Чырвонаар... ...ЦК КП(б)Б, пакой 105.

# ЧАСОПІС „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ"

**ОРГАН ЦК КП(б)Б.**

**Б. Б.** асвятляе асноўныя пытанні марксізма-ленінізма, тэарэтычныя і практычныя пытанні партыйнай, савецкай, гаспадарчай, прафесіянальнай работы і вядзе рашучую барацьбу за генеральную лінію партыі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** асвятляе пытанні нацыянальнай палітыкі партыі і вядзе рашучую барацьбу з буржуазна-нацыяналістычнымі скажэннямі лініі партыі ў нацыянальным пытанні.

**Б. Б.** асвятляе ўсе пытанні тэорыі і практыкі культурнага будаўніцтва і марксісцка-ленінскага выхавання.

**Б. Б.** шырока асвятляе работу палітаддзелаў МТС і соўгасаў, іх барацьбу за соцыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі.

**Б. Б.** асвятляе работу палітаддзелаў транспарта ў справе выканання задач, пастаўленых перад намі партыяй.

**Б. Б.** шырока асвятляе пытанні партыйнага будаўніцтва, пытанні перабудовы партыйнай работы ў адпаведнасці з рашэннямі ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.

**Б. Б.** у абагуленым парадку асвятляе вопыт работы раёнаў, прадпрыемстваў, паасобных парт'ячэек на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва, работу соўгасаў, калгасаў, МТС, транспарта і іх барацьбу за рэалізацыю чарговых задач, высунутых партыяй.

**Б. Б.** увёў аддзел кансультацыі па розных пытаннях: палітыка-эканамічных, агратэхнічных і інш.

**Б. Б.** разлічан на кіруючы і нізавы партактыў, які вядзе работу ў розных галінах нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** з'яўляецца часопісам абсалютна неабходным у штодзённай рабоце партарганізацый, кіруючым часопісам па пытаннях партбудаўніцтва як для парткомаў і ячэек, так і для паасобных членаў партыі.

## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на час. „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ" на 1934 год

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**

| 24 нумары ў год | На год Р. | На год К. | На 6 м-цаў Р. | На 6 м-цаў К. | На 1 м-ц Р. | На 1 м-ц К. | Кошт аднаго нумара |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | — | 3 | — | — | 50 | 25 к. |

Падпіска прымаецца штомесяц усімі райбюро Саюздруку, паасобнымі упаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, ва ўсіх паштовых аддзяленнях, агенцтвамі і ўсімі газетаносцамі.